

# КАЛОМБА

Pè far la to vendetta,
Sta sigur', vasta anche ella.

*Vocero du Niolo*[1]

## I

У першыя дні кастрычніка 181... палкоўнік сір Томас Нэвіл, ірландзец, відны афіцэр англійскіх войскаў, вяртаючыся з падарожжа ў Італію, спыніўся ў марсэльскім гатэлі «Баво». Пастаяннае захапленне падарожнікаў-энтузіястаў стала звычаем, і, каб неяк вызначыцца, многія турысты сёння бяруць за дэвіз словы Гарацыя nil admirari[2]. Менавіта да гэтага роду незадаволеных падарожнікаў належала міс Лідзія, адзіная палкоўнікава дачка. «Ператварэнне» здалося ёй пасрэдным, вывяржэнне Везувія адно трошкі вышэйшым за коміны бірмінгемскіх заводаў. Увогуле Італія не задаволіла яе, бо гэтай краіне не ставала мясцовага каларыту, характару. Хто можа, няхай тлумачыць сэнс гэтых словаў; некалькі год таму я разумеў іх цудоўна, а цяпер не разумею ніяк. Спачатку яна цешылася надзеяю знайсці па той бок Альпаў рэчы, якіх да яе ніхто не бачыў і пра якія яна магла б пагутарыць з «прыстойнымі людзьмі», як казаў пан Журдэн. Але хутка заўважыла, што паўсюль ужо наведаліся яе суайчыннікі, і, зняверыўшыся сустрэць хоць штосьці невядомае, яна пачала ўсё ганіць.

І сапраўды непрыемна, што немагчыма распавесці пра дзівосы Італіі, каб нехта не сказаў: «Вы ж, напэўна, ведаеце гэтую карціну Рафаэля з палаца ***, у ***? Гэта найлеп-

[1] Але можаш быць спакойны, яна здолее адпомсціць *(карсік.)*.

[2] Ні з чаго не дзівіся *(лац.)*.

шае, што ёсць у Італіі». А якраз яе вы і прамінулі. Каб убачыць усё, трэба зашмат часу, самае простае — усё ганіць.

У гатэлі «Баво» міс Лідзію чакала горкае расчараванне. Яна прывезла малюнак пеласгічнае ці цыкланічнае брамы ў Сэні, ёй здавалася, што аматары малявання забыліся пра яе. Але лэдзі Фрэнсіс Фэнвіч, сустрэўшы яе ў Марсэлі, паказала свой альбом, у якім паміж малюнкам званіцы і засушанаю кветкай знаходзілася тая самая брама, напісаная барвоваю охрай. Міс Лідзія аддала Сэнійскую браму сваёй пакаёўцы і страціла ўсялякую павагу да пеласгічных збудаванняў.

Палкоўнік Нэвіл, які па смерці сваёй жонкі глядзеў на свет выключна вачыма міс Лідзіі, падзяляў яе сумны настрой. Ён лічыў, што Італія не мае аніякага права засмучаць ягоную дачку, і з тае прычыны яна — найсумнейшая краіна ў свеце. Праўда, ён не меў нічога супраць карцін і помнікаў, але пераканаўся, што паляванне ў гэтай краіне аніякае, і трэба было ababегчы пад спякотным сонцам дзесяць лье ў ваколіцах Рыма, каб забіць пару благенькіх курапатак.

На другі дзень пасля прыезду ў Марсэль ён запрасіў на вячэру свайго былога ад'ютанта, капітана Эліса, які нядаўна вярнуўся з Корсікі, дзе ён прабыў шэсць тыдняў. Ён цудоўна распавёў міс Лідзіі гісторыю пра бандытаў, якая была каштоўная тым, што аніяк не нагадвала гісторыі пра злодзеяў, якія часта расказвалі дарогаю з Рыма ў Неапаль. Па абедзе мужчыны, застаўшыся самі пры пляшках бардоскага, загаварылі пра паляванне, і палкоўнік даведаўся, што няма краіны, дзе паляванне лепшае, разнастайнейшае, багацейшае, чым на Корсіцы. «Там убачыш безліч дзікоў,— расказваў капітан Эліс.— Але трэба навучыцца адрозніваць іх ад свойскіх свіней, што дзіўна да іх падобныя, бо, забіўшы свінню, будзеш мець справу з пастухамі. Яны выходзяць з гушчару, што ў іх завецца макі, узброеныя да зубоў, прымушаюць плаціць за жывёлу і насміхаюцца з вас. Ёсць яшчэ муфлоны, вельмі дзіўныя звяры, якіх не знойдзеш больш нідзе, але іх цяжка здабыць. Алені, даніэлі, фазаны, курапаткі,— ніколі не здолеў бы пералічыць усіх звяроў, што вядуцца на Корсіцы. Любіце страляць, палкоўнік — едзьце на Корсіку. Там, як казаў адзін мой знаёмы, вы зможаце пастраляць якіх хочаце звяроў: ад дразда да чалавека».

За чаем капітан зноў зачараваў міс Лідзію гісторыяй пра ўзбочную вендэту[1], што была яшчэ цікавейшая за першы

[1] Помста, што спадае на сваяка крыўдзіцеля *(аўт.)*.

расказ, і канчаткова прывёў яе ў захапленне Корсікаю, расказаўшы пра дзіўны і дзікі выгляд краіны, пра своеасаблівы характар яе жыхароў, пра іхнюю гасціннасць і першабытныя норавы. Нарэшце ён паднёс ёй прыгожы невялічкі стылет, больш ваблівы сваім паходжаннем, чым формаю і аздабленнем. Нейкі знакаміты бандыт саступіў яго капітану Элісу, пераконваючы, што ён пранізаў чатыры чалавечыя целы. Міс Лідзія засунула яго за паяс, потым паклала на начны столік і два разы вымала з похвы да таго, як заснула. У сваю чаргу, палкоўнік сніў, што забівае муфлона, а ўладар жывёліны прымушае яго заплаціць за яе, з чым палкоўнік ахвотна згаджаецца, бо гэта надзвычай цікавы звер, падобны на дзіка з аленевымі рогамі і фазанавым хвастом.

— Эліс кажа, што на Корсіцы цудоўнае паляванне,— сказаў палкоўнік, снедаючы сам-насам з дачкой.— Каб гэта не было так далёка, я б з ахвотаю з'ездзіў туды тыдні на два.

— А што! — адказала міс Лідзія.— Чаму б нам не паехаць на Корсіку? Пакуль вы будзеце паляваць, я займуся малюнкамі. Мне б так хацелася мець у альбоме малюнак грота, пра які казаў капітан Эліс, тога, у якім вучыўся Банапарт, калі быў малы.

Гэта, пэўна, было першы раз, калі жаданне палкоўніка сустрэла падтрымку ў ягонае дачкі. Узрадаваны гэтаю нечаканасцю, ён, аднак, палічыў за разумнае выказаць некалькі заўваг, каб пахіснуць шчаслівы капрыз міс Лідзіі. Але дарэмна ён гаварыў пра дзікасць краіны і пра цяжкасці падарожжа па ёй для жанчыны: яна нічога не баялася, яна больш за ўсё любіла вандраваць конна, яна радавалася, прадчуваючы начлегі на біваках, яна пагражала, што паедзе ў Малую Азію. Карацей, яна мела адказ на ўсё: ніколі ніводная англічанка не была на Корсіцы, значыць, яна павінна туды з'ездзіць. А якое будзе шчасце, вярнуўшыся на Сэнт-Джэймс - Плэйс, паказаць свой альбом! «Ой, чаму, даражэнькая, вы загортваеце гэты чароўны малюнак?» — «А, гэта так сабе, малюнак славутага карсіканскага бандыта, які быў у нас за праваднікa».— «Як! Вы былі на Корсіцы?..»

Паміж Францыяю і Корсікай параходы яшчэ не хадзілі. Палкоўнік пачаў даведвацца пра які-небудзь карабель, што ішоў бы да вострава, які міс Лідзія вырашыла адкрыць для сябе. Тым самым днём палкоўнік напісаў у Парыж і адмовіўся ад кватэры, у якой яны меліся спыніцца, і дамовіўся

з уладаром карсіканскае шхуны, што збіралася ставіць ветразь на Аяча. Каютаў было ўсяго дзве. Гаспадар кляўся, што адзін з ягоных старых матросаў быў прыстойны кухар і не меў сабе роўні ў гатаванні буй-абэсу, ён паабяцаў, што вецер будзе спрыяльны, а мора цудоўнае.

Апроч таго, паводле жадання дачкі, палкоўнік дамовіўся, што капітан не будзе браць іншых пасажыраў і што ён пройдзе ўздоўж берагоў вострава так, каб можна было палюбавацца гарамі.

## II

У дзень, прызначаны да ад'езду, усё было запакавана і загружана з самага ранку: шхуна мелася адысці з вячэрнім брызам. Тым часам палкоўнік з дачкою прагульваліся па Канэб'еры, калі да іх падышоў гаспадар судзіны і папрасіў дазволу ўзяць на борт аднаго сваяка, то бок стрыечнага пляменніка хроснага бацькі ягонага старэйшага сына, які вяртаўся на Корсіку са спешнымі справамі і не мог знайсці спадарожнага карабля.

— Ён добры хлопец,— дадаў капітан Матэі.— Вайсковец, афіцэр пешых стралкоў гвардыі, ён быў бы ўжо палкоўнікам, каб Той заставаўся яшчэ імператарам.

— Ну, калі гэта вайсковец,— сказаў палкоўнік... ён меўся дадаць: Я ахвотна згаджаюся, каб ён ехаў з намі... але міс Лідзія сказала па-англійску: Пяхотны афіцэр!.. (Яе бацька служыў у кавалерыі, і яна пагарджала любым іншым родам войскаў.) Відаць, нейкі неадукаваны дзяцюк, у яго будзе марская хвароба, і ён сапсуе нам усю радасць ад падарожжа!

Капітан ні слова не разумеў па-англійску, але, відаць, сцяміў, пра што казала міс Лідзія, заўважыўшы, як надзьмуліся яе гожыя вусны, і пачаў з усіх бакоў нахвальваць сваяка, пад канец завершыўшы, што гэта вельмі прыстойны чалавек з роду капралаў, што ён ніяк не перашкодзіць пану палкоўніку, бо ён, капітан, уладкуе яго ў кутку, дзе прысутнасці ягонае ніхто не заўважыць.

Палкоўнік і міс Нэвіл здзівіліся, што на Корсіцы ёсць сем'і, дзе тытул капрала пераходзіць ад бацькі да сына. Але яны шчыра лічылі, што гаворка ідзе пра пяхотнага капрала, і вырашылі, што гэта нейкі бядак, якога капітан хацеў узяць з ласкі. Калі б гэта быў афіцэр, яны б мусілі гутарыць з ім, жыць з ім побач; але капрала не было чаго бянтэжыцца, чаго ён варты без сваіх салдатаў з вінтоўкамі

і штыкамі, гатовых весці вас туды, куды вы ісці і не думалі.

— Ці бывае ў вашага сваяка марская хвароба? — суха спыталася міс Лідзія.

— Ніколі, панна. Сэрца ягонае цвёрдае, як скала,— што на вадзе, што на сушы.

— Ну што ж, можаце ўзяць яго,— сказала яна.

— Вы можаце ўзяць яго,— сказаў палкоўнік, і яны пайшлі далей.

Гадзіне а пятай капітан Матэі прыйшоў клікаць іх на шхуну. У порце каля капітанавага яліка яны ўбачылі высокага маладога чалавека ў блакітным сурдуце, зашпіленым да падбароддзя, загарэлага, з прыгожымі вачыма, чорнымі і рухавымі, з адкрытым і разумным тварам. Манера трымацца, невялічкія закручаныя вусы адразу выдавалі вайскоўца, бо на той час вусатыя не траплялiся на кожным кроку, а нацыянальная гвардыя не завяла яшчэ ва ўсіх сем'ях моды на вайсковую выпраўку і на звычкі гвардзейскага корпуса.

Убачыўшы палкоўніка, малады чалавек прыўзняў каскетку і лёгка і прыстойна падзякаваў за зробленую паслугу.

— Рады быць вам карысны, хлопча,— сказаў палкоўнік, па-сяброўску кіўнуўшы галавою, і зайшоў на ялік.

— А ваш англічанін не надта ветлівы,— ціха сказаў малады чалавек гаспадару.

Той прыклаў указальны палец пад левае вока і апусціў куткі вуснаў. Для таго, хто разумее мову знакаў, гэта азначала, што англічанін разумее па-італьянску і што ён дзівак. Малады чалавек злёгку ўсміхнуўся і, адказваючы на знак Матэі, дакрануўся да лоба, бы кажучы, што ў галовах у англічан усё нешта не так. Пасля ён прысеў побач з гаспадаром і з увагаю, але без дзёрзкасці агледзеў сваю прыгожую спадарожніцу.

— Але ж і статныя гэтыя французскія салдаты,— сказаў палкоўнік па-англійску сваёй дачцэ.— То ж бо з іх так лёгка зрабіць афіцэраў.

Потым звярнуўся да маладога чалавека па-французску:

— Скажыце, дружа, у якім палку вы служылі?

Той злёгку штурхнуў бацьку хросніка свайго стрыечнага дзядзькі і, хаваючы іранічную ўсмешку, адказаў, што ён быў у пешых стралках гвардыі і што зараз ён пакінуў сёмы лёгкі полк.

— Вы былі пад Ватэрлоа? Вы ж такі малады!

— Прабачце, палкоўнік, гэта мая адзіная выправа.

— Яна вартая дзвюх,— сказаў палкоўнік.
Малады карсіканец прыкусіў губы.
— Тата,— сказала міс Лідзія па-англійску,— спытай, ці вельмі карсіканцы любяць свайго Банапарта?
Палкоўнік яшчэ не паспеў перакласці пытанне на французскую, а малады чалавек ужо адказваў на досыць добрай англійскай мове, хоць і з выразным акцэнтам:
— Ведаеце, панна, няма прарока ў сваёй краіне. Мы, землякі Напалеона, любім яго, можа быць, меней, чым французы. Што да мяне, то хоць мой род калісьці варагаваў з ягоным, я люблю яго і ім захапляюся.
— Вы гаворыце па-англійску! — сказаў палкоўнік.
— Вельмі кепска, як вы маглі заўважыць.
Хоць гэты вольны тон трохі збянтэжыў міс Лідзію, яна не магла не пасмяяцца, думаючы пра асабістую варожасць паміж капралам і імператарам. Гэта было нібы прадчуванне своеасаблівасці Корсікі, і яна паабяцала сабе занатаваць гэтую рысу ў дзённік.
— Можа быць, вы былі ў палоне ў Англіі? — спытаўся палкоўнік.
— Не, пане палкоўнік, я навучыўся англійскай у Францыі, калі быў зусім малады, ад аднаго палоннага з вашае краіны.
Потым звярнуўся да міс Нэвіл:
— Матэі сказаў мне, што вы вяртаецеся з Італіі. Вы, напэўна, гаворыце на чыстым тасканскім дыялекце, баюся, вам цяжка будзе разумець нашу гаворку.
— Мая дачка разумее ўсе італьянскія гаворкі,— адказаў палкоўнік.— Яна мае здольнасць да моваў. Не тое што я.
— Ці разумее панна, напрыклад, гэтыя словы аднае нашае карсіканскае песенькі? Пастух кажа пастушцы:

S'entrassi 'ndru Paradisu santu, santu,
E nun truvassi a tia, mi n'esciria[1].

Міс Лідзія зразумела, але, палічыўшы словы, а яшчэ больш погляд маладога чалавека за рызыкоўныя, пачырванела і адказала: «Capisco»[2].
— Вы едзеце дадому ў адпачынак? — спытаўся палкоўнік.
— Не, пане палкоўнік. Мяне звольнілі з палавіннаю

[1] «Калі б я трапіў у рай святы і не знайшоў там цябе, я б пайшоў адтуль» (серэнада з Дзыкава) *(аўт.)*.
[2] Разумею *(італ.)*.

пенсіяй, мабыць, за тое, што я быў пры Ватэрлоа і што я зямляк Напалеона. Я вяртаюся дадому вольны ад надзеяў і грошай, як спяваюць у адной песні.

І ён уздыхнуў, паглядаючы на неба.

Палкоўнік усунуў руку ў кішэню і, пакручваючы ў пальцах залатую манету, прыдумляў фразу, з якою мог бы ветліва ўкласці манету ў руку няшчаснага ворага.

— Мяне таксама,— сказаў ён зычліва.— І мяне звольнілі з палавіннаю пенсіяй, але... з вашай палавіннай пенсіяй вы не маеце за што купіць тытуню. Трымайце, капрал.

І ён паспрабаваў усунуць залатоўку ў сціснутую руку, якою малады чалавек абапіраўся на борт яліка.

Карсіканец зачырванеўся, выпрастаўся, закусіў вусны і, здавалася, гатовы быў даць рэзкі адказ. Але раптам выраз ягонага твару змяніўся, і ён засмяяўся. Палкоўнік здзіўлена стаяў з манетаю ў руцэ.

— Палкоўнік,— сказаў малады чалавек ужо сур'ёзна,— дазвольце даць вам дзве парады: першая — ніколі не прапануйце грошай карсіканцу, сярод маіх землякоў ёсць досыць няветлівыя людзі, яны кінуць вам яе ў твар; другая — не давайце людзям тытулаў, на якія яны не прэтэндуюць. Вы называеце мяне капралам, а я лейтэнант. Розніца, канечне, не надта вялікая, але...

— Лейтэнант! — крыкнуў сір Томас.— Лейтэнант! Але гаспадар сказаў мне, што вы капрал, як ваш бацька і ўсе мужчыны з вашага роду.

На гэтыя словы малады чалавек адкінуўся на борт і так шчыра і вясёла засмяяўся, што капітан і два матросы далучыліся да яго.

— Прабачце, палкоўнік,— сказаў нарэшце малады чалавек.— Але непаразуменне гэтае найзабаўнейшае, я зразумеў яго адно зараз. Сапраўды, наш род ганарыцца капраламі, што былі нашымі продкамі. Але карсіканскія капралы ніколі не насілі галуноў на адзенні. Каля тысяча сотага года некалькі камунаў паўсталі супроць тыраніі горскіх сеньёраў. Яны абралі сабе кіраўнікоў, якіх назвалі капраламі. На нашым востраве лічыцца за гонар паходзіць ад гэтых своеасаблівых трыбунаў.

— Прабачце, васпане! — сказаў палкоўнік.— Тысячу разоў прабачце. Калі вы разумееце прычыну маёй памылкі, то, спадзяюся, даруеце мне.

І ён працягнуў руку маладому чалавеку.

— Гэта справядлівая кара за мой маленькі гонар, палкоўнік,— сказаў малады чалавек, усё яшчэ смеючыся, і шчы-

ра пацiснуў руку англiчанiну.— Я зусiм не злуюся на вас. Але як мой сябра Матэі так кепска нас пазнаёміў, то дазвольце адрэкамендавацца самому: я Орса дэла Рэбiя, лейтэнант з палавiннаю пенсiяй. Мяркуючы па вашых сабаках, вы едзеце на Корсіку паляваць, буду рады паказаць вам нашы горы i макi... калi я яшчэ сам іх не забыўся,— дадаў ён, уздыхаючы.

Гэтай хвiлiнаю ялiк прыстаў да шхуны. Лейтэнант падтрымаў мiс Лiдзiю, пасля дапамог палкоўнiку падняцца на палубу. Там сiр Томас, усё яшчэ моцна збянтэжаны сваёю памылкай, не ведаючы, як прымусiць забыць ягоную грубасць чалавека, што вёў свой род з тысяча сотага года, не стаў пытацца згоды сваёй дачкi i запрасiў яго павячэраць з iмi, зноў просячы прабачэння i пацiскаючы яму руку. Мiс Лiдзiя злёгку звяла бровы, але, праўда, яна ўсцешылася, даведаўшыся, што гэта быў за капрал. Нельга сказаць, што малады чалавек ёй не спадабаўся; яна пачала нават знаходзiць у iм нешта арыстакратычнае, адно што ён меў занадта вольны i вясёлы выгляд для героя рамана.

— Лейтэнант дэла Рэбія,— сказаў палкоўнiк, вiтаючы яго на англiйскi манер, з келiхам мадэры ў руцэ.— У Iспанii я бачыў шмат вашых землякоў, гэта былi славутыя пешыя стралкi.

— Так, багата iх палегла ў Iспанii,— сказаў малады лейтэнант сур'ёзна.

— Нiколi не забуду, як трымаўся адзiн карсiканскi батальён у бойцы пры Вiторыi,— працягваў палкоўнiк.— Вось гэта будзе мне пра яе нагадваць,— дадаў ён, шаруючы грудзi.— Цэлы дзень яны адстрэльвалiся з садоў, з-за жываплота i пабiлi ў нас немаведама колькi людзей i коней. Вырашыўшы адступаць, яны сталi шыхтом i пачалi спешлiва адыходзiць. Мы спадзявалiся ўзяць рэванш на раўнiне, але гэтыя д'яблы... прабачце, лейтэнант, гэтыя адважныя хлопцы сталi ў карэ, i мы нiяк не маглi яго прарваць. Пасярэдзiне карэ, вось як зараз бачу,— афiцэр на вараным конiку. Ён трымаўся каля сцяга i палiў цыгару, як дзе ў кавярнi. Часам, нiбы каб падахвоцiць нас, iхнiя музыкi пачыналi граць... Я кiдаю на iх два лепшыя эскадроны... Гоп! Замест таго каб прарваць карэ мае драгуны абыходзяць яго, заварочваюцца i вяртаюцца назад без парадку, i не адзiн конь прыйшоў без вершнiка... I ўвесь час гэтая д'яблава музыка! Калi дым, што ахутваў батальён, рассеяўся, пры сцягу я зноў убачыў афiцэра з цыгараю. Раз'юшаны, я сам узначалiў апошнюю атаку. З iхнiх заку-

рэлых стрэльбаў ужо нельга было страляць, але салдаты стаялі шасцю шэрагамі, выставіўшы штыхі пад мызы коней, нібы сапраўдны мур. Я крычаў, заклікаў сваіх драгунаў, гнаў каня наперад, калі афіцэр, пра якога я вам казаў, нарэшце выпусціў сваю цыгару і рукою паказаў на мяне камусьці са сваіх. Я пачуў нешта накшталт: Al capello bianco![1] У мяне быў белы плюмаж. Больш я нічога не чуў, бо куля прабіла мне грудзі. Гэта быў цудоўны батальён, пане дэла Рэбія, першы батальён васемнаццатага лёгкага палка, усе карсіканцы, як мне пасля казалі.

— Так,— сказаў Орса, вочы якога ззялі падчас расказу.— Яны прыкрылі адыход сваіх і прынеслі сцяг батальёна, але дзве траціны гэтых малойцаў спяць сягоння на раўніне Віторыя.

— А вы часам не ведаеце імя афіцэра, што іх узначальваў?

— Гэта быў мой бацька. Тады ён быў маёрам васемнаццатага палка, а за сваю чыннасць у гэты сумны дзень быў прызначаны палкоўнікам.

— Ваш бацька! Дальбог, ён быў малойца! Я б з радасцю з ім сустрэўся і, напэўна, пазнаў бы яго. Ці ён жывы?

— Не, палкоўнік,— сказаў малады чалавек, злёгку збялеўшы.

— Ён быў пры Ватэрлоа?

— Так, але ён не меў шчасця палегчы ў бітве... Ён памёр на Корсіцы... два гады таму... Божухна! Якое ж мора прыгожае! Я ўжо дзесяць год не бачыў Міжземнага мора. А вам, панна, ці не здаецца, што Міжземнае мора прыгажэйшае за Акіян?

— Мне здаецца, што яно занадта блакітнае... а хвалям не хапае велічы.

— Вы любіце дзікую прыгажосць? У такім разе, я думаю, Корсіка вам спадабаецца.

— Мая дачка,— сказаў палкоўнік,— любіць усё надзвычайнае. Таму і Італія ёй не надта спадабалася.

— У Італіі,— сказаў Орса,— я ведаю толькі Пізу, там я вучыўся нейкі час у калежы. Але я не магу без захаплення ўзгадваць Кампа-Санта, сабор, Пахілую вежу... асабліва Кампа-Санта. Памятаеце «Смерць» Арканы... Здаецца, я здолеў бы намаляваць яе, так адбілася яна ў маёй памяці.

Міс Лідзія напалохалася, каб лейтэнант зноў не распачаў узнёслую прамову.

---

[1] Белы капялюш *(італ.)*.

— Гэта вельмі хораша,— сказала яна, пазяхаючы.— Прабач, тата, мне трохі баліць галава, я, бадай, пайду ў каюту.

Яна пацалавала бацьку ў лоб, велічна кіўнула Орса і знікла. Мужчыны яшчэ гутарылі пра паляванне і пра вайну.

Высветлілася, што пры Ватэрлоа яны стаялі насупраць і, пэўна, абмяняліся не адным стрэлам. Ад гэтага ўзаемная сімпатыя іхняя падвоілася. Яны раскрытыкавалі па чарзе Напалеона, Велінгтона і Блюхера, потым папалявалі разам на ланяў, дзікоў і муфлонаў. Нарэшце, ужо позна ўвечары, дакончыўшы апошнюю бутэльку бардо, палкоўнік яшчэ раз пацiснуў руку лейтэнанту, пажадаў яму дабранач і выказаў надзею на працяг знаёмства, што пачалося так смешна. Яны развіталіся і пайшлі спаць.

## III

Ноч была прыгожая, месяц гуляў на хвалях, лёгкі брыз павольна падганяў карабель. Міс Лідзія не хацела спаць, і толькі прысутнасць гэтага недарэкі перашкаджала ёй наталяцца пачуццямі, што абуджае мора і месяцава святло ў любой чалавечай істоце, калі ў яе ў душы жыве хоць драбінак паэзіі. Вырашыўшы, што малады лейтэнант, як істота празаічная, даўно спіць, яна паднялася, накінула футрачку, пабудзіла сваю пакаёўку і выйшла на палубу. Там нікога не было, апроч матроса-стырнавога, які спяваў на карсіканскім дыялекце нейкую народную песню, дзікаватую і тужлівую. У начной цішы гэты дзіўны напеў быў па-свойму чароўны. На жаль, міс Лідзія разумела не ўсё, што спяваў матрос. У тых месцах, дзе ўсе словы былі ёй знаёмыя, напружаны верш хваляваў яе цікаўнасць, але ў самым прыгожым месцы гучалі дыялектныя словы, сэнсу якіх яна не зразумела. Аднак яна зразумела, што гаворка ідзе пра забойства. Праклёны забойцам, мсцівыя пагрозы, усхваленне забітага — усё змяшалася тут. Яна запомніла некалькі вершаў; паспрабую іх тут перакласці:

«...Ні гарматы, ані штыхі — не прымусілі збялець чало ягонае,— у любой бітве незамутнёнае,— бы неба ўлетку.— Быў ён сокал — сябра арлу,— слодыч мядовая для сяброў,— мора збушаванае для ворагаў.— Вышэйшы за сонца,— мякчэйшы за месяц.— Усе ворагі Францыі не здолелі нават параніць яго,— ды забойцы з родных краёў — забілі

яго ззаду,— як Вітола[1], што забіў Самп'ера Корса.— Ніколі б не наважыліся яны заступіць яму дарогу. — На сцяне над маім ложкам — павесьце мой ганаровы крыж,— сумленна заслужоны.— Чырвоны ў ім каснік,— ды чырванейшая мая кашуля.— Дзеля сына майго, што зараз у краях далёкіх,— захавайце мой крыж і кашулю маю скрываўленую.— Убачыць на ёй ён дзве дзіркі.— За кожную дзірку,— дзірку ў чужой кашулі.— Але ж ці будзе гэта помста? — Мне трэба рука, што страляла,— вока, што цэліла,— сэрца, што задумала...»

Раптам матрос сціх.

— Чаму ж вы не працягваеце, дружа? — спыталася міс Нэвіл.

Матрос кіўком паказаў на чалавека, што выходзіў з рубкі на палубу: гэта Орса прыйшоў цешыцца месяцавым святлом.

— Скончыце ж вашу песню,— сказала міс Лідзія.— Яна мне так спадабалася.

Матрос нахіліўся да яе і ледзьве чутна сказаў:

— Я нікому не раблю *rimbecco.*

— Як? *Rim...*?

Не адказваючы, матрос пачаў насвістваць.

— Бачу, вы любуецеся нашым Міжземным морам, міс Нэвіл,— сказаў Орса, падыходзячы да яе.— Згадзіцеся, што нідзе больш не ўбачыш такога месяца.

— А я на яго і не глядзела. Я займалася вывучэннем карсіканскае мовы. Гэты матрос спяваў нейкую трагічную песню і спыніўся на самым цікавым месцы.

Матрос нахіліўся, нібы каб паглядзець на бусоль, і сярдзіта турзануў міс Нэвіл за футру. Відаць было, што ён не хацеў спяваць гэтую песню пры лейтэнанце.

— Што гэта ты спяваў, Паола Франча? — спытаўся Орса.— Гэта была *ballata* ці *vocero*?[2] Панна цябе разумее і хацела б пачуць канчатак.

---

[1] Філіпіні, кніга XI — імя Вітола карсіканцы і зараз вымаўляюць з пагардаю. Гэта сінонім здрадніка *(аўт.)*.

[2] Калі чалавек памірае, асабліва не сваёю смерцю, яго цела кладуць на стол, і жанчыны з ягонага роду, а калі іх няма, то сяброўкі альбо і чужыя, слынныя праз свой паэтычны талент, імправізуюць перад шматлікімі слухачамі вершаваныя скаргі на мясцовай гаворцы. Гэтыя жанчыны завуцца *voceratrici*, ці ў карсіканскім вымаўленні *buceratrici*, а скаргі завуцца *vocero*, *buceru*, *buceratu* на ўсходнім узбярэжжы і *ballata* на заходнім. Слова *vocero*, таксама як і вытворныя ад яго *vocerar*, *vocerat-*

— Я забыўся яе, Орс Антон,— адказаў матрос і адразу ж загарлаў гімн у славу Багародзіцы.

Міс Лідзія безуважна слухала песню і больш не выпытвала спевака, паабяцаўшы сабе даведацца пра адгадку пазней. Але яе пакаёўка, фларэнцыйка, што ведала карсіканскую гаворку не лепей за сваю гаспадыню, таксама хацела падвучыцца, і не паспела англічанка штурхнуць яе локцем, як яна спытала:

— Пане капітан, а што азначае зрабіць *rimbecco*?[1]

— *Rimbecco*! — сказаў Орса.— Гэта значыць насмерць зняважыць карсіканца: папракнуць яго за тое, што ён не адпомсціў. А хто вам казаў пра *rimbecco*?

— Учора ў Марсэлі,— паспешліва адказала міс Лідзія.— Гаспадар шхуны вымавіў гэтыя словы.

— А пра што ён гаварыў? — жвава спытаўся Орса.

— О! Ён расказваў нейкую старую гісторыю... з часоў... так, здаецца, нешта пра Ваніну д'Арнана.

— Праз смерць Ваніны вы, відаць, незалюбілі нашага героя, адважнага Самп'ера?

— Вы лічыце гэта за геройства?

— Яго злачынства можна даравацъ, ведаючы дзікія норавы тых часоў. Да таго ж Самп'ера вёў зацятую барацьбу з генуэзцамі: ці давяралі б яму землякі, калі б ён не пакараў жанчыну, што хацела дамовіцца з Генуяй?

— Ваніна,— сказаў матрос,— пайшла без мужавага дазволу. Самп'ера добра зрабіў, што скруціў ёй вязы.

— Але,— сказала міс Лідзія,— яна пайшла прасіць літасці ў генуэзцаў, каб ўратаваць свайго мужа, яна кахала яго.

— Прасіць літасці — значыць зганьбаваць яго! — рэзка сказаў Орса.

— А самому забіць яе! — працягвала міс Нэвіл.— Якою пачварай ён відаць быў!

— Вы ж ведаеце, што смерці ад ягонае рукі яна прасіла

---

*rice* паходзяць ад лацінскага *vociferare*. Часам некалькі жанчын імправізуюць па чарзе, а часам жонка ці дачка памерлага сама спявае жалобную скаргу *(аўт.)*.

[1] *Rimbeccare* на італьянскай азначае: «адаслаць, адбіць, адкінуць». На карсіканскім дыялекце гэта азначае: зрабіць абразлівы папрок пры людзях. *Rimbecco* робяць сыну забітага, гаворачы, што ён яшчэ не адпомсціў за бацьку. *Rimbecco* — гэта свайго роду патрабаванне да чалавека, які не змыў крывёю абразы. Генуэзскі закон сурова караў тых, што рабілі *rimbecco (аўт.)*.

як ласкі. А Атэла, панна, яго вы таксама лічыце за пачвару?

— Тут ёсць розніца! Ён быў раўнівы, а ў Самп'ера была адно пыха.

— А рэўнасць, хіба гэта не пыха? Гэта пыха ў каханні, і вы прабачаеце яе, мабыць, з-за кахання.

Міс Лідзія кінула на яго погляд, поўны годнасці, і, звярнуўшыся да матроса, спыталася, калі судзіна прыйдзе ў порт.

— Пазаўтра, калі вецер не зменіцца.

— А я б ужо зараз хацела быць у Аячы, бо гэты карабель мне абрыд.

Яна паднялася, узяла сваю пакаёўку пад руку і рушыла па палубе. Орса застаўся ля стырнавога, не ведаючы, пайсці за ёю ці спыніць гэту размову, што, відаць, надакучыла ёй.

— Файная дзеўчына, клянуся Мадоннаю! — сказаў матрос.— Каб у маім ложку ўсе скочкі былі такія, я б не скардзіўся, што яны кусаюцца.

Мабыць, міс Лідзія пачула наіўную хвальбу яе прыгажосці і збянтэжылася, бо амаль адразу ж спусцілася ў сваю каюту. Хутка пайшоў і Орса. Адно ён пакінуў палубу, з'явілася пакаёўка, распытала матроса і панесла сваёй гаспадыні наступныя звесткі: *ballata*, перапыненая Орсавым прыходам, была складзена з нагоды смерці палкоўніка дэла Рэбія, бацькі маладога лейтэнанта, забітага два гады таму. Матрос не сумняваўся, што Орса вяртаецца на Корсіку, каб *учыніць помсту*, так ён сказаў і сцвярджаў, што хутка ўсе ўбачаць *свежае мяса* ў сяле П'етранэра. З перакладу гэтага карсіканскага выразу вынікала, што сеньёр Орса мае забіць двох ці трох чалавек, якіх падазраюць у забойстве ягонага бацькі. І сапраўды, за гэта за імі сачыла паліцыя, але яны аказаліся нявінныя, як немаўляты, бо трымалі ў руках суддзяў, адвакатаў, прэфектаў і жандараў.

— На Корсіцы няма закону,— дадаў матрос.— Я даў бы больш за добрую стрэльбу, чым за ратмана каралеўскага суда. Калі маеш ворага, трэба выбіраць паміж трыма s[1].

Цікавыя звесткі карэнным чынам змянілі адносіны міс Лідзіі да лейтэнанта дэла Рэбія. З гэтае хвіліны ён зрабіўся героем у вачах рамантычнае англічанкі. Цяпер гэты бесклапотны выгляд, гэты непасрэдны і вясёлы тон, што спачатку не спадабаліся міс Лідзіі, зрабіліся яшчэ адною вартасцю, бо гэта была глыбокая затоенасць дзейснае душы, якая не

---

[1] Нацыянальны выраз, гэта значыць — выбіраць паміж *schioppetto, stiletto, strada* — стрэльба, стылет, уцёкі *(аўт.)*.

дазваляе паказацца вонкі ніводнаму захаванаму ў ёй пачуццю. Орса падаўся ёй падобным да Ф'еска, які хаваў шырокія планы пад выглядам бесклапотнасці; і хоць забіць некалькі шэльмаў не так высакародна, як вызваліць бацькаўшчыну, але прыгожая помста заўжды прыгожая. Да таго ж жанчыны не любяць, каб іхні герой быў палітык. Толькі зараз міс Нэвіл заўважыла, што ў маладога лейтэнанта вялікія вочы, бялюткія зубы, статная постаць, што ён выхаваны і ўмее сябе трымаць.

Наступнага дня яна шмат з ім размаўляла, і гаворка цікавіла яе. Яна багата распытвала пра ягоную краіну, а ён хораша распавядаў. Корсіка, якую ён пакінуў у дзяцінстве, спачатку каб паступіць у калеж, а потым у вайсковае вучылішча, засталася ў яго ў памяці ахінутая паэтычным святлом. Ён узрушваўся, гаворачы пра яе горы, лясы, пра своеасаблівыя норавы яе жыхароў. Як можна здагадацца, слова «помста» не раз узгадвалася ў размовах, бо немагчыма гаварыць пра карсіканцаў, не ганячы альбо не апраўдваючы гэтую іхнюю слынную страсць. Орса трохі здзівіў міс Нэвіл, агулам асудзіўшы няспынныя звады сваіх землякоў. Але сялян ён апраўдваў, бо лічыў, што вендэта — гэта дуэль бедных.

«Гэта сапраўды так,— казаў ён,— бо забіваюць толькі пасля таго, як дашлюць выклік паводле ўсіх правілаў. «Сцеражыся, я сцерагуся» — гэтымі словамі звычайна абменьваюцца ворагі да таго, як пачнуць ладзіць адно аднаму засады. У нас больш забойцаў, чым дзе, але вы не знойдзеце невысакародных прычынаў гэтых злачынстваў. Сапраўды, у нас шмат забойцаў, але няма злодзеяў».

Калі ён вымаўляў словы «помста» і «злачынства», міс Лідзія пільна глядзела на яго, але не магла выкрыць на ягоным твары аніякага следу хвалявання. Вырашыўшы, што ён меў неабходную душэўную сілу, каб схаваць свае пачуцці ад усіх вачэй, апроч яе, канечне, яна працягвала цвёрда верыць, што душа палкоўніка дэла Рэбія нядоўга будзе чакаць жаданага задавальнення.

З карабля ўжо бачыліся берагі Корсікі. Гаспадар называў адметныя мясціны на ўзбярэжжы, і хоць яны былі зусім не знаёмыя міс Лідзіі, яна рада была даведацца іх назвы. Няма нічога сумнейшага за безназоўны пейзаж. Часам праз палкоўнікаву падзорную трубу можна было разгледзець якога-небудзь карсіканца ў цёмнай вопратцы, са стрэльбаю, на малым коніку, што галопам ляцеў па стромых схілах. Міс Лідзія ў кожным бачыла бандыта

альбо сына, што ішоў помсціць за смерць бацькі, але Орса пераконваў, што гэта якісьці мірны жыхар суседняга мястэчка, які ехаў са справамі, а стрэльбу ён узяў не так праз патрэбу, як праз шык, праз моду, таксама, як дэндзі, што заўжды выходзіць з дому з элегантным кійком. І хоць стрэльба была не такая паэтычная і высакародная зброя, як кінжал, міс Лідзія знаходзіла, што для мужчыны яна элегантнейшая за кіёк, да таго ж яна ўзгадала, што ўсе героі лорда Байрана паміралі ад кулі, а не ад класічнага кінжала.

Пасля трох дзён падарожжа карабель падышоў да Сангінэрскіх астравоў, і перад вачыма нашых падарожнікаў паўстала дзівосная панарама затокі Аяча. Яе справядліва параўноўваюць з Неапалітанскім залівам. У тую хвіліну, як карабель заходзіў у порт, ахопленыя полымем макі зацягвалі дымам гару *Punta di Girato*, і яна нагадвала Везувій, што яшчэ больш павялічвала падабенства. Калі б войскі Атылы зруйнавалі наваколле Неапаля, гэтае падабенства было б суцэльнае, бо вакол Аяча мясціны мёртвыя і пустэльныя. Замест зграбных будынкаў, што высяцца паўсюль ад Кастэламарэ да мыса Мізэнэ, вакол Аяча віднеюцца адно змрочныя макі, а далей — толькі бязлесыя горы. Толькі сям-там на грудах вакол горада на зялёным фоне раслінасці самотна выдзяляюцца нейкія белыя пабудовы; гэта пахавальныя капліцы, радавыя магільні. Сумная і ўрачыстая прыгажосць гэтага краявіду.

Выгляд горада, асабліва на тыя часы, яшчэ больш абцяжарваў уражанне, створанае самотнасцю наваколля. На вуліцах аніякага руху, бадзяюцца толькі некалькі асобаў, заўжды тых самых. Не відаць жанчын, апроч сялянак, што прыйшлі прадаць свой вясковы тавар. Не чуваць зычных гаворак, смеху, спеваў, як у італьянскіх гарадах. Часам пад ценем узбярэжных дрэваў тузін узброеных сялян гуляе ў карты або назірае гульню. Яны не крычаць і ніколі не сварацца; калі гульцы ўзыходзяцца, чуюцца стрэлы з пісталетаў, што заўжды гучаць раней за пагрозы. Карсіканцы ад прыроды сур'ёзныя і маўклівыя. Вечарамі сёй-той выходзіць, каб нацешыцца прахалодаю, але на Бульвары прагульваюцца амаль адны прыезджыя. Тутэйшыя сядзяць пры сваіх дзвярах, кожны здаецца насцярожаным, як сокал на гняздзе.

## IV

Наведаўшы дом, дзе нарадзіўся Напалеон, набыўшы там больш-менш прыстойнымі сродкамі кавалачак шпалерыны, на трэці дзень пасля прыезду на Корсіку міс Лідзія адчула глыбокую сумоту, як і павінна здарыцца з чужынцам у краіне, дзе замкнутасць жыхароў нібы выракае яго на суцэльную адзіноту. Яна ўжо пашкадавала пра сваё неабачнае рашэнне, але ад'ехаць адразу азначала б сапсаваць сваю рэпутацыю нястомнае падарожніцы. Міс Лідзія скарылася неабходнасці цярпець і шукаць магчымасці неяк забавіць час. Прыняўшы такое мужнае рашэнне, яна падрыхтавала алоўкі і фарбы, зрабіла замалёўкі затокі, намалявала партрэт засівералага селяніна, што прадаваў дыні, бы які гандляр на кантыненце, але меў сівую бараду і выгляд самага зацятага мярзотніка, якога толькі можна ўбачыць. Усё гэта не забаўляла яе, і яна вырашыла закруціць галаву нашчадку капралаў. Гэта было няцяжка, бо Орса не спяшаўся дадому, здавалася, яму спадабалася ў Аяча, хоць ён ні з кім тут не сустракаўся. Апроч таго, міс Лідзія паставіла перад сабою высакародную задачу цывілізаваць гэтага горнага мядзведзя і прымусіць яго адмовіцца ад тых жорсткіх планаў, што прывялі яго на востраў. Вырашыўшы перавыхаваць яго, яна казала сабе, што нельга даць загінуць гэтаму маладому чалавеку, а яна зробіць высакародны ўчынак, навярнуўшы ў сваю веру карсіканца.

Дні нашых падарожнікаў праходзілі прыблізна так: зранку палкоўнік і Орса ішлі на паляванне, а міс Лідзія малявала альбо пісала лісты прыяцелькам, спецыяльна, каб падкрэсліць, што лісты з Аяча. Каля шасці гадзін мужчыны вярталіся, нагружаныя здабычаю, вячэралі, міс Лідзія спявала, потым палкоўнік ішоў спаць, а маладыя людзі дапазна вялі гутаркі.

Нейкія фармальнасці з пашпартамі вымусілі палкоўніка зрабіць візіт прэфекту. Той, як і большасць ягоных калег, вельмі нудзіўся і быў рады даведацца пра прыезд англічаніна, чалавека багатага, свецкага, які меў прыгожую дачку. Ён сустрэў яго цудоўна, прапанаваў свае паслугі і ў хуткім часе з'явіўся з візітам у адказ. Палкоўнік, які толькі што падняўся з-за стала, зручна выпрастаўся на сафе і меўся заснуць, дачка ягоная грала на разладжаным піяніна, а Орса гартаў ноты і аглядаў прыгожыя плечы і льняныя валасы піяністкі. Абвясцілі прыход пана прэфекта, піяніна сціхла, палкоўнік устаў, працёр вочы і пазнаёміў прэфекта з дачкою.

— Я не знаёмлю вас з панам дэла Рэбія, вы, пэўна, яго ведаеце.

— Вы сын палкоўніка дэла Рэбія? — спытаўся прэфект, злёгку збянтэжаны.

— Так, васпане,— адказаў Орса.

— Меў гонар ведаць вашага бацьку.

Агульныя тэмы для размовы хутка вычарпаліся. Досыць часта палкоўнік мімаволі пазяхаў, Орса, які трымаўся ліберальных поглядаў, не жадаў гаварыць з прадстаўніком улады, адна міс Лідзія падтрымлівала гаворку. Прэфект таксама не даваў гаворцы затухнуць і з відавочнаю радасцю размаўляў пра Парыж і свецкае жыццё з жанчынаю, што была знаёмая з усімі знакамітасцямі Еўропы. Падчас размовы ён з нейкаю асаблівай цікаўнасцю раз-пораз пазіраў на Орса.

— З панам дэла Рэбія вы пазнаёміліся на кантыненце? — спытаўся ён у міс Лідзіі.

Трошкі збянтэжана міс Лідзія адказала, што пазнаёміліся яны на караблі дарогаю на Корсіку.

— Гэта вельмі прыстойны малады чалавек,— сказаў прэфект напаўголаса і дадаў яшчэ цішэй: — Ці сказаў ён вам, з якімі намерамі вяртаецца на Корсіку?

— А я не распытвала, вы можаце пацікавіцца самі,— адказала міс Лідзія велічна.

Прэфект памаўчаў, але праз хвіліну, пачуўшы, што Орса загаварыў да палкоўніка па-англійску, спытаўся:

— Вы, пане, здаецца, шмат вандравалі. Вы, мабыць, ужо забылі Корсіку... і яе звычаі.

— Так, я быў зусім малады, калі паехаў адсюль.

— Вы яшчэ ў войску?

— Я на палавіннай пенсіі, пане.

— Я спадзяюся, што вы досыць доўга былі ў французскім войску, каб цалкам афранцузіцца.

Апошнія словы ён вымавіў з выразным націскам. Сказаць карсіканцам, што яны належаць да гэтае вялікае нацыі, не азначае ўлесціць ім. Яны хочуць быць асобным народам і так упарта настойваюць на гэтым, што з імі нельга не згадзіцца. Орса, трохі падцяты заўвагаю, адказаў:

— Вы лічыце, пане прэфект, што стаць прыстойным чалавекам карсіканец можа, толькі паслужыўшы ў французскім войску?

— Ну, канечне ж, не, вы не зразумелі мяне: я кажу толькі пра некаторыя звычаі вашае краіны, яны не такія, як хацела б адміністрацыя.

Ён зрабіў націск на слове «звычаі» і надаў свайму абліччу самы сур'ёзны выгляд, які толькі мог. Неўзабаве ён развітаўся і пайшоў, узяўшы з міс Лідзіі абяцанне наведаць ягоную жонку ў прэфектуры. Калі ён выйшаў, міс Лідзія сказала:

— Трэба было з'ездзіць на Корсіку, каб даведацца, што такое прэфект. Гэты мне здаецца досыць прыстойным.

— А мне не здаецца,— сказаў Орса.— І я лічу, што ён вельмі дзіўны з гэтым сваім напышлівым і таямнічым выглядам.

Дрымота палкоўніка перайшла ў нешта больш глыбокае. Міс Лідзія кінула на яго позірк і сказала, сцішыўшы голас:

— А мне здаецца, што ён не такі й загадкавы, як вы гаворыце, і, мабыць, я яго зразумела.

— Вы вельмі праніклівая, міс Лідзія, але, калі вы бачыце сэнс у тым, што прэфект толькі што сказаў, то, напэўна, вы самі яго туды ўклалі.

— Вось фраза, вартая маркіза дэ Маскарыя! Пане дэла Рэбія... хочаце, я дам вам яшчэ адзін доказ маёй праніклівасці? Я трохі вядзьмарка і ведаю, што думаюць людзі, якіх я бачыла хоць два разы.

— Божа, вы мяне палохаеце. Калі б вы маглі чытаць мае думкі, не ведаю, зарадаваўся б я ці засмуціўся...

— Пане дэла Рэбія,— пачырванеўшы, сказала міс Лідзія,— мы знаёмыя ўсяго некалькі дзён, але ў моры ці ў дзікай краіне,— спадзяюся, вы даруеце мне,— у дзікай краіне людзі робяцца сябрамі хутчэй, чым там, дзе яны жывуць свецкім жыццём... Дык не дзівіцеся ж, што я буду гаварыць з вамі пра рэчы, трохі занадта асабістыя, у якія, мабыць, чужынец не павінны б умешвацца.

— О, не кажыце гэтага слова, міс Нэвіл, мне б больш спадабалася іншае.

— Ну што ж! Васпане, не стараючыся дазнацца пра вашы таямніцы, я трохі пра іх даведалася, і яны мяне засмучаюць. Я ведаю, якое гора напаткала вашу сям'ю; мне шмат распавядалі пра мсцівы характар вашых землякоў і пра тое, якім чынам яны помсцяць... Ці не на гэта самае намякаў прэфект?

— Міс Лідзія, як вы маглі падумаць!..— і Орса збялеў як смерць.

— О не, пане дэла Рэбія,— перапыніла яна яго.— Я ведаю, што вы сапраўдны джэнтльмен. Вы мне самі казалі, што ў вашых краях толькі простыя людзі ўчыняюць вендэту... якую вы назвалі формаю дуэлі...

— Няўжо вы лічыце, што калісьці я магу зрабіцца забойцам?

— Калі я гавару з вамі пра гэта, то вы павінны зразумець, што я не сумняваюся ў вас, пане Орса. Але калі я з вамі загаварыла,— і яна апусціла вочы долу,— то толькі таму, што зразумела, што ў гэтай краіне, сярод дзікіх, можа быць, забабонаў, вам прыемна будзе ўсведамляць, што ёсць чалавек, які паважае вас за мужнае жаданне не паддацца ім. Давайце больш не будзем гаварыць пра гэтыя непрыемныя рэчы,— сказала яна, падымаючыся.— У мяне ад іх галава баліць, ды ўжо й позна, дарэчы. Дабранач, па-англійску.

І яна працягнула яму руку. Ён пацiснуў яе з урачыстым і пранікнёным выглядам.

— Ведаеце, панна, часам ува мне прачынаюцца карсіканскія інстынкты. Часам, калі я думаю пра майго беднага бацьку... тады мяне апаноўваюць жахлівыя думкі. Дзякуючы вам, я назаўжды вызваліўся ад іх. Дзякуй, дзякуй!

Ён меўся працягваць, але міс Лідзія знарок упусціла маленькую лыжачку, і звон разбудзіў палкоўніка.

— Дэла Рэбія, заўтра а пятай гадзіне на паляванне! Не спазніцеся.

— Добра, пане палкоўнік.

## V

Назаўтра, незадоўга да прыходу паляўнічых, міс Лідзія са сваёй пакаёўкаю вярталася з прагулкі на беразе мора. Яна ўжо падыходзіла да карчмы, калі заўважыла маладую жанчыну, што ўязджала ў горад на невысокім, але спрытным коніку. З ёю быў селянін, таксама конны, у куртцы з цёмнага сукна, прадранай на локцях, цераз плячук у яго вісела баклага, рукою ён трымаў стрэльбу, прыклад якое ўпіраўся ў скураную кішэню, прыточаную да сядзельнае лукі. Карацей, ён быў убраны зусім як разбойнік з меладрамы альбо як падарожны карсіканскі мешчанін. Спачатку толькі дзівосная прыгажосць жанчыны прыцягнула ўвагу міс Нэвіл. Жанчыне было гадоў дваццаць, была яна высокая, беласкурая, з цёмна-блакітнымі вачыма, ружовым ратком, зубы ў яе, нібы перліны. Увесь выгляд яе выяўляў адначасова ганарлівасць, неспакой і сумоту. Галаву яе пакрывала чорная шаўковая вуаль, так званая *mezzaro*, завезеная на Корсіку генуэзцамі, якая так пасуе жанчынам. Доўгія

цёмна-русыя косы каронаю ляжалі вакол галавы. Строі ў яе былі чысцюткія, але самыя простыя.

Міс Нэвіл мела час агледзець яе, бо дама ў вуалі спынілася на вуліцы і з вялікаю цікаўнасцю, якая чыталася ў яе вачах, распытвала нейкага падарожнага. Пачуўшы адказ, яна хвастанула каня і галопам памчалася да самых дзвярэй карчмы, дзе спыніліся сір Томас Нэвіл і Орса. Там яна нешта спыталася ў гаспадара, потым спрытна саскочыла з каня і села на каменную лаву пры ўваходзе, а конюх яе павёў коней на стайню. На міс Лідзію, што ў сваім парыжскім касцюме прайшла перад незнаёмкаю, тая і вачэй не падняла. Праз чвэрць гадзіны адчыніўшы акно, яна ўбачыла даму ў вуалі на тым самым месцы, у той самай пастаде. Неўзабаве палкоўнік і Орса вярнуліся з палявання. Тут гаспадар сказаў нешта панне ў жалобным і пальцам паказаў на маладога дэла Рэбія. Яна зачырванелася, спрытна ўскочыла, пайшла, потым знерухомела, нібы сумеўшыся. Орса быў зусім побач і з цікаўнасцю пазіраў на яе.

— Вы — Орса Антоніа дэла Рэбія? — спыталася яна ўсхвалявана.— Я — Каломба.

— Каломба! — крыкнуў Орса.

Ён абняў яе і пяшчотна пацалаваў, што задзівіла палкоўніка і ягоную дачку, бо англічане не цалуюцца на вуліцы.

— Браце,— сказала Каломба,— даруйце, што я прыехала без вашага дазволу, але нашы сябры паведамілі, што вы ўжо тут, а бачыць вас — такая радасць для мяне...

Орса зноў абняў яе, потым павярнуўся да палкоўніка і сказаў:

— Гэта мая сястра; я ніколі б не пазнаў яе, каб яна не назвалася. Каломба, гэта сір Томас Нэвіл, палкоўнік. Палкоўнік, калі ласка, прабачце, але сёння я не змагу павячэраць з вамі... Мая сястра...

— О д'ябал! Але дзе вы збіраецеся вячэраць, даражэнькі? Вы ж ведаеце, што ў гэтай паганай карчме гатуюць толькі адну вячэру — для нас. Мая дачка будзе вельмі рада, калі панна павячэрае з намі.

Каломба паглядзела на брата, які не прымусіў доўга сябе прасіць, і яны разам увайшлі ў найбольшы пакой карчмы, што служыў палкоўніку салонам і гасцёўняю. Калі панну дэла Рэбія знаёмілі з міс Нэвіл, яна зрабіла нізкі рэверанс, але не сказала ні слова. Відаць было, што яна вельмі збянтэжылася і што свецкіх людзей яна бачыць упершыню ў жыцці. Але ўсё адно ў яе манерах не было нічога, што патыхала б правінцыйнасцю. Адметнасць у ёй

пераважвала няспрытнасць. За гэта міс Нэвіл і ўпадабала яе. У карчме, занятай палкоўнікам і яго сябрамі, не было вольных пакояў, і тут спагадлівасць, а можа, і цікаўнасць прымусілі міс Лідзію прапанаваць, каб ложак для панны дэла Рэбія паставілі ў яе пакоі.

Каломба прамармытала некалькі ўдзячных словаў і паспяшалася за пакаёўкаю міс Нэвіл, каб трохі апратаць сябе, што бывае неабходна пасля коннага падарожжа ў пыле і пад спякотным сонцам.

Вярнуўшыся ў салон, яна спынілася каля стрэльбаў, што паляўнічыя саставілі ў кут.

— Якія прыгожыя стрэльбы! Яны вашы, браце?

— Не, гэта палкоўнікавы англійскія стрэльбы. Яны такія ж добрыя, як і прыгожыя.

— Я б хацела, каб і вы мелі такую.

— Ну, канечне, адна з іх належыць дэла Рэбія,— сказаў палкоўнік.— Надта ж добра ён з імі ўпраўляецца. Вось сёння: чатырнаццаць стрэлаў, і ўсе трапныя!

Тут усчалася бойка шчодрасці і сціпласці, у якой Орса быў пераможаны на вялікае задавальненне ягонай сястры; дзіцячая радасць, што раптам заззяла на яе твары, нядаўна такім сур'ёзным, выдавала гэтае задавальненне.

— Выбірайце, дарагі мой,— сказаў палкоўнік.

Орса адмовіўся.

— Добра, ваша сястра выбера за вас.

Каломбе не трэба было паўтараць. Яна выбрала найменш аздобленую стрэльбу: гэта быў цудоўны Мэнтан буйнога калібру.

— Вось гэтая павінна добра біць.

Збянтэжаны Орса пачаў дзякаваць, але тут падалі вячэру, і гэта яго ўратавала. Міс Лідзія з замілаваннем глядзела, як Каломба адмаўлялася садзіцца за стол і скарылася пад братавым поглядам. Як добрая каталічка, сеўшы за стол, яна перахрысцілася.

— Добра,— сказала англічанка сабе.— Вось дзе несапсаваныя норавы.

Яна падумала, што заўважыць шмат цікавага, назіраючы за гэтаю маладою прадстаўніцаю старых карсіканскіх звычаяў. Орса відавочна адчуваў сябе ніякавата, пэўна, баяўся, каб сястра не зрабіла ці не сказала чагосьці такога, што занадта б патыхала вёскаю. Але Каломба ўвесь час паглядала на яго і паўтарала ўсе яго рухі. Часам яна глядзела на яго пільна, неяк дзіўна і тужліва, і, сустрэўшы гэты позірк, Орса першы хаваў вочы, нібы ўнікаючы пытання,

якое сястра ў думках ставіла яму і якое ён вельмі добра разумеў. Гаварылі па-французску, бо палкоўнік слаба разумеў па-італьянску; Каломба французскую разумела і нават досыць прыстойна вымавіла тыя некалькі словаў, якімі яна мусіла абмяняцца з гаспадарамі.

Палкоўнік заўважыў тую ніякаватасць, што панавала паміж братам і сястрою і пасля вячэры спытаўся ў Орса са сваёю звычайнаю праматой, ці не хочуць яны пагаварыць сам-насам, у такім выпадку яны з дачкою маглі б перайсці ў суседні пакой. Орса пасняшаў падзякаваць і сказаў, што ў іх будзе час нагаварыцца ў П'етранэры, так звалася сяло, дзе ён збіраўся пасяліцца.

Палкоўнік заняў сваё звычайнае месца на сафе. Міс Нэвіл, перабраўшы розныя тэмы і зняверыўшыся, што здолее разгаварыць прыгажуню Каломбу, папрасіла Орса прачытаць ёй песню з Дантэ, гэта быў яе ўлюбёны паэт. Орса выбраў песню з «Пекла», дзе ёсць сцэна з Франчэскаю да Рыміні; ён чытаў, старанна падкрэсліваючы гэтыя ўзнёслыя тэрцэты, якія цудоўна паказваюць, як небяспечна чытаць удваіх кнігу пра каханне. Падчас чытання Каломба падсунулася да стала, узняла сваю паніклую галаву, райкі яе вачэй расшырыліся і заззялі незвычайным агнём, яна то чырванела, то бялела, то трапятала мімаволі ў сваім крэсле. Узнёслай італьянскай натуры, каб разумець паэзію, не патрэбны настаўнік, які б тлумачыў прыгажосць верша!

Калі чытанне скончылася, яна ўсхвалявана сказала:

— Якая прыгажосць! Хто гэта напісаў, браце?

Орса трохі збянтэжыўся, а міс Лідзія ■ усмешкаю адказала, што гэта паэма аднаго фларэнцыйскага паэта, што памёр шмат стагоддзяў таму.

— Я пачытаю табе Дантэ, калі мы будзем у П'етранэры,— сказаў Орса.

— Божухна, але як прыгожа! — зноў сказала Каломба. Яна паўтарыла тры ці чатыры запомненых тэрцэты, спачатку ціха, а потым узрушылася і прадэкламавала іх голасна, з куды большаю выразнасцю, чым брат.

Міс Лідзія задзівілася:

— Вы, відаць, вельмі любіце паэзію. Зайздрошчу шчасцю, якое вы адчуеце, чытаючы Дантэ ўпершыню.

— Бачыце, міс Нэвіл,— сказаў Орса,— якую ўладу маюць вершы Дантэ, калі яны так узрушваюць нават дзікуначку, што ведае толькі *Pater noster*... Але я памыляюся; я памятаю, што Каломба разбіраецца ў паэзіі. Яшчэ дзіцёнкам яна спрабавала складаць вершы, а бацька пісаў

мне, што яна лепшая *voceratrice* ў П'етранэры і на два лье навокал.

Каломба кінула на брата ўмольны позірк. Міс Нэвіл чула пра карсіканскіх імправізатарак і зараз памірала ад жадання пачуць адну з іх. Яна пачала прасіць Каломбу даць ёй узор свайго таленту. Орса пачаў яе адгаворваць, моцна шкадуючы, што так недарэчы ўзгадаў пра паэтычныя здольнасці сястры. Але дарэмна ён кляўся, што няма нічога пусцейшага за карсіканскую *ballata*, сцвярджаў, што чытаць карсіканскія вершы пасля Дантэ,— гэта здраджваць радзіме, ён адно раздражніў жаданне міс Нэвіл і мусіў урэшце сказаць сястры:

— Добра, зымправізуй што-колечы, але карацей.

Каломба уздыхнула, нейкую хвіліну пільна разглядала сурвэтку на стале, пасля — бэлькі пад столлю; нарэшце закрыла твар рукамі, бы тыя птушкі, што набываюць упэўненасць і лічаць, што іх ніхто не бачыць, калі яны самі не бачаць сябе, заспявала ці, хутчэй, пачала няпэўным голасам дэкламаваць *serenata*, якую я вам прапаную:

### ДЗЯЎЧЫНА І ГОРЛІНКА

У даліне сівой за крутымі гарамі
Там сонца засвеціць адно на часіну,
Самотна стаіць там старая хаціна,
Травою парос яе ганак забыты.
Заўжды ў ёй зачынены вокны і дзверы,
І дым не заўецца над комінам чорным,
І толькі апоўдні, як з'явіцца сонца,
Адчыніцца ціха адное акенца.
Там воўну прадзе сіраціна-дзяўчына,
Прадзе і спявае, прадзе і спявае,
Спявае тужліва сумотную песню.
Мо хто б аказаўся, мо хто б адгукнуўся,
Ды не, не чуваць у адказ ёй ні гуку.
Аднойчы, аднойчы празрыстай вясною,
Ля хаты на дрэва там горлінка села.
Пачула яна скаргу спеваў дзявочых.
Дзяўчына, гаворыць, і я ў самоце.
Панёс майго любага ястраб драпежны.
Дзяўчына ў адказ: пакажы мне зладзея,
І хоць за аблокі схаваецца ў небе,
Уздымуся вышэй і саб'ю яго долу,
Але мне, гаротнай, ці верне хто брата,
Што зараз за морам ў краіне далёкай?
Скажы мне, дзяўчына, дзе брат твой гаротны,
І крылы мае занясуць яму вестку.

— Вось дзе выхаваная горлінка,— сказаў Орса, абдымаючы сястру з пачуццём, што ніяк не адпавядала яго ўдавана жартоўнаму тону.

— Ваша песня цудоўная,— сказала міс Лідзія.— Мне хацелася б, каб вы запісалі яе ў мой альбом. Я перакладу яе на англійскую і напішу да яе музыку.

Палкоўнік, што не зразумеў ні слова, таксама выказаў свае кампліменты, а потым дадаў:

— Горлінка, пра якую вы, панна, гаворыце, гэта тая птушка, што мы сёння з'елі?

Міс Нэвіл прынесла свой альбом і са здзіўленнем убачыла, з якой надзвычайнаю ашчаднасцю імправізатарка запісвае свае вершы. Замест таго каб кожнаму радку пачынацца з адступам, вершы выцягваліся на ўсю шырыню старонкі так, што ўжо не адпавядалі вядомаму вызначэнню паэтычных твораў: «Радкі кароткія, даўжыня неаднолькавая, пустыя месцы з абодвух бакоў». Можна было таксама зрабіць пэўныя заўвагі капрызнаму напісанню панны Каломбы, што не раз прымушала міс Нэвіл усміхацца, а братні гонар Орса — пакутаваць.

Надышоў час класціся, і абедзве дзяўчыны пайшлі ў свой пакой. Скідаючы свае пацеркі, завушніцы, бранзалеты, міс Лідзія заўважыла, што яе прыяцелька выцягнула з сукенкі нешта даўгавае, накшталт карсэтнае пласціны, але зусім інакшае формы. Асцярожна і амаль крадком Каломба паклала яго на стол пад вуаль, потым укленчыла і набожна памалілася. Праз дзве хвіліны яна была ўжо ў пасцелі. Як і ўсе англічанкі, міс Лідзія распраналася павольна, дый цікаўная натура яе прымушала яе марудзіць, прыкідвацца, што шукае нейкую шпільку; нарэшце яна падышла да стала і падняла вуаль: там ляжаў даволі доўгі стылет, прыгожа аздоблены перламутрам і срэбрам. Зброя была цудоўнага даўнейшага вырабу, дарагая для знаўцы.

— У вас тут паненкі заўжды носяць такія цацкі ў карсэце? — спыталася міс Лідзія, усміхаючыся.

— Так трэба,— усміхнулася і Каломба.— Ліхіх людзей так багата.

— І вам сапраўды хапіла б адвагі ўдарыць вось так?

І міс Нэвіл узяла стылет і зрабіла выгляд, што б'е, як гэта робяць у тэатры: зверху ўніз.

— Так,— сказала Каломба сваім мяккім і напеўным голасам.— Калі спатрэбіцца абараніць сябе ці сяброў... Але трымаць яго трэба не так: калі чалавек, якога вы хочаце ўдарыць, адступіць, вы можаце параніць сябе.— Яна паднялася ў ложку.— Глядзіце, трэба біць так, знізу ўверх. Кажуць, што такі ўдар смяротны. Шчаслівыя тыя, каму не трэба такая зброя.

Яна ўздыхнула, апусціла галаву на падушку і заплюшчыла вочы. Немагчыма ўявіць сабе галоўку высакароднейшую, цнатлівейшую, прыгажэйшую. Фідый, ствараючы сваю Мінерву, не пажадаў бы лепшае мадэлі.

## VI

Згодна з правілам Гарацыя, я ўзяўся адразу *in medias res*[1]. Зараз, калі ўсе спяць: і прыгажуня Каломба, і палкоўнік, і ягоная дачка, я карыстаюся момантам, каб пазнаёміць чытача з некаторымі асаблівасцямі, якія ён павінны ведаць, калі хоча глыбей зразумець гэтую праўдзівую гісторыю. Вы ўжо ведаеце, што палкоўніка дэла Рэбія, бацьку Орса, забілі. Але Корсіка гэта не Францыя, тут забівае не нейкі там беглы галернік, што не знаходзіць лепшых сродкаў, каб украсці ваша сталовае срэбра, тут забіваюць ворагі. Праўда, вызначыць прычыну варожасці часам надзвычай цяжка. Шмат родаў ненавідзяць адзін аднаго праз даўнейшую звычку, хоць нават з сямейных легендаў ужо зніклі згадкі пра прычыну гэтае нянавісці.

Род, да якога належаў палкоўнік дэла Рэбія, варагаваў шмат з якімі родамі, але асабліва з родам Барычыні. Нехта казаў, што ў шаснаццатым стагоддзі адзін з дэла Рэбія спакусіў дзяўчыну з роду Барычыні, і хтосьці са сваякоў зняважанае панны забіў яго. Праўда, сёй-той сцвярджаў адваротнае: што спакусілі дзяўчыну з дэла Рэбія, а забілі Барычыні. Карацей, ужываючы прыняты выраз, між двума родамі была кроў. Але, насуперак звычаю, гэтае забойства не выклікала іншых: і дэла Рэбія, і Барычыні аднолькава зазналі ўціск генуэзскага ўрада, маладыя людзі былі ў выгнанні, і многія пакаленні ў абодвух родах былі пазбаўленыя самых дзейсных сваіх прадстаўнікоў.

У канцы мінулага стагоддзя адзін дэла Рэбія, што быў афіцэрам на службе ў Неапалітанскага каралеўства, пасварыўся ў гульнёвым доме з вайскоўцамі, якія назвалі яго карсіканскім казапасам. Ён схапіўся за шпагу і меў бы біды, бо быў адзін супроць трох, калі б нейкі незнаёмы, што таксама там гуляў, не крыкнуў: «Я таксама карсіканец» і не стаў бы яму на дапамогу. Гэты незнаёмы быў Барычыні, праўда, ён і не ведаў свайго земляка. Пасля тлумачэнняў з абодвух бакоў было сказана шмат ветлівых

[1] За сутнасць справы *(лац.)*.

засведчанняў і клятваў у вечным сяброўстве. На кантыненце карсіканцы лучацца лёгка, зусім не так, як на сваім востраве. І гэта добра відаць з наступнае акалічнасці: у Італіі дэла Рэбія і Барычыні былі блізкія сябры, але, вярнуўшыся на Корсіку, сустракаліся вельмі рэдка, хоць і жылі ў адным сяле, а пасля іх смерці людзі казалі, што яны пяць ці шэсць год перад гэтым не размаўлялі. І сыны іх таксама, як казалі на востраве, жылі адпаведна этыкету. Адзін, Гільфуча, бацька Орса, быў вайсковец, другі, Джудзіча Барычыні,— адвакат. Узначаліўшы свае сем'і, адасобленыя сваімі занятками, яны амаль не мелі нагоды бачыцца ці чуць што-колечы адзін пра аднаго.

Але аднойчы, здаецца ў 1809 годзе, Джудзіча даведаўся з нейкае газеты ў Бастыі, што капітан Гільфуча быў узнагароджаны, і сказаў пры сведках, што ён з гэтага не дзівіцца, бо генерал*** спрыяе ягонаму роду. Гэтыя словы данеслі да Гільфуча ў Вену, і той сказаў камусьці з землякоў, што, вярнуўшыся на Корсіку, ён, напэўна, застане Джудзіча ўзбагацелага, бо той больш мае з прайграных справаў, чым з выйграных. Невядома, ці ён хацеў сказаць пра тое, што адвакат здраджвае сваім кліентам, ці абмяжоўваўся паўтарэннем трывіяльнае ісціны, што прайграная справа прыносіць судоўцу больш, чым выйграная. Як бы там ні было, адвакат даведаўся пра абгавор і не забыўся на яго.

У 1812 годзе ён пачаў дамагацца месца мэра ў сваёй камуне і меў надзею стаць ім, але генерал*** напісаў прэфекту ліст, рэкамендуючы сваяка Гільфучавай жонкі. Прэфект паспяшаўся ўчыніць адпаведна з жаданнем генерала, і Барычыні больш не сумняваўся, што гэтая няўдача здарылася праз інтрыгі Гільфуча. Пасля падзення імператара ў 1814 годзе генералаў стаўленец быў абвешчаны банапартыстам, а ягонае месца заняў Барычыні. У сваю чаргу, ён быў змешчаны падчас Ста Дзён, але пасля гэтае навалы зноў урачыста завалодаў пячаццю мэрыі і рэгістрацыйнымі кнігамі.

З тае пары зорка яго заззяла ярчэй чым калі. Палкоўнік дэла Рэбія быў звольнены з палавіннаю пенсіяй і пераехаў у П'етранэру. Адвакат пачаў супроць яго неабвешчаную вайну сваімі бясконцымі звадамі: то вымушаў плаціць за шкоду, што ўчыніў палкоўнікаў конь на землях пана мэра; то, нібы рамантуючы падлогу ў касцёле, загадваў зняць расколатую пліту з гербам дэла Рэбія, што пакрывала касьці з яго продкаў. Калі нечыя козы дратавалі палеткі дэла Рэбія, мэр заўжды абараняў іх гаспадароў. Бакалей-

шчыка, што загадваў поштаю ў П'етранэры, і старога салдата-калеку, які служыў вясковым паліцыянтам, Барычыні паціху зняў, бо яны былі кліенты дэла Рэбія, і замяніў на сваіх прыхільнікаў.

Памерла палкоўнікава жонка, а перад смерцю наказала, каб яе пахавалі ў ляску, дзе яна любіла гуляць. Адразу ж мэр абвясціў, што яе мусяць пахаваць на агульных могілках з тае прычыны, што ён не мае дазволу на адасобленыя пахаванні. Загневаны палкоўнік абвясціў, што, пакуль прыйдзе дазвол, ён пахавае жонку там, дзе яна захацела, і загадаў капаць магілу. Тады й мэр загадаў капаць я́му на могілках і выклікаў жандараў, каб, як ён казаў, сілаю дамагчыся выканання закону. У дзень пахавання сышліся абедзве партыі, і была небяспека, што за цела пані дэла Рэбія ўзнікне бойка. Чалавек сорак збройных сялян, што прыйшлі са сваякамі памерлае, прымусілі святара проста з касцёла скіравацца на дарогу да ляска, з другога боку мэр, два яго сыны, кліенты і жандары з'явіліся, каб перашкодзіць ім. Мэр загадаў шэсцю вярнуцца, але яму адказалі свістам і грозьбамі; перавага ў колькасці была на баку яго супрацоўнікаў, і намеры ў іх, здавалася, былі самыя рашучыя. На яго з'яўленне заляскалі замкі стрэльбаў, адзін пастух, казалі, нават узняў прыклад да плечука, але палкоўнік прымусіў апусціць стрэльбу і сказаў: «Без майго загаду не страляць!» Мэр, як Панург, «ад прыроды баяўся бойкі», ён адступіў разам са сваімі людзьмі. Тады жалобная працэсія рушыла даўжэйшым шляхам, каб прайсці перад мэрыяю. Дарогаю нейкі дурань, што далучыўся да грамады, дадумаўся закрычаць: «Няхай жыве Імператар!» Некалькі галасоў падтрымалі яго, рэбіяністы ўзрушыліся і прапанавалі забіць адвакатавага бугая, што выпадкова заступіў ім дарогу. На шчасце, палкоўнік не дапусціў гэтае жорсткасці.

Зразумела, быў складзены пратакол, мэр даслаў прэфекту рапарт, напісаны самым найпышнейшым стылем, у якім ён размаляваў зганьбаванне законаў боскіх і людскіх, абразу годнасці ягонай, мэра, і годнасці кюрэ. Ён пісаў, што палкоўнік дэла Рэбія стаў на чале банапартысцкае змовы, маючы на мэце змяніць лад наследавання трона і ўзбудзіць грамадзян на збройныя ўсобіцы — злачынства, прадугледжаныя артыкуламі 86 і 91 крымінальнага кодэкса.

Надмернасць у гэтай скарзе зашкодзіла яе дзейснасці. Палкоўнік напісаў прэфекту, каралеўскаму пракурору; хтосьці са сваякоў яго жонкі быў родзічам аднаго дэпутата ад Корсікі, нехта яшчэ — пляменнікам старшыні каралеў-

скага суда. Дзякуючы пратэкцыі абвінавачванне ў змове знялі, магіла пані дэла Рэбія засталася ў лесе, і толькі таму дурню прысудзілі пятнаццаць дзён зняволення.

Адвакат Барычыні, незадаволены вынікамі гэтае справы, вырашыў падступіцца з іншага боку. Ён раскапаў старыя паперы, з якімі пачаў аспрэчваць у палкоўніка права валодання адною рачулкай, на якой стаяў млын. Распачалася доўгая судовая справа. Пад канец года суд меўся вынесці вырак, па ўсім відаць, на карысць палкоўніку; але тут пан Барычыні перадаў каралеўскаму пракурору ліст ад вядомага бандыта Агастыні з пагрозамі яму, мэру, падпалам і смерцю, калі ён не адступіцца ад сваіх дамаганняў. Вядома, што на Корсіцы падтрымка бандытаў цэніцца высока, бо тыя, каб услужыць сваім прыяцелям, часта ўмешваюцца ў іх асабістыя спрэчкі. Бандыт Агастыні напісаў каралеўскаму пракурору, што подпіс яго падроблены і асоба ягоная зганьбавана, бо яго выставілі чалавекам, што гандлюе сваёй уплывовасцю. «Калі я знайду махляра,— пісаў ён у канцы,— я пакараю яго дзеля прыкладу».

Зразумела было, што Агастыні не пісаў гэтага ліста, дэла Рэбія вінавацілі ў падробцы Барычыні і наадварот. З абодвух бакоў гучалі пагрозы, і судоўцы не ведалі, дзе шукаць вінаватых.

Тым часам палкоўніка Гільфуча забілі. Вось факты, як іх падавалі следчыя: 2 жніўня 18... года, адвячоркам, Мадлена П'етры, несучы збожжа ў П'етранэру, пачула адзін за адным два стрэлы, як ёй здалося на бязлюднай дарозе ў горад крокаў за сто пяцьдзесят ад таго месца, дзе яна стаяла. Амаль адразу ж яна заўважыла чалавека, што, прыгнуўшыся, бег да сяла праз вінаграднікі. На хвіліну чалавек спыніўся і абярнуўся, але было задалёка, і пані П'етры не пазнала яго, да таго ж ён трымаў у зубах вінаградны ліст, што хаваў ягоны твар амаль цалкам. Ён зрабіў знак рукою нейкаму хаўрусніку, якога сведка не бачыла, і знік у вінаградніках.

Жанчына кінула свой клунак і пабегла сцежкаю. Яна знайшла палкоўніка дэла Рэбія ў лужыне крыві, прабітага дзвюма кулямі, але яшчэ жывога. Стрэльба яго ляжала побач, гатовая да стральбы, нібы ён рыхтаваўся абараняцца ад аднаго нападцы спераду, калі другі стрэліў па ім ззаду. Ён хрыпеў і змагаўся са смерцю, але не мог вымавіць ні слова, што дактары растлумачылі характарам яго ранаў: кулі прабілі лёгкае. Ён захлынаўся крывёю, яна плыла павольна, бы чырвонае шумавінне. Дарэмна П'етры ўздымала і рас-

пытвала яго. Яна бачыла, што ён хацеў гаварыць, але не мог. Заўважыўшы, што ён спрабуе засунуць руку ў кішэню, яна хутка выцягла адтуль нататнік і разгарнула яго. Паранены ўзяў з нататніка аловак і паспрабаваў пісаць. Яна напэўна бачыла, што ён з цяжкасцю напісаў нейкія літары, але, не ўмеючы чытаць, яна не магла зразумець іх сэнсу. Знясілены гэтым намаганнем палкоўнік пакінуў нататнік у руцэ пані П'етры, моцна сціснуў яе, неяк дзіўна пазіраючы, нібы хацеў сказаць, вось словы сведкі: «Гэта важна, тут імя забойцы!»

Дабегшы да сяла, пані П'етры сустрэла мэра Барычыні з сынам Вінчэнтэла. Была ўжо амаль ноч. Яна расказала ўсё, што бачыла. Мэр забраў нататнік і пабег у мэрыю, каб узяць сваю трохколерную перавязь і паклікаць сакратара і жандараў. Застаўшыся з Вінчэнтэла, Мадлена П'етры прапанавала пайсці дапамагчы палкоўніку, калі той яшчэ жывы. Але Вінчэнтэла адказаў, што, калі ён падыдзе да чалавека, які быў зацятым ворагам яго роду, яго абавязкова абвінавацяць у забойстве. Хутка з'явіўся мэр. Палкоўнік быў ужо мёртвы. Мэр засведчыў яго смерць, загадаў забраць цела і склаў пратакол.

Нягледзячы на збянтэжанасць, натуральную ў такім становішчы, пан Барычыні паспяшаўся запячатаць нататнік і пачаў усе магчымыя пошукі, але яны не далі значных вынікаў.

Калі прыехаў следчы, нататнік распячаталі і на скрываўленай старонцы ўбачылі літары, напісаныя саслабелаю рукой, але чытэльныя. Там было напісана: «Агасты...» Следчы пераканаўся, што палкоўнік хацеў напісаць, што забіў яго Агастыні. Але Каломба дэла Рэбія, якую выклікаў следчы, папрасіла паказаць ёй нататнік. Яна доўга гартала яго, потым паказала рукою на мэра і крыкнула: «Вось забойца!» І з дакладнасцю і абгрунтаванасцю, дзіўнымі для яе пакутлівага стану, яна расказала, што бацька нядаўна атрымаў ліст ад Орса і да таго, як спаліць яго, запісаў у нататніку сынаў адрас, бо той перад гэтым перайшоў у іншы гарнізон. Зараз гэтага адраса ў нататніку не было, і Каломба зрабіла выснову, што мэр вырваў ліст, на адным баку якога быў адрас, а на другім яе бацька напісаў імя забойцы, замест якога мэр паставіў імя Агастыні. Следчы ўбачыў, што ліст, папярэдні тому, дзе было імя, і сапраўды вырваны, але не хапала і іншых лістоў, а сведкі паказалі, што палкоўнік меў звычку вырываць старонкі з нататніка, калі хацеў прыпаліць цыгару; цалкам магчыма, што ён праз недагляд

спаліў старонку з сынавым адрасам. Апроч таго, адзначалася, што, атрымаўшы нататнік, мэр не мог нічога прачытаць, бо было зацёмна. Ён здолеў даказаць, што ні на хвіліну не спыняўся, пакуль не зайшоў у мэрыю, а брыгадзір жандараў, з якім ён ішоў разам, бачыў, што мэр запаліў лямпу, паклаў нататнік у канверт і запячатаў.

Калі брыгадзір скончыў паказваць, Каломба ў роспачы ўкленчыла і пачала прасіць яго дзеля ўсяго святога сказаць, ці не пакідаў ён мэра аднаго хоць на хвіліну. Відавочна, крануты ўзрушаным станам дзяўчыны, брыгадзір, трохі павагаўшыся, зацвердзіў, што ён выходзіў у суседні пакой па паперу, але не быў там і хвіліны, і што мэр гаварыў да яго ўвесь час, пакуль ён вобмацкам шукаў паперу ў шуфлядзе. Апроч таго, ён сказаў, што, калі вярнуўся, скрываўлены нататнік ляжаў на тым самым месцы, куды мэр кінуў яго, увайшоўшы.

Пан Барычыні адказваў зусім спакойна. Ён казаў, што выбачае паводзіны панны дэла Рэбія і згодны зрабіць ласку апраўдацца. Ён даказаў, што ўвесь вечар заставаўся ў сяле, што сын яго, Вінчэнтэла, быў з ім каля мэрыі ў момант забойства, а другі сын, Арландуча, быў прастыўшы і ўвесь той дзень не ўставаў з ложка. Ён паказаў усе стрэльбы ў сваім доме, з усіх іх даўно не стралялі. Ён дадаў, што, адразу здагадаўшыся пра важнасць нататніка, ён запячатаў яго і аддаў у рукі свайму намесніку, прадбачачы, што пры яго адносінах з палкоўнікам яго могуць падазраваць. Нарэшце ён нагадаў, што Агастыні пагражаў забіць таго, хто напісаў ліст ад яго імя, і намякнуў, што гэты мярзотнік мог западозрыць палкоўніка і забіць яго. Такая помста з падобных прычынаў зазвычай для карсіканскіх бандытаў.

Праз пяць дзён пасля смерці палкоўніка дэла Рэбія атрад вальтыжораў натрапіў на Агастыні, і пасля зацятае бойкі той быў забіты. На ім знайшлі ліст ад Каломбы, якая маліла яго прызнацца, ці вінаваты ён у забойстве, якое яму прыпісваюць. Бандыт не адказаў, і з гэтага зрабілі выснову, што ён не наважваўся сказаць дачцэ, што забіў яе бацьку. Але тыя, хто ведаў характар Агастыні, цішком казалі, што, забіўшы палкоўніка, ён пачаў бы выхваляцца. Яшчэ адзін вядомы бандыт, Брандалача, перадаў Каломбе ліст, у якім гонарам кляўся, што яго таварыш бязвінны; але ён выстаўляў адзіны доказ, што Агастыні ніколі не казаў яму, што падазрае палкоўніка.

У выніку нікога з Барычыні не дапытвалі. Следчы расхваліў мэра, а той адмовіўся ад усялякіх дамаганняў на

рачулку, за якую ён судзіўся з палкоўнікам, што сталася вяршыняю ягоных прыкладных паводзін у гэтай справе.

Паводле мясцовага звычаю, пры сабраных сябрах Каломба праспявала над бацькавым целам *ballata*. У ёй яна выказала ўсю сваю нянавісць да Барычыні, вінавацiла іх у забойстве, пагражала, што брат яе адпомсціць. Менавіта гэтую *ballata*, што зрабілася вельмі папулярнаю, і спяваў пры міс Лідзіі матрос. Даведаўшыся пра смерць бацькі, Орса, які служыў на той час на поўначы Францыі, прасіў водпуск, але не мог яго атрымаць. Спачатку з Каломбінага ліста ён палічыў Барычыні за вінаватых, але хутка атрымаў копіі ўсіх судовых дакументаў, а асабісты ліст следчага пераканаў яго, што адзіны вінаваты быў бандыт Агастыні. Раз на тры месяцы Каломба пісала яму, гаворачы пра свае падазрэнні і называючы іх доказамі. Мімаволі гэтыя абвінавачванні прымушалі бушаваць ягоную карсіканскую кроў, і часам ён нават быў блізкі да таго, каб згадзіцца з падазрэннямі сястры. Але ў адказах ён увесь час паўтараў, што яе доказы не маюць трывалага абгрунтавання і не вартыя ніякае веры. Ён нават забараняў ёй, хоць дарэмна, пісаць пра гэта. Так мінула два гады, ён быў звольнены з палавіннаю пенсіяй і тады надумаў наведаць бацькаўшчыну, не дзеля таго, каб помсціць людзям, якіх ён лічыў за нявінных, а каб аддаць замуж сястру і прадаць сваю невялічкую маёмасць, калі б гэта дало яму сродкі пражыць на кантыненце.

## VII

Ці то прыезд сястры з новаю сілай абудзіў у Орса ўспаміны пра родны дом, ці то ад сораму перад сваімі цывілізаванымі сябрамі за дзікія манеры і касцюм Каломбы, але ўжо на другі дзень ён абвясціў пра свой намер пакінуць Аяча і вярнуцца ў П'етранэру. Праўда, ён прымусіў палкоўніка паабяцаць, што наведае яго сціплае жытло, калі паедзе ў Бастыю, а за гэта абяцаў яму паляванне на даніэляў, фазанаў, дзікоў і іншае.

Незадоўга да ад'езду Орса замест палявання прапанаваў прагуляцца берагам заліва. Узяўшы пад руку міс Лідзію, ён мог гаварыць з ёю зусім свабодна, бо Каломба засталася ў горадзе, каб зрабіць пакупкі, а палкоўнік штохвіліны адыходзіў ад іх, каб пастраляць чаек і дурнікоў на вялікі подзіў сустрэчным, якія не разумелі, як можна марнаваць порах на падобную дзічыну.

Яны ішлі дарогаю, што вяла да грэчаскае капліцы, адкуль адкрываўся найпрыгажэйшы выгляд затокі, але не звярталі на яе ніякае ўвагі.

— Міс Лідзія... — сказаў Орса, калі маўчанне так зацягнулася, што далей зрабілася б няёмкім.— Скажыце шчыра, што вы думаеце пра маю сястру?

— Яна мне вельмі падабаецца,— адказала міс Нэвіл і дадала з усмешкаю: — Больш за вас, бо яна сапраўдная карсіканка, а вы занадта цывілізаваны дзікун.

— Занадта цывілізаваны!.. Я адчуваю, што мімаволі зноў раблюся дзікуном з тога часу, як ступіў на гэты востраў. Тысяча жахлівых думак хвалюе мяне, узрушвае... і мне абавязкова трэба было трохі пагаварыць з вамі да ад'езду ў маю пустыню.

— Майце мужнасць, васпане. Паглядзіце, як скарылася лёсу ваша сястра, яна дае вам прыклад.

— О, вы памыляецеся. Не верце яе пакорнасці. Яна яшчэ не сказала ні слова, але ў кожным яе поглядзе я чытаю, чаго яна ад мяне чакае.

— А чаго яна ад вас хоча?

— Ат, нічога... адно каб я праверыў, ці стрэльба вашага бацькі таксама добра б'е чалавека, як і дзічыну.

— Што за думка! І як вы можаце дапусціць такое! Вы ж толькі што самі пацвердзілі, што яна вам яшчэ нічога не сказала. Гэта жахліва.

— Каб яна не думала пра помсту, яна б адразу пачала гаварыць пра бацьку, а яна маўчыць. Яна б назвала імёны тых, каго лічыць... дарэмна, я ведаю, яго забойцамі. Але ж і тут ані слова! Гэта таму, што мы, карсіканцы, хітры народ. Мая сястра разумее, што не цалкам трымае мяне пад сваім уплывам, і не хоча спудзіць мяне, калі [redacted] яшчэ магу ўцячы. Але, падвёўшы мяне да краю прорвы, калі галава мая закружыцца, яна штурхне мяне ў бездань.

— Орса расказаў міс Лідзіі некалькі падрабязнасцяў пра смерць бацькі, прывёў асноўныя доказы, што прымушалі лічыць Агастыні за забойцу.— Але нішто не змагло пераканаць Каломбу,— дадаў ён.— Я зразумеў гэта з яе апошняга ліста. Яна паклялася знішчыць Барычыні, і... міс Нэвіл, бачыце, як я веру вам... можа быць, яны былі б ужо нежывыя, але праз веру ў забабоны, даравальную пры яе дзікім выхаванні, яна лічыць, што помсціць павінен я, як старэйшы ў сям'і, і што тут закрануты мой гонар.

— Дальбог, васпане, вы нагаворваеце на сваю сястру.

— Не, вы ж самі сказалі... яна карсіканка... яна думае,

як думаюць усе тут. Вы ведаеце, чаму ўчора я быў такі сумны?

— Не, але ўжо пэўны час у вас бываюць прыступы дрэннага настрою... Вы былі лепшы ў першыя дні нашага знаёмства.

— А ўчора, наадварот, я быў весялейшы, чым звычайна. Я бачыў, што вы такая добрая, такая спагадлівая да маёй сястры!.. Мы з палкоўнікам вярталіся на лодцы. І ведаеце, што мне сказаў адзін лодачнік на сваёй д'яблавай гаворцы: «Вы забілі шмат дзічыны, Орс Антон, але паглядзіце, Арландуча Барычыні палюе лепш за вас».

— І што ж такога страшнага ў гэтых словах? Вы так хочаце быць самым лепшым паляўнічым?

— Хіба вы не разумееце: гэты мярзотнік казаў, што я не маю мужнасці забіць Арландуча.

— Ведаеце, пане дэла Рэбія, вы палохаеце мяне. Здаецца, што паветра вашага вострава не толькі наганяе ліхаманку, але і робіць вар'ятам. На шчасце, мы хутка пакінем яго.

— Але не раней, чым наведаеце П'етранэру. Вы абяцалі гэта маёй сястры.

— А калі мы не выканаем гэтага абяцання, то мусім чакаць нейкае помсты?

— Памятаеце, ваш бацька неяк распавядаў пра індусаў, што пагражаюць кіраўнікам Кампаніі галадоўкаю, калі тыя не вырашаць адпаведна законам іх патрабаванні?

— Значыць, і вы заморыце сябе голадам? Сумняваюся. Адзін дзень вы яшчэ пагаладаеце, але на другі панна Каломба прынясе вам такі смачны *bruccio*[1], што вы адмовіцеся ад сваіх планаў.

— Вашы насмешкі жорсткія, міс Нэвіл. Вы ж бачыце, што я тут адзін. Толькі вы перашкаджалі мне звар'яцець, вы былі мой анёл-ахоўца, а зараз...

— Зараз,— сказала міс Лідзія сур'ёзна.— Каб падтрымаць ваш розум, які так лёгка падточваецца, вы маеце ваш гонар чалавека і вайскоўца і...— працягвала яна, нагнуўшыся, каб сарваць кветку,— калі гэта дапаможа вам, успамін пра вашага анёла-ахоўцу...

— Ах! Міс Нэвіл, каб я толькі мог думаць, што вы і сапраўды неяк спрыяеце мне...

— Паслухайце, пане дэла Рэбія,— сказала міс Нэвіл трохі ўсхвалявана,— вы дзіця, і я буду звяртацца да вас, як да дзіцяці. Калі я была малая, маці падаравала мне

---

[1] Гатунак сыру, нацыянальная страва карсіканцаў *(аўт.)*.

прыгожыя каралі, пра якія я марыла, але пры тым яна сказала: «Кожны раз, як будзеш накладаць гэтыя каралі, узгадвай, што яшчэ не ўмееш гаварыць па-французску». І вартасць караляў упала ў маіх вачах. Яны зрабіліся для мяне нечым накшталт дакору; але я іх насіла, і я вывучыла французскую. Бачыце гэты пярсцёнак? Гэта егіпецкі скарабей, знойдзены ў пірамідзе. Гэтая смешная выява, што вы, мабыць, лічыце за бутэльку, азначае людское жыццё. У маёй краіне ёсць людзі, што палічылі б гэты іерогліф за вельмі адпаведны. Вось гэта, далей, гэта шчыт на руцэ, якая трымае дзіду: гэта азначае змаганне, бітву. Такім чынам, спалучэнне двух знакаў утварае дэвіз, як мне здаецца, цудоўны: Жыццё ёсць змаганне. Не думайце, што я лёгка чытаю іерогліфы; адзін навуковец, прозвішча якога мае канчатак — *ус*, растлумачыў мне гэта. Калі ў вас з'явяцца благія карсіканскія думкі, паглядзіце на мой талісман і скажыце сабе, што трэба выходзіць пераможцам з бойкі, у якую нас уцягваюць нядобрыя страсці. Але я й сапраўды някепска навучаю.

— Я буду думаць пра вас міс Нэвіл, я буду казаць сабе...

— Кажыце сабе, што маеце сябра, які будзе шкадаваць... калі... вас павесяць. Дарэчы, гэта засмуціць і вашых продкаў-капралаў.

З гэтымі словамі яна пусціла Орсаву руку і пабегла да бацькі.

— Тата,— сказала яна,— пакіньце гэтых бедных птушак, хадземце з намі чытаць вершы ў Напалеонаў грот.

## VIII

У ад'ездзе заўжды ёсць нешта ўрачыстае, нават калі расстаюцца ненадоўга. Орса з сястрою меліся выехаць вельмі рана; напярэдадні ўвечары яны развіталіся з міс Лідзіяю, бо Орса не спадзяваўся, што дзеля яго яна адступіцца ад сваіх лянотных звычак. Развітанне было халоднае і прыстойнае. Пасля размовы на беразе мора міс Лідзія забаялася, што выявіла, можа быць, занадта жывую цікаўнасць да Орса, а той, у сваю чаргу, трымаў на сэрцы яе кепікі, а асабліва насмешлівы тон. Быў момант, калі ён паверыў, што ў паводзінах маладое англічанкі ёсць завязь пачуцця сімпатыі; зараз, збянтэжаны яе жартамі, ён казаў сабе, што быў у яе вачах толькі проста знаёмы, пра якога

хутка забудуцца. Тым больш ён здзівіўся, калі ўранку, п'ючы каву з палкоўнікам, убачыў, што міс Лідзія ўваходзіць з яго сястрой. Яна паднялася а пятай гадзіне, а для англічанкі, і для міс Нэвіл асабліва, падобнае намаганне было занадта вялікае, каб не выклікаць у яго ганарлівасці.

— Шкада, што вы мусілі патурбавацца так рана,— сказаў Орса.— Напэўна, сястра, не паслухаўшыся мяне, падняла вас, і вы, відаць, праклінаеце нас. Можа быць, вы спадзяваліся, што мяне ўжо павесілі?

— Не,— вельмі ціха сказала міс Лідзія па-італьянску, відаць, каб не пачуў бацька.— Але ўчора вы засердзіліся на мяне за мае бязвінныя жарцікі, а я не хацела, каб вы захавалі пра мяне нядобрыя ўспаміны. Якія ж вы, карсіканцы, жахлівыя людзі! Ну дык да сустрэчы, спадзяюся, да хуткае.

І яна падала яму руку. У адказ Орса здолеў толькі ўздыхнуць. Каломба падышла да яго, адвяла да акна і, паказваючы штосьці пад сваёй вуалькаю, нешта ціха яму казала.

— Мая сястра,— сказаў Орса міс Нэвіл,— хоча зрабіць вам не зусім звычайны дарунак; мы, карсіканцы, не шмат што маем дарыць... за выключэннем нашае прыязні.. якая захоўваецца назаўжды. Сястра казала, што вы цікавіліся гэтым стылетам. Гэта сямейная рэліквія. Можа быць, ён вісеў на поясе ў кагосьці з тых капралаў, якім я абавязаны гонарам знаёмства з вамі. Каломба так шануе яго, што нават спыталася майго дазволу, каб вам яго падараваць, а я й не ведаю, ці павінны дазволіць, бо баюся, каб вы не пачалі смяяцца з нас.

— Кінжал дзівосны,— сказала міс Лідзія.— Але гэта родавая зброя, я не магу яго прыняць.

— Гэта не бацькаў кінжал,— жвава сказала Каломба.— Кароль Тэадор падараваў яго аднаму з продкаў маёй маці. Мы будзем рады, калі вы яго прымеце.

— Бачыце, міс Лідзія,— сказаў Орса.— Не зневажайце каралеўскі кінжал.

Для аматара рэліквіі караля Тэадора бясконца каштоўнейшыя за зброю наймагутнейшага манарха. Спакуса была вялікая, міс Лідзія ўжо ўяўляла, які эфект учыніць гэты кінжал, калі яна пакладзе яго на лакіраваны столік у сваёй кватэры на Сэнт-Джэймс-Плэйс.

— Але, мілая панна Каломба,— сказала яна, нерашуча беручы стылет, як чалавек, што вельмі хоча згадзіцца, і ўсміхнулася самаю прыязнаю ўсмешкаю,— я не магу.., я не наважуся адпусціць вас бяззбройную.

— Са мною мой брат,— сказала Каломба з гонарам.— І ў нас добрая стрэльба, якую падараваў ваш бацька. Орса, вы набілі яе куляю?

Міс Нэвіл узяла кінжал, а Каломба запатрабавала адзін су, каб адвесці небяспеку, якая спадае на таго, хто дарує сябрам рэзную ці кольную зброю.

Нарэшце трэба было ехаць. Орса яшчэ раз паціснуў руку міс Нэвіл, Каломба пацалавала яе, пасля падставіла свае ружовыя вусны палкоўніку, які прыйшоў у захапленне ад карсіканскае ветлівасці. З акна салона міс Лідзія бачыла, як брат з сястрою сядалі на коней. Вочы ў Каломбы ззялі хітраю радасцю, якое англічанка дагэтуль не заўважала. Гэтая высокая і дужая дзяўчына, фанатычна адданая ідэям варварскага гонару, з напышлівым лобам, з вуснамі, выгнутымі ў іранічнай усмешцы, што вяла гэтага збройнага малойца нібы на наканаваную выправу, нагадала міс Лідзіі Орсавы трывогі, і ёй здалося, што яна бачыць злога генія, які вядзе яго да згубы. Ужо седзячы на кані, Орса ўзняў галаву і заўважыў яе. Ці то здагадаўшыся пра яе думкі, ці то каб сказаць ёй апошняе «бывай», ён узяў егіпецкі пярсцёнак, што вісеў у яго на матузку, і паднёс да вуснаў. Зачырванеўшыся, міс Лідзія адышлася ад акна, але амаль адразу ж вярнулася і ўбачыла, як карсіканцы на сваіх коніках галопам бягуць да гор. Праз паўгадзіны палкоўнік паказаў іх у падзорную трубу. Яны ехалі далёка ўздоўж затокі, і міс Нэвіл убачыла, што Орса часта азіраецца на горад. Нарэшце яны схаваліся за балотамі, на месцы якіх зараз узрос гожы малады лес. Зірнуўшы ў люстэрка, міс Лідзія заўважыла, што збялела.

— Што падумае пра мяне гэты хлопец? А што думаю пра яго я? І чаму я пра яго думаю?.. Дарожнае знаёмства!.. І нашто я прыехала на Корсіку! О, я яго зусім не кахаю... Не, не, дый гэта ж не магчыма... І Каломба... Я — бра́тава *voceratrice*! Тае, што носіць вялікі кінжал! — І, заўважыўшы, што трымае ў руцэ кінжал караля Тэадора, яна кінула яго на свае сукенкі.— Каломба ў Лондане танцуе ў Эльмака! Божухна, вось будзе львіца![1] Напэўна, праз яе ўчыніцца фурор... Ён кахае мяне, я ўпэўнена... Гэта герой рамана, авантурную кар'еру якога я перапыніла... Але ці сапраўды хацеў ён адпомсціць за бацьку па-карсіканску?.. Ён нешта

---

[1] На тыя часы англічане называлі так свецкіх людзей, што імкнуліся вылучыцца праз нешта надзвычайнае (*аўт.*).

сярэдняе паміж Конрадам і дэндзі... Я зрабіла з яго сапраўднага дэндзі, дэндзі, які мае карсіканскага краўца!..

Яна кінулася ў ложак і хацела заснуць, але нічога з гэтага не атрымалася. А я не бяруся працягваць яе маналог, у якім яна сотні разоў паўтарала, што пан дэла Рэбія быў, ёсць і будзе ёй нікім.

## IX

А тым часам Орса з сястрою ехалі далей. Спачатку з-за хуткага бегу коней яны не маглі размаўляць, потым, калі на стромым пад'ёме коні мусілі перайсці на крок, яны пачалі перагаворвацца пра сяброў, якіх нядаўна пакінулі. Каломба з захапленнем гаварыла пра прыгажосць міс Нэвіл, пра яе льняныя валасы, пра яе далікатныя манеры. Пасля яна запыталася, ці палкоўнік такі багаты, як здаецца, ці панна Лідзія адна ў яго дачка.

— Гэта была б неблагая партыя,— сказала яна.— Здаецца, яе бацька вельмі прыязна ставіцца да вас...

І як Орса нічога не адказаў, то яна працягвала:

— Некалі наш род быў багаты, мы й цяпер з найшаноўнейшых на востраве. Усе гэтыя signori[1] выблядкі. Высакародства захавалася толькі сярод капралаў, а вы ведаеце, Орса, што нашы продкі з першых капралаў на востраве. Наш род прыйшоў з-за гор[2], бо грамадзянскія войны змусілі нас. На вашым месцы, Орса, я б не вагаўшыся папрасіла рукі міс Нэвіл у яе бацькі. (Орса паціснуў плячыма.) На яе пасаг я б купіла лясы Фальсэта і вінаграднікі, што ляжаць ніжэй нашага сяла; я б пабудавала прыгожы дом з чэсанага каменю і надбудавала б яшчэ адзін паверх на нашай старой вежы, дзе Самбукуча пабіў столькі маўраў за часы графа Анры ле бэль Місэрэ[3].

---

[1] *Signori* завуцца нашчадкі карсіканскіх феадалаў. Паміж родамі *signori* і *caporali* ідзе спрэчка за радавітасць *(аўт.)*.

[2] Г. зн. з усходняга берага. Гэты пашыраны выраз *di là dei monti* мяняе сэнс адпаведна месцу знаходжання таго, хто гаворыць. З поўначы на поўдзень Корсіку дзеліць горны хрыбет *(аўт.)*.

[3] В. Філіпіні кн. II.— Граф Арыга бэль Місэрэ памёр каля 1000 года. Кажуць, што па ягонай смерці пачуўся голас, што спяваў наступныя прарочыя словы:

*E morto il conte Arrigo bel Missere,*
*E Corsica sarà di male in peggio.*

(Памёр граф Арыга бэль Місэрэ; і Корсіка цяпер зазнае бяды.)

— Каломба, ты звар'яцела,— адказаў Орса, гонячы каня галопам.

— Вы мужчына, Орс Антон, і, пэўна, лепей за жанчыну ведаеце, што вам рабіць. Але я б хацела ведаць, што гэты англічанін можа мець супраць вашага шлюбу. Ці ёсць у Англіі капралы?..

Гутарачы такім чынам, брат і сястра пасля досыць доўгага прабегу прыехалі ў невялічкую вёску блізка Баканяна, дзе спыніліся павячэраць і пераначаваць у аднаго з сяброў іхняе сям'і. Іх прынялі з тою карсіканскаю гасціннасцю, якую можна ацаніць, толькі спазнаўшы. Назаўтра гаспадар, што даводзіўся кумам пані дэла Рэбія, правёў іх за адзін лье ад свайго дома.

— Бачыце вунь тыя лясы і макі,— сказаў ён Орса ў хвіліну расстання.— Чалавек, якога б *напаткала няшчасце*, пражыў бы там дзесяць год, і ні жандары, ані вальтыжоры не сунуліся б туды па яго. Гэтыя лясы цягнуцца да Візавонскага лесу, і калі маеш сяброў у Баканяна ці дзе паблізу, будзеш мець усё, што трэба. У вас добрая стрэльба, яна павінна біць далёка. Матка Боска! Што за калібр! З такою стрэльбаю можна забіць і што лепшае за дзіка.

Орса холадна адказаў, што гэта англійская стрэльба і што *свінец* яна нясе далёка. Яны абняліся, і кожны рушыў сваёю дарогай.

Нашы падарожнікі былі ўжо недалёка П'етранэры, калі ля ўвахода ў горную гарлавіну, праз якую яны меліся ехаць, угледзелі сем ці восем мужчын са стрэльбамі. Адныя сядзелі на камянях, другія ляжалі на траве, іншыя стаялі і, здавалася, сачылі за дарогаю. Коні іхнія пасвіліся паблізу. Каломба хвіліну глядзела на іх у падзорную трубу, якую дастала са скураное торбы, што ўсе карсіканцы бяруць у дарогу.

— Гэта нашы людзі! — радасна закрычала яна.— П'еруча добра выканаў загад.

— Якія людзі? — запытаў Орса.

— Нашы пастухі,— адказала яна.— Пазаўчора ўвечары я выправіла П'еруча сабраць гэтых малойцаў, каб правесці вас да дому. Не належыць вам уязджаць у П'етранэру без дружыны, апроч таго, трэба памятаць, што Барычыні здольныя на ўсё.

— Каломба,— сказаў Орса сурова,— колькі разоў прасіў я цябе не гаварыць мне пра Барычыні і пра тваё неабгрунтаваныя падазрэнні. Я не збіраюся выстаўляць сябе на пасмех, вяртаючыся дадому з кодлаю гэтых лай-

дакоў. І я вельмі недавольны, што ты іх сабрала, не папярэдзіўшы мяне.

— Браце, вы забылі сваю краіну. Я мушу вас ахоўваць, калі вы самі не сцеражэцеся. Я павінна была зрабіць так, як зрабіла.

У гэтую хвіліну пастухі заўважылі іх, пабеглі да коней і галопам паляцелі ім насустрач.

— *Evviva* Орс Антон! — закрычаў магутны стары з сівою барадой, нягледзячы на спёку, ён быў у бурцы з тоўстага карсіканскага сукна, калматага, як воўна на козах.— Ды вы ад бацькі капачкі пабралі, толькі вышэйшы і дужэйшы! Але ж і стрэльба ў вас! Пра гэтую стрэльбу яшчэ загавораць, Орс Антон.

— *Evviva* Орс Антон! — закрычалі пастухі ўсе разам.— Мы ведалі, што нарэшце ён прыедзе!

— Ах, Орс Антон,— сказаў высокі загарэлы дзяцюк,— як бы радаваўся ваш бацька, калі б сёння быў з намі! Дарагі наш! Вы б сустрэліся з ім зараз, каб ён мне паверыў, каб дазволіў расправіцца з Джудзіча... Адважны быў чалавек! Ён не паверыў мне, а зараз добра ведае, што я меў рацыю.

— Ат,— сказаў стары.— Джудзіча свайго дачакаецца.

— *Evviva* Орс Антон!

І тузін стрэлаў прагучаў разам з гэтым поклічам.

У гэтай купе коннікаў, што гаварылі ўсе разам і таўкліся, каб пацiснуць яму руку, узлаваны Орса нейкі час не мог уставіць ні слова. Нарэшце, прыняўшы выгляд, з якім рабіў вымовы свайму ўзводу ці саджаў пад арышт, ён сказаў:

— Сябры, дзякуй вам за прыязнь да мяне і добрую памяць пра майго бацьку, але не хачу, не жадаю, каб мне давалі парады. Я сам ведаю, што мне рабіць.

— Мае рацыю, мае рацыю! — закрычалі пастухі.— Вы ведаеце, што можаце спадзявацца на нас.

— Так, я й спадзяюся, але зараз мне ніхто не патрэбны і ніякая небяспека не пагражае майму дому. Павяртайце коні і язджайце да сваіх козаў. Я ведаю дарогу ў П'етранэру, мне не трэба праважатых.

— Нічога не бойцеся, Орс Антон,— сказаў стары.— Сёння яны не наважацца высунуцца. Калі з'яўляецца кот, мыш хаваецца ў нары.

— Сам ты кот, стары барадач! Як ты завешся?

— О, дык вы не ведаеце мяне, Орс Антон? Я ж так часта катаў вас на сваім куслівым муле. Вы не ведаеце Пола Грыфа? Бачыце, я яшчэ дужы і адданы дэла Рэбія целам і душою. Адно загадайце, і калі ваша вялікая стрэльба загаво-

рыць, мой мушкет, стары як і ягоны гаспадар, не будзе маўчаць. Разлічвайце на яго, Орс Антон

— Добра, добра. Але ідзіце адсюль да д'ябла і дайце нам дарогу.

Нарэшце пастухі ад'ехалі, хуткім бегам кіруючыся да вёскі, але на кожным пагорку спыняліся, нібы выглядаючы, ці не прыхавалася дзе засада, і ўвесь час трымаліся досыць блізка ад Орса і ягонае сястры, каб пры нагодзе даць ім дапамогу. А стары Пола Грыфа казаў сваім спадарожнікам:

— Я разумею яго, разумею! Ён не гаворыць, што хоча рабіць, ён робіць. Чысты бацька! Добра! Кажы сабе, што ні на каго не злуешся! Ты даў зарок святой Незе![1] Цяпер я й шэлега не дам за скуру мэра. Месяца не міне, як у ёй будзе столькі дзірак, што бурдзюка з яе не зробіш.

Такім чынам, маючы наперадзе купу разведчыкаў, нашчадак роду дэла Рэбія ўступіў у сваё сяло і рушыў да старое сядзібы капралаў, сваіх продкаў. Рэбіяністы, доўгі час пазбаўленыя свайго правадыра, грамадою выйшлі сустракаць яго. Тыя жыхары сяла, што трымаліся нейтралітэту, назіралі падзеі, стоячы ля сваіх дзвярэй. Барычыністы сядзелі ў хатах і цікавалі праз шчыліны ў аканіцах.

Мястэчка П'етранэра, як і ўсе селішчы на Корсіцы, забудавана вельмі нерэгулярна. Каб убачыць вуліцу, трэба ехаць у сяло Карджэзе, пабудаванае панам дэ Марбёфам. Дамы, раскіданыя як папала і без аніякае сістэмы, займаюць верхнюю частку невялічкага плато, ці, хутчэй, горны выступ. У цэнтры селішча ўзносіўся магутны зялёны дуб, і ля яго можна бачыць гранітны жолаб, у які праз драўляную трубку ідзе вада з недалёкае крыніцы. Гэты помнік грамадскага карыстання быў пабудаваны на агульныя сродкі дэла Рэбія і Барычыні, але моцна памыліўся б той, хто ўзяўся б шукаць у гэтым адзнаку былое згоды двух радоў. Наадварот, гэта ёсць твор іхняе зайздрасці. Некалі палкоўнік дэла Рэбія даслаў у муніцыпальную раду сваёй камуны невялічкую суму, каб спрыяць пабудове фантана. Адвакат Барычыні паспяшаўся зрабіць такі ж самы ўклад, і вось гэтай барацьбе велікадушнасці П'етранэра абавязана сваёю вадой. Вакол дуба і фантана ляжыць вольная прастора, што завецца плошчаю, і дзе вечарамі збіраюцца розныя нягробы. Часам тут гуляюць у карты, а раз на год, падчас карнавалу, ладзяць скокі. На двух баках плошчы ўзносяцца нешырокія, але

[1] Такой святой няма ў календары. Даць зарок святой Незе — упарта ні ў чым не прызнавацца *(аўт.)*.

высокія будыніны з граніту і чэсаных камянёў. Гэта вежы варожых радоў дэла Рэбія і Барычыні. Яны аднолькава пабудаваны, маюць аднолькавую вышыню, і відаць, што дзве сям'і ўвесь час варагуюць, а лёс нікому не дае перавагі.

Мабыць, дарэчы будзе растлумачыць, што трэба разумець праз слова «вежа». Гэта квадратны будынак прыблізна на сорак футаў вышыні, які ў іншай краіне назвалі б папросту галубоўняю. Вузкія дзверы прабіты на вышыні восем футаў ад зямлі, да іх дабіраюцца па вельмі стромых сходах. Над дзвярыма — акно і нешта накшталт каменнае павеці, у якой зроблена адтуліна-байніца, што дазваляе без рызыкі забіць нясціплага наведвальніка. Паміж дзвярыма і акном відаць два груба высечаныя шчыты. На адным быў калісьці генуэзскі крыж, зараз ён увесь пабіты і разабраць яго могуць толькі антыквары. На другім высечаны радавы герб уладароў вежы. Каб дапоўніць малюнак, дадайце сляды ад куляў на шчытах і аканіцах, і вы маеце ўяўленне аб сярэднявечнай сядзібе на Корсіцы. Я забыўся сказаць, што жылыя пабудовы прымыкаюць да вежы і часта злучаны з ёю ўнутраным пераходам.

Вежа і дом дэла Рэбія займаюць паўночны бок плошчы П'етранэры; вежа і дом Барычыні стаяць на паўднёвым баку. Ад паўночнае вежы да фантана — месца шпацыраў дэла Рэбія, Барычыні прагульваюцца з супрацьлеглага боку. З часоў пахавання палкоўнікавае жонкі ніхто ні разу не бачыў, каб хтосьці з гэтых сем'яў з'яўляўся на той палове плошчы, што не належала яму паводле нейкага бязмоўнага пагаднення. Каб скараціць дарогу, Орса сабраўся праехаць перад домам мэра, але сястра папярэдзіла яго і прапанавала завярнуць у вулку, якою можна было дабрацца да дома, не выязджаючы на плошчу.

— Нашто такі клопат? — сказаў Орса.— Хіба плошча не для ўсіх?

Ён турзянуў павады і пагнаў каня.

— Адважнае сэрца! — сказала Каломба ціхенька.— Бацька, ён адпомсціць за цябе!

Уз'ехаўшы на плошчу, Каломба стала паміж братам і домам Барычыні і ўвесь час пільна сачыла за варожымі вокнамі. Яна заўважыла, што іх нядаўна заклалі і зрабілі *archere*. *Archere* завуцца вузкія адтуліны ў форме байніцаў паміж тоўстымі камлямі, якімі закладаюць ніжнюю частку акна. Так закрываюцца, калі баяцца нападу, і з-за камлёў можна страляць па нападніках.

— Баязліўцы! — сказала Каломба.— Глядзіце, браце,

яны ўжо пачынаюць сцерагчыся: вунь як забарыкадзіраваліся! Але ж некалі мусяць выйсці.

З'яўленне Орса на паўднёвым баку плошчы ўчыніла вялікае ўражанне ў П'етранэры. Яно разглядалася як прыклад адвагі, што мяжуе з неабачнасцю. Для людзей нейтральных, што сабраліся ўвечары ля дуба, гэта была тэма для бясконцых абмеркаванняў.

— Ягонае шчасце,— казалі,— што сыны Барычыні яшчэ не вярнуліся. Яны не такія цярплівыя, як адвакат, і наўрад ці прапусцілі б цераз свае землі ворага, не змусіўшы яго плаціць за дзёрзкасць.

— Папомніце мае словы, суседзе,— казаў адзін стары, тутэйшы вяшчун.— Я прыглядаўся сёння да Каломбінага твару, яна нешта задумляе. У паветры пахне порахам. Хутка ў П'етранэры з'явіцца таннае свежае мяса.

## X

Змалку разлучаны з бацькам, Орса не паспеў спазнаць яго як мае быць. У пятнаццаць год ён пакінуў П'етранэру і паехаў вучыцца ў Пізу, пасля паступіў у Вайсковую школу. Тым часам Гільфуча ваяваў у Еўропе пад сцягамі імператара. На кантыненце Орса бачыўся з ім рэдка, і адно ў 1815 годзе ён трапіў у полк, якім камандаваў ягоны бацька. Але, трымаючы непахісную дысцыпліну, палкоўнік ставіўся да свайго сына таксама, як і да іншых маладых лейтэнантаў, то бок з вялікаю суровасцю. Орсавы ўспаміны былі двойсныя. Ён узгадваў, як у П'етранэры бацька даваў яму сваю шаблю, дазваляў пачысціць стрэльбу, калі вяртаўся з палявання, альбо як першы раз пасадзіў яго, хлапчука, за агульны стол. Потым ён уявіў сабе, як палкоўнік дэла Рэбія саджаў яго пад арышт за нейкую хібу, і называў ён яго заўжды толькі лейтэнантам дэла Рэбія.

— Лейтэнант дэла Рэбія, вы не на сваім баявым месцы — трое сутак арышту.

— Вашы стралкі высунуліся на пяць метраў уперад — пяць сутак арышту.

— Ужо пяць хвілін папалудні, а вы яшчэ ў фуражцы — восем сутак арышту.

Толькі аднойчы пры Катр-Бра ён сказаў:

— Добра, Орса, але будзь пільны.

Зрэшты, П'етранэра абудзіла ў ім не гэтыя апошнія ўспаміны. Выгляд мясцін, знаёмых з маленства, рэчаў,

якімі карысталася ягоная маці, якую ён пяшчотна любіў, выклікаў у яго ў душы хвалю мілых і балючых пачуццяў. Змрочная будучыня, што чакала яго, незразумелы неспакой, што выклікала ў яго сястра, а найбольш думка, што міс Нэвіл хутка прыедзе ў гэты дом, які сёння здаваўся яму такім маленькім, такім бедным, такім неадпаведным для чалавека, прывычнага да раскошы, і які, можа быць, выкліча ў яе пагарду,— усе гэтыя думкі тлумілі яму галаву і наганялі тугу.

Вячэраць ён сеў у пачарнелае ад часу дубовае крэсла — гэтае пачэснае месца за сямейным сталом калісь займаў ягоны бацька — і ўсміхнуўся, убачыўшы, што Каломба вагаецца, ці трэба ёй сядаць з ім за стол. Дарэчы, ён быў удзячны ёй за маўчанне, якое яна захоўвала падчас вячэры, і за тое, што пасля яна хутка выйшла, бо адчуваў сябе занадта ўзрушаным, каб супрацiўляцца наступу, які яна напэўна рыхтавала; але Каломба шкадавала яго і хацела даць яму час агледзецца. Падпершы галаву рукою, ён доўга сядзеў нерухома, перабіраючы ў памяці падзеі, перажытыя за два апошнія тыдні. Са страхам ён бачыў, што ўсе, здавалася, чакаюць, як ён паставіцца да Барычыні. Ён заўважаў, што меркаванне П'етранэры ўжо робіцца для яго грамадскім меркаваннем. Ён мусіць адпомсціць, каб яго не лічылі за труса. Але каму помсціць? Ён не мог паверыць, што Барычыні вінаватыя ў забойстве. Праўда, яны былі ворагі ягонаму роду, але толькі грубая забабоннасць яго землякоў магла прыпісаць ім забойства. Часам ён паглядаў на талісман міс Нэвіл і ціха паўтараў дэвіз: «Жыццё — гэта змаганне». І нарэшце цвёрда сказаў сабе: «Я выйду з яго пераможцам». З гэтаю добраю думкай ён падняўся і, узяўшы газніцу, намерыўся падняцца ў свой пакой, калі ў дзверы нехта пастукаў. Для гасцей час быў запозні. Але адразу ж з'явілася Каломба, а з ёю жанчына, што ім прыслужвала.

— Не хвалюйся,— сказала яна, бегучы да дзвярэй. Аднак да таго, як адчыніць, яна спыталася, хто стукаў. Тонкі голас адказаў:

— Гэта я.

Адразу ж паднялася драўляная завала, што ляжала ўпоперак дзвярэй, і Каломба з'явілася ў зале з дзяўчынкаю год дзесяці, босаю, у лахманах, з парванаю хусцінкай на галаве, з-пад якое вырываліся доўгія пасмы валасоў, чорных як сажа. Дзяўчынка была худая, кволая, са скураю, апаленаю сонцам, але ў вачах у яе свяціўся агеньчык розуму. Убачыўшы Орса, яна спынілася і зрабіла яму рэверанс на

сялянскі манер. Пасля яна ціха загаварыла да Каломбы і аддала ёй нядаўна забітага фазана.

— Дзякуй, Кілі,— сказала Каломба.— Падзякуй свайму дзядзьку. Як ён маецца?

— Добра, панна. Я не магла прыйсці раней, бо ён запазніўся. Я тры гадзіны чакала яго ў макі.

— То ты й не вячэрала?

— Ну пэўна ж, панна, я не мела часу.

— Зараз табе дадуць паесці. У твайго дзядзькі ёсць яшчэ хлеб?

— Мала, але больш яму не хапае пораху. Каштаны ўжо паспелі, і зараз яму патрэбны толькі порах.

— Я дам табе для яго хлеба і пораху. Скажаш, каб порах ашчаджаў, ён дарагі.

— Каломба,— спытаўся Орса па-французску,— каго гэта ты так апякуеш?

— Аднаго беднага бандыта з нашага сяла,— адказала Каломба тою самаю мовай.— Гэтая малеча ягоная пляменніца.

— Здаецца мне, што ты магла б спагадаць каму лепшаму. Нашто дасылаць порах шэльме, што выкарыстае яго на зладзействы? Без гэтае прыкрае слабасці, што, здаецца, тут усе маюць да бандытаў, яны б даўно звяліся на Корсіцы.

— Тыя, што сядзяць у лесе[1], не самыя кепскія ў нашым краі.

— Калі хочаш, дай ім хлеба, нікому нельга адмаўляць хлеба, але я не жадаю, каб ты дасылала ім збраёвы прыпас.

— Браце мой,— сказала Каломба ўрачыста,— вы тут гаспадар, і ўсё ў гэтай хаце належыць вам, але папярэджваю вас: я хутчэй аддам сваю вуаль гэтай дзяўчынцы, каб яна прадала яе, чым адмоўлю пораху бандыту. Не даць яму пораху! Гэта ж усё адно, што выдаць яго жандарам. Чым абароніцца ён ад іх, калі не гэтымі набоямі?

Тым часам дзяўчынка прагна ела кавалак хлеба і пільна пазірала то на Каломбу, то на яе брата, спрабуючы расчытаць у іхніх вачах сэнс таго, пра што яны гутарылі.

— Але, нарэшце, што ён зрабіў, гэты твой бандыт? За якое злачынства мусіць ён хавацца ў макі?

---

[1] Быць *alla campagna* (тут: у лесе), значыць — быць бандытам. Бандыт — гэта не абраза: ён разумеецца ў сэнсе «выгнанец».

— Брандалача не зрабіў ніякага злачынства,— імпэтна сказала Каломба.— Ён прыбіў Джавана Апіца, які забіў ягонага бацьку, пакуль сам ён быў у войску.

Орса адвярнуўся, узяў газніцу і, не адказваючы, пайшоў у свой пакой. Тады Каломба дала дзяўчынцы порах і харчы і правяла яе да дзвярэй, паўтараючы:

— І няхай твой дзядзька пільнуе Орса!

## XI

Орса доўга не мог заснуць і таму прачнуўся позна, прынамсі для карсіканца. Адно ён падняўся, першае, што кінулася яму ў вочы, быў дом ягоных ворагаў і *archere*, якія яны зрабілі. Ён спусціўся ўніз і спытаўся сястры.

— Яна на кухні ліе кулі,— адказала прыслужніца Саверыя.

Так, вобраз вайны не адступаўся ад яго ні на крок.

— Якога д'ябла ты тут робіш? — спытаўся ён у сястры.

— У вас няма больш куляў да палкоўнікавай стрэльбы,— адказала яна сваім мяккім голасам.— Я знайшла форму такога ж калібру, і сёння, браце, у вас будзе дваццаць чатыры набоі.

— Дзякаваць богу, яны мне не патрэбныя.

— Да ўсяго трэба быць гатовsitu, Орс Антон. Вы забылі свой край і людзей, што жывуць вакол вас.

— Калі б я й забыўся, то ты б мне хутка нагадала. Скажы, ці не прывезлі дзён колькі таму вялікае скрыні?

— Прывезлі, браце. Аднесці яе ў ваш пакой?

— Ты аднясеш? У цябе не хопіць сілы прыўзняць яе... Ці ёсць тут які мужчына?

— Я не такая слабая, як вы думаеце,— сказала Каломба, закасваючы рукавы і агаляючы белыя прыгожыя рукі; гэтыя дзівосныя рукі ўдавалі, аднак, рэдкую сілу.— Хадзем, Саверыя, памажы мне.

Яна ўжо сама падняла цяжкую скрыню, калі Орса кінуўся памагчы ёй.

— У гэтай скрыні ёсць сёе-тое для цябе, сястрычка. Спадзяюся, ты не пакрыўдзішся за такія бедныя дарункі, але на заробак лейтэнанта з палавіннаю пенсіяй надта не разгонішся.

Гаворачы, ён адчыніў скрыню і дастаў некалькі сукняў, шаль і іншыя рэчы для маладой дзяўчыны.

— Якая прыгажосць! — у захапленні сказала Каломба.— Я схаваю ўсё гэта, каб не псаваць. Няхай ляжыць да

вяселля, я ж цяпер у жалобе,— дадала яна з сумотнаю ўсмешкай і пацалавала брытаву руку.

— Так доўга хадзіць у жалобе, сястра,— гэта ўжо залішне.

— Я паклялася,— сказала Каломба цвёрда.— Я буду хадзіць у жалобе, пакуль...

І яна паглядзела ў акно на дом Барычыні.

— Пакуль не выйдзеш замуж,— сказаў Орса, стараючыся не даць ёй дакончыць сказ.

— Я выйду замуж толькі за таго, хто зробіць тры справы...

Яна ўвесь час змрочна глядзела на варожы дом.

— Ты такая прыгожая, Каломба, дзіўна, што ты яшчэ не замужам. Ану ж, раскажы мне, хто да цябе заляцаецца. Ды я й сам пачую серэнады. Яны павінны быць дасканалыя, каб спадабацца такой вялікай *voceratrice*, як ты.

— Каму патрэбна бедная сіраціна? І потым чалавек, дзеля якога я здыму жалобу, прымусіць адзець яе жанчын з вунь тога дома.

«Гэта ўжо вар'яцтва»,— сказаў сабе Орса, але не выказаў уголас свае думкі, каб не выклікаць спрэчкі.

— Браце,— ласкава сказала Каломба.— Я таксама маю вам падарунак. Ваша ўбранне занадта добрае для нашага краю. Ваш прыгожы сурдут за два дні пойдзе лахманамі, калі вы будзеце насіць яго ў макі. Трэба захаваць яго да прыезду міс Нэвіл.

Пасля яна адчыніла шафу і дастала адтуль поўны паляўнічы гарнітур.

— Я пашыла вам аксамітную куртку, а вось каптур, якія носяць нашы фарсуны, я ўжо даўно вышыла яго для вас. Хочаце памераць?

І яна прымусіла яго апрануць шырокую аксамітную куртку зялёнага колеру з вялізнаю кішэняй на спіне. На галаву ўзлажыла чорны аксамітны каптур з вострым верхам, расшыты шклянымі пацеркамі і шоўкам такога ж колеру. На вострым версе каптура матляўся кутасік.

— Вось бацькаў пояс[1], а стылет ягоны ў кішэні вашае курткі. Пайду прынясу вам пісталет.

— У мяне выгляд сапраўднага разбойніка са сцэны Амбігю Камік,— сказаў Орса, аглядаючы сябе ў маленькім люстэрку, што трымала Саверыя.

---

[1] *Carchera* — пояс, у які кладуць набоі. Злева на яго навешваецца пісталет.

— Бо ўсё гэта вам так пасуе, Орс Антон,— сказала старая служанка.— І самы прыгожы вастраверхі[1] з Баканяна ці Бастэлікі не выглядае на такога малойца.

Снедаць Орса сеў у сваім новым убранні, а падчас сняданка сказаў сястры, што ў яго ў скрыні ёсць і кнігі і што ён збіраецца выпісаць яшчэ з Францыі і Італіі, каб пасадзіць яе за чытанне.

— Бо сорамна, Каломба, што такая дарослая дзяўчына, як ты, не ведае рэчаў, якія на кантыненце дзеці спазнаюць у немаўлячым узросце.

— Маеце рацыю, браце,— сказала Каломба.— Я ведаю, чаго мне бракуе, і я б хацела вучыцца, асабліва калі вы будзеце даваць мне ўрокі.

Мінула ўжо некалькі дзён, а Каломба не ўзгадвала імя Барычыні. Яна старалася дагадзіць брату і часта гутарыла з ім пра міс Нэвіл. Орса чытаў з ёю творы французскіх і італьянскіх аўтараў і дзівіўся то са слушнасці і трапнасці яе заўваг, то з яе глыбокага няведання самых звычайных рэчаў.

Неяк уранку, пасля снядання Каломба выйшла на хвілінку і вярнулася не з кніжкаю ці паперамі, як звычайна, а ў сваёй вуальцы. Выглядала яна яшчэ сур'ёзней, чым звычайна.

— Браце,— сказала яна,— прашу вас пайсці са мною.

— А куды мы пойдзем? — спытаўся Орса, прапануючы ёй руку.

— Мне не трэба ваша рука, вазьміце лепей стрэльбу і набоі. Мужчына не павінны выходзіць з дому без зброі.

— Ну што ж, трэба падпарадкоўвацца модзе. Куды мы ідзём?

Не адказваючы, Каломба накінула вуальку на галаву, паклікала вартавога сабаку і выйшла. Орса рушыў за ёю. Хутка выйшаўшы з сяла, яна павярнула на сцяжыну, што вілася ў вінаградніках. Перад гэтым яна выправіла ўперад сабаку, відаць, даўшы яму нейкі добра вядомы знак, бо той адразу ж пачаў шнарыць па вінаградніках то на адзін бок сцежкі, то на другі, але заўжды крокаў за пяцьдзесят перад гаспадыняю. Часам ён спыняўся на сцежцы, паглядаючы на Каломбу і матляючы хвастом. Здавалася, ён цудоўна ведаў абавязкі разведчыка.

— Калі Мускета забрэша,— сказала Каломба,— набівайце стрэльбу і стойце на месцы.

---

[1] *Pinsuto* — так называюць тых, хто носіць вастраверхія каптуры, *barreta pinsuta*.

Адышоўшыся на паўмілі ад сяла, шмат разоў павярнуўшы, Каломба раптам спынілася ў месцы, дзе дарога крута заварочвала. Тут стаяў невялічкі капец з вецця, часткова зялёнага, часткова ўжо ссохлага, нагрувашчанага ўвышыню футы на тры. Зверху тырчаў крыж, пафарбаваны ў чорнае. Шмат у якіх кантонах Корсікі, асабліва ў гарах, вельмі стары звычай, можа быць, звязаны яшчэ з паганскімі забабонамі, патрабуе, каб падарожнікі кідалі камень ці галінку на месца, дзе хтосьці загінуў гвалтоўнаю смерцю. Доўгія гады, пакуль успамін пра гэты трагічны скон трывае ў людской памяці, гэты дзіўны ахвярнік расце дзень пры дні. Ён завецца капцом, *mucchio* кагосьці.

Каломба спынілася перад гэтаю кучай галля, зламіла на кусце галінку і кінула яе на капец.

— Орса, тут загінуў наш бацька! Памолімся за душу ягоную, браце!

І яна ўкленчыла. Орса адразу ж зрабіў гэтаксама. У тую ж хвіліну з сяла данёсся ўрачысты звон, бо ўночы там нехта памёр. Слёзы паплылі ў Орса з вачэй.

Праз некалькі хвілін Каломба паднялася, вочы ў яе былі сухія, але твар усхваляваны. Яна спешліва перахрысцілася вялікім пальцам, як звычайна робяць яе землякі, даючы ўрачыстыя клятвы, і вывела брата на дарогу да сяла. Моўчкі ўвайшлі яны ў дом. Орса пайшоў у свой пакой. Праз хвіліну з'явілася Каломба ■ маленькаю скарбонкай, якую паставіла на стол. Яна адчыніла яе і дастала кашулю, усю ў вялікіх крывавых плямах.

— Гэта кашуля вашага бацькі, Орса.

І кінула яе яму на калені.

— Вось свінец, што яго забіў.

І яна паклала на кашулю дзве ззеляненелыя кулі.

— Орса, браце мой! — крыкнула яна, схапіўшы яго за рукі і моцна сціснуўшы іх.— Орса! Ты адпомсціш!

З нейкім шаленствам яна пацалавала яго, кранулася вуснамі куляў і кашулі і вылецела з пакоя, пакінуўшы брата, які нібы скамянеў у сваім крэсле.

Яшчэ нейкі час Орса сядзеў нерухома, баючыся прыбраць гэтыя страшныя святыні. Нарэшце прымусіў сябе пакласці іх у скарбонку, потым кінуўся ў другі канец пакоя, упаў на ложак, павярнуўся да сцяны, уціснуў галаву ў падушку так, бы хацеў схавацца ад зданяў. Апошнія словы сястры гучалі ў яго ў вушах, і яму здавалася, што ён чуе прароцтва, наканаванае, непазбежнае, якое патрабуе ад яго крыві, крыві нявінных. Не буду спрабаваць вытлумачыць

пачуцці няшчаснага хлопца, яны былі такія ж блытаныя, як і пачуцці, што тлумяць галаву вар'ята.

Доўга ляжаў ён так, не наважваючыся павярнуць галаву. Нарэшце ён падняўся, закрыў скарбонку, імкліва выскачыў з дому і рушыў за сяло, крочачы проста наперад, невядома куды.

Памалу вольнае паветра апрытомніла яго, ён паспакайнеў і з пэўнаю развагаю пачаў разглядаць сваё становішча і сродкі, што дапамаглі б яму вырабіцца з яго. Ён не падазраваў Барычыні ў забойстве бацькі; але ён вінаваціў іх у падробцы ліста бандыта Агастыні, і гэты ліст, так яму, прынамсі, здавалася, стаўся прычынаю бацькавай смерці. Ён адчуваў, што немагчыма спаганяць з іх за падробку. Часам забабоны і інстынкты роднага краю апаноўвалі яго і падказвалі яму лёгкую помсту на завароце сцяжыны, але ён з жахам адганяў іх, думаючы пра сваіх палкавых сяброў, пра парыжскія салоны, а асабліва пра міс Нэвіл. Пасля ён узгадваў папрокі сястры, і ўсё карсіканскае, што заставалася ў ягоным характары, апраўдвала гэтыя папрокі і рабіла іх яшчэ вастрэйшымі. У гэтай барацьбе свядомасці і забабонаў яму заставалася адзіная надзея: пад любою зачэпкай распачаць зваду з адным з адвакатавых сыноў і біцца з ім на дуэлі. Забіўшы яго стрэлам ці ўдарам шпагі, ён пагадзіў бы свае карсіканскія і французскія погляды. Знайшоўшы спосаб і абдумваючы сродкі выканання, ён ужо адчуваў, што пазбавіўся вялікага цяжару, а іншыя, больш няшчасныя думкі спрыялі супакою ягонае ліхаманкавае ўзрушанасці. Цыцэрон, у роспачы ад смерці дачкі Туліі, забыўся на свой боль, абдумваючы цудоўныя словы, якія ён мог сказаць з гэтае прычыны. Красамоўна гаворачы пра жыццё і смерць, Шэндзі прымірыўся са стратаю сына. Орса супакоіўся, думаючы, як ён апіша міс Нэвіл свой душэўны стан і што гэта не зможа не крануць прыгажуню.

Ён набліжаўся да вёскі, ад якое ўжо моцна аддаліўся, таго не заўважыўшы, калі пачуў голас дзяўчынкі, якая спявала, думаючы, напэўна, што яна адна на сцяжынцы пры самым макі. Гэта была тая павольная і манатонная мелодыя, якою адрозніваюцца пахавальныя галашэнні. Дзяўчынка спявала: «Дзеля сына майго, што зараз у краях далёкіх,— Захавайце мой крыж і кашулю маю скрываўлену...»

— Што гэта ты спяваеш, малеча? — загнявана сказаў Орса, раптоўна з'явіўшыся перад ёю.

— Гэта вы, Орс Антон! — ускрыкнула напалоханае дзіця.— Гэта песня панны Каломбы...

— Я забараняю табе яе спяваць,— сказаў Орса страшным голасам.

Дзяўчынка пазірала то направа, то налева, нібы выглядала, у які бок уцякаць; і напэўна ўцякла б, калі б наважылася пакінуць вялікі скрутак, што ляжаў ля яе ног у траве.

Орса засаромеўся свайго гневу.

— Што гэта ў цябе там, малеча? — спытаўся ён, як мага далікатней.

І як Кіліна вагалася, ці адказваць, то ён разгарнуў дзяружку, у якую быў увязаны скрутак, і ўбачыў там хлеб і іншыя прадукты.

— Каму ты нясеш гэты хлеб, дзіцятка? — спытаўся ён.

— Вы ж ведаеце, пане, майму дзядзьку.

— А хіба твой дзядзька не бандыт?

— Ён вам можа паслужыць, пане Орса.

— Каб цябе сустрэлі жандары, яны б спыталіся, куды ты ідзеш...

— Я б ім сказала,— не вагаючыся адказала малая,— што нясу паесці мужчынам з Люка, якія высякаюць макі.

— А калі б ты сустрэла якога галоднага паляўнічага, які б захацеў паабедаць за твой кошт і забраў бы твае прадукты?..

— Ніхто б не наважыўся. Я б сказала, што гэта для майго дзядзькі.

— Сапраўды, ён не такі чалавек, што дазволіць адабраць свой абед... А ён любіць цябе?

— Ой так, Орс Антон. Як тата памёр, ён клапоціцца пра нашу сям'ю, пра маму, пра мяне і пра маю маленькую сястрычку. Да таго, як мама захварэла, ён казаў багатым, каб давалі ёй работу. Штогод мэр дарыць мне сукенку, і кюрэ навучае мяне катэхізісу і вучыць чытаць з таго часу, як дзядзька з імі пагаварыў. Але ваша сястра асабліва добрая да нас.

У гэтую хвіліну на сцежцы з'явіўся сабака. Дзяўчынка ўсунула ў рот два пальцы і рэзка свіснула: адразу ж сабака падбег да яе і пачаў лашчыцца, потым раптоўна скочыў у макі. Неўзабаве двое мужчын, кепска апранутых, але добра ўзброеных, падняліся з-за пакрытага зялёнаю порасцю пня за некалькі крокаў ад Орса. Здавалася, яны выпаўзлі, бы вужакі з гушчы разанаў і мірту, якімі парасла ўся зямля.

— А, Орс Антон, калі ласка, да нас,— сказаў старэйшы мужчына.— А што, вы мяне не пазнаяце?

— Не,— сказаў Орса, пільна гледзячы на яго.

— Дзіўна, як барада і вастраверхі каптур мяняюць ча-

лавека! Ну, пане лейтэнант, паглядзіце ж добра. Вы што, забылі старых салдатаў з-пад Ватэрлоа? Вы ўжо не памятаеце Бранда Савэлі? Не адзін набой прыкусіў я поруч з вамі ў гэты няшчасны дзень.

— Як, гэта ты! — сказаў Орса.— Ты ўцёк з войска ў 1816 годзе!

— Так і ёсць, пане лейтэнант. Служба, ліха на яе, надакучвае, ды апроч таго трэба было яшчэ звесці пэўныя рахункі ў гэтых краях. О Кілі, але ж ты й спрытнае дзяўчо! Давай хутчэй, бо мы галодныя. Вы не ўяўляеце сабе, пане лейтэнант, які апетыт з'яўляецца ў макі. Хто гэта нам дасылае, панна Каломба ці мэр?

— Не, дзядзечка, гэта млынарыха дала мне ежу для вас і коўдру для мамы.

— Чаго яна ад мяне хоча?

— Яна кажа, што гэтыя дзядзькі з Люка, якіх яна наняла дрыляваць лес, патрабуюць зараз трыццаць пяць су і каштанаў, бо ніжэй П'етранэры пануе ліхаманка.

— О, лайдакі!.. Я пагляджу. Пане лейтэнант, калі без цырымоніяў, хочаце павячэраць з намі? Нам з вамі даводзілася й горшае есці за часы нашага беднага земляка, якога ўжо звольнілі.

— Шчыра дзякую. Мяне таксама звольнілі.

— Так, я чуў. Але іду ў заклад, што гэта не надта вас засмуціла. Цяпер ваша чарга зводзіць рахункі. Давай, кюрэ,— сказаў бандыт свайму таварышу.— За стол! Пане Орса, гэта пан кюрэ, то бок, я не ведаю, ці ён сапраўды кюрэ, але ў гэтых справах ён дасведчаны.

— Бедны студэнт-тэолаг, васпане, якому перашкодзілі выконваць сваё прызначэнне,— сказаў другі бандыт.— Хто ведае, Брандалача, можа, я стаў бы папам?

— Якая ж прычына пазбавіла царкву вашых ведаў? — спытаўся Орса.

— Драбяза, мусіў зводзіць рахункі, як кажа мой сябра Брандалача. Пакуль я грыз навуку ў Пізанскім універсітэце, мая сястра нарабіла глупстваў. Давялося вярнуцца на радзіму, каб выдаць яе замуж. Але за тры дні да майго прыезду жаніх паспешліва памірае ад ліхаманкі. Тады я звяртаюся, як і вы б зрабілі на маім месцы, да брата нябожчыка. А мне кажуць, што ён жанаты. Што рабіць?

— Сапраўды складанае становішча. І што ж вы зрабілі?

— Гэта якраз той выпадак, калі трэба звярнуцца да крэменю ў стрэльбе[1].

---

[1] *La scaglia* — пашыраны выраз *(аўт.)*.

— Дык значыць...

— Я яму ўклеіў кулю ў лоб,— холадна сказаў бандыт.

Орса скалануўся ад жаху. Але цікаўнасць і, магчыма, таксама жаданне прыпазніць хвіліну, калі трэба будзе вяртацца дадому, прымусілі яго застацца на месцы і працягваць гаворку з гэтымі людзьмі, кожны з якіх меў, прынамсі, адно забойства на сваім сумленні.

Пакуль таварыш гаварыў, Брандалача паклаў перад ім хлеба і мяса, потым надзяліў сябе, затым настала чарга сабакі. Бандыт сказаў Орса, што ён завецца Бруска і мае дзівосную здольнасць пазнаваць вальтыжораў, як бы яны ні пераапрануліся. Нарэшце ён адрэзаў лусту хлеба і кавалак сырога кумпяка і даў пляменніцы.

— Жыццё ў бандыта цудоўнае,— сказаў студэнт-тэолаг, праглынуўшы некалькі кавалкаў.— Можа быць, некалі вы яго спазнаеце, пане дэла Рэбія, і тады ўбачыце, як соладка не мець іншага гаспадара, апроч свайго капрызу.

Дагэтуль бандыт гаварыў па-італьянску, а далей перайшоў на французскую.

— Для свецкага маладога чалавека Корсіка не надта забаўная краіна, але для бандыта — зусім іншая справа! Жанчыны шалеюць па нас. Вось я, напрыклад, маю тры каханкі ў трох розных кантонах. Паўсюль я дома. А адна з іх — жандарава жонка.

— Вы, васпане, добра ведаеце мовы,— сказаў Орса сур'ёзна.

— Калі я гавару па-французску, дык гэта, ведаеце, таму, што *maxima debetur pueris reverentia*[1]. Мы з Брандалача хочам, каб малая не нарабіла глупстваў і ўсё ў яе было як мае быць.

— Калі ёй міне пятнаццаць год,— сказаў Кілінін дзядзька,— я добра выдам яе замуж. Я ўжо нагледзеў ёй хлопца.

— Дык прапанову будзеш рабіць ты? — спытаўся Орса.

— Пэўна ж. Няўжо вы думаеце, што калі я скажу якому-небудзь тутэйшаму багатыру: «Я, Бранда Савэлі, быў бы рады, каб ваш сын ажаніўся з Мікелінаю Савэлі», дык яго давялося б цягнуць за вушы?

— Не раіў бы яму ўпарціцца,— сказаў другі бандыт.— У майго таварыша трохі зацяжкая рука.

— Калі б я быў недавярак, навалач, махляр,— працягваў Брандалача,— мне варта было б адно расшпіліць сваю каліту і манеты па сто су паплылі б туды патокам.

---

[1] Пры дзецях трэба паводзіць сябе прыстойна.

— Дык у тваёй каліце ёсць нешта, што іх вабіць? — сказаў Орса.

— Не, але каб я, як некаторыя робяць, напісаў якому багатыру: «Мне трэба сто франкаў», ён бы даслаў мне іх чым хутчэй. Але я, пане лейтэнант, сумленны чалавек.

— Ці ведаеце вы, пане дэла Рэбія,— сказаў бандыт, якога таварыш называў кюрэ,— ці ведаеце вы, што ў гэтай краіне, дзе звычаі такія шчырыя, ёсць, аднак, некалькі паганцаў, што злоўжываюць павагаю, якую мы выклікаем з дапамогаю нашых пашпартоў (і ён паказаў сваю стрэльбу), і пішуць вэксалі, падрабляючы нашы почыркі?

— Ведаю,— хутка адказаў Орса.— Але якія вэксалі?

— З паўгода таму я прагульваўся каля Арэца, і тут да мяне падыходзіць нейкі вясковы ёлуп, яшчэ здалёк скідае шапку і кажа: «Ах, пане кюрэ (яны заўжды мяне так клічуць), даруйце мне, дайце яшчэ часу, я даў рады знайсці адно пяцьдзесят пяць франкаў, але, дальбог, гэта ўсё, што здолеў наскрэбці». Я здзівіўся: «Што ты чаўпеш, лайдак, якія пяцьдзесят пяць франкаў?» — «Я хацеў сказаць шэсцьдзесят пяць,— адказвае.— Але сотню, што вы патрабуеце, зараз сабраць не магу».— «Як, халера, я патрабую ў цябе сто франкаў! Ды я цябе не ведаю!» Тады ён дае мне ліст, ці, хутчэй, нейкі брудны шматок, у якім яму прапанавана пакласці сто франкаў у прызначанае месца, інакш Джаканта Кастрыконі, гэта значыць я, спаліць ягоны дом, а каровы пазабівае. І хапіла ж некаму нахабства падрабіць мой подпіс! А больш за ўсё мяне ўзлавала тое, што ліст быў напісаны на гаворцы, з кучаю арфаграфічных памылак... Каб я рабіў арфаграфічныя памылкі! Я, які перамагаў ува ўсіх універсітэцкіх конкурсах! Я пачаў з таго, што ўехаў гэтаму паскудніку па мызе так, што ён два разы перакуліўся. «Як, мярзотнік, ты лічыш мяне за злодзея!» — кажу я і даю яму добрага выспятка, самі ведаеце куды. Трохі супакоіўшыся, пытаюся: «Калі ты павінен занесці гэтыя грошы ў прызначанае месца?» — «Ужо сёння». Месца было апісана дакладна: у карэнні аднае хвоі. Ён адносіць грошы, закопвае іх пад дрэвам і вяртаецца да мяне. Я схаваўся паблізу. Я прасядзеў там з гэтым чалавекам шэсць пакутлівых гадзін. Пане дэла Рэбія, каб спатрэбілася, я б праседзеў там тры дні. Праз шэсць гадзін з'яўляецца нейкі *Bastiaccio*[1],

[1] Бастыец. Карсіканскія горцы ненавідзяць жыхароў Басты і не лічаць іх за землякоў. Яны ніколі не кажуць *Bastiese*, а *Bastiaccio*; вядома, што канчатак -accio выкарыстоўваецца звычайна з пагардлівым сэнсам.

гнюсны ліхвяр. Ён нагінаецца, каб узяць грошы, я страляю, ды так трапна, што галава яго трапляе якраз на манеты, якія ён адкопваў. «А зараз, ёлуп,— кажу я селяніну,— забірай свае грошы і не думай болей падазраваць у подласці Джаканта Кастрыконі». Калоцячыся, небарака сабраў свае шэсцьдзесят пяць франкаў, нават не спрабуючы абцерці іх. Ён дзякуе мне, я даю яму на развітанне добрага выспятка, і ён ляціць адтуль стрыжом.

— Ах, кюрэ,— сказаў Брандалача,— зайздрошчу табе за такі стрэл. Ты, напэўна, доўга рагатаў?

— Я цэліў гэтаму *Bastiaccio* ў скроню,— сказаў бандыт.— І гэта нагадала мне вершы Віргілія:

*...Liquefacto tempora plumbo*
*Diffidit, ac multa porrectum extendit arena*[1].

*Liquefacto*! Вы можаце паверыць, пане Орса, што свінцовая куля плавіцца ў паветры ад хуткасці лёту? Вы вывучалі балістыку і, напэўна, маглі б мне сказаць, ці гэта праўда.

Орса больш падабалася абмяркоўваць з кюрэ гэтае пытанне фізікі, чым спрачацца наконт маральнае вартасці ягонага ўчынку. Брандалача, якога не надта цікавіла гэтае навуковае абмеркаванне, перапыніў яго, заўважыўшы, што сонца маецца заходзіць.

— Як вы не захацелі вячэраць з намі, Орс Антон, то раю вам не прымушаць больш панну Каломбу чакаць. І апроч таго, не заўжды добра гуляць на дарогах, калі сонца ўжо схавалася. Чаму вы ходзіце без стрэльбы? У нашых мясцінах хапае ліхіх людзей, сцеражыцеся іх. Сёння вам няма чаго баяцца: Барычыні вязуць да сябе прэфекта, яны сустрэлі яго на дарозе, і ён спыніцца на адзін дзень у П'етранэры, перад тым, як закласці ў Корта першы камень, як гэта кажуць.., ат, глупства! Сёння ён начуе ў Барычыні, але заўтра яны вызваляцца. Ёсць там Вінчэнтэла — добры ліхадзей, і Арландуча за яго не лепшы... Старайцеся захапіць іх паасобку, сёння аднаго, заўтра другога, але сцеражыцеся, яшчэ раз вам паўтараю.

— Дзякуй за параду,— сказаў Орса.— Але ў нас няма агульных справаў, хіба што яны самі прыйдуць да мяне, а мне з імі няма пра што гаварыць.

Бандыт іранічна цмыкнуў, але нічога не адказаў. Орса падняўся.

---

[1] Ён рассек яму скроню расплаўленым свінцом і распасцёр на пяску *(лац.)*.

— Дарэчы,— сказаў Брандалача,— я не падзякаваў вам за порах, ён мне якраз спатрэбіўся. Зараз у мяне ўсяго хапае.., не, мне не хапае яшчэ чаравікаў... але днямі я зраблю іх сабе з муфлонавай скуры.

Орса ўклаў бандыту ў далонь дзве пяціфранкавыя манеты.

— Порах табе даслала Каломба, а гэта ад мяне на чаравікі.

— Без глупстваў, пане лейтэнант,— закрычаў Брандалача, вяртаючы яму абедзве манеты.— Вы лічыце мяне за жабрака? Я прымаю хлеб і порах, але больш нічога не хачу.

— Я падумаў, што старыя салдаты могуць дапамагчы адзін аднаму. То да пабачэння!

Але да таго як пайсці, ён неўпрыкмет паклаў грошы ў бандытаву торбу.

— Бывайце, Орс Антон! — сказаў тэолаг.— Можа быць, днямі мы сустрэнемся ў макі і зноў будзем абмяркоўваць Віргілія.

Мінула ўжо чвэрць гадзіны, як Орса пакінуў сваіх сумленных таварышаў, калі ён пачуў, што нехта бяжыць за ім з усяе моцы. Гэты быў Брандалача.

— Гэта ўжо занадта, пане лейтэнант,— закрычаў ён, засопшыся.— Ужо занадта! Вось вашы дзесяць франкаў! Каму іншаму я б не папусціў такіх кпінаў. Мае прывітанні панне Каломбе. Цераз вас я зусім засопся! Да пабачэння.

## XII

Каломба трохі непакоілася ад доўгае адсутнасці Орса, але, убачыўшы яго, яна зноў набыла той выгляд самотнае ўрачыстасці, які мела заўжды. Падчас вячэры яны гутарылі пра розныя дробязі, і Орса, насмелены спакойным выглядам сястры, распавёў пра сустрэчу з бандытамі і нават дазволіў сабе трохі пажартаваць наконт маральнае і рэлігійнае адукацыі, якую малая Кіліна атрымлівала, дзякуючы клопату свайго дзядзькі і яго шаноўнага калегі, васпана Кастрыконі.

— Брандалача сумленны чалавек,— сказала Каломба.— А што да Кастрыконі, дык я чула, што гэта чалавек без прынцыпаў.

— Здаецца мне,— сказаў Орса,— што ён варты Брандалача, а Брандалача варты яго. Абодва вядуць адкрытую

вайну супроць грамадства. Першае злачынства прымушае іх штодня рабіць новыя. І ўсё ж такі яны, мабыць, не так вінаватыя, як шмат хто з тых, хто не жыве ў макі.

Сполах радасці прабег па твары Каломбы.

— Так,— гаварыў Орса.— На свой лад гэтыя няшчасныя маюць гонар. Жорсткі забабон, а не нізкая сквапнасць кідае іх у тое жыццё, якое яны вядуць.

На хвіліну запанавала ціша.

— Браце,— сказала Каломба, наліваючы яму кавы,— вы, мабыць, ведаеце, што ў мінулую ноч памёр Шарль-Батыст П'етры. Ён памёр ад балотнае ліхаманкі.

— Хто гэты П'етры?

— Адзін чалавек з нашага сяла, муж Мадлены, якая прыняла нататнік у нашага бацькі, калі ён канаў. Удава прасіла мяне пасядзець пры нябожчыку і што-небудзь паспяваць. Вам таксама варта было б прыйсці. Яны нашы суседзі, а гэта знак увагі, без якога нельга абысціся ў такіх маленькіх селішчах, як наша.

— Наліха ты туды пойдзеш, Каломба! Я зусім не хачу, каб мая сястра давала такія спектаклі.

— Орса,— сказала Каломба,— кожны ўшаноўвае памерлых на свой лад. *Ballata* прыйшла нам ад продкаў, і мы павінны шанаваць яе як старадаўні звычай. Мадлена не мае да гэтага здольнасцяў, а старая Ф'ёрдыспіна, найлепшая плакальшчыца ў нашых мясцінах, хворая. Трэба ж, каб нехта праспяваў *ballata*.

— Ты лічыш, што Шарль-Батыст не знойдзе сваёй дарогі ў іншы свет, калі над ягонаю труной не будуць спяваць благіх вершаў? Ідзі да нябожчыка, калі хочаш; я пайду з табою, калі ты лічыш, што так трэба, але не спявай, непрыстойна гэта рабіць у тваім узросце і... я прашу цябе, сястра.

— Браце, я паабяцала. Такі звычай, вы ж ведаеце, і, паўтараю, адна я магу спяваць.

— Дзіўны звычай!

— Я шмат пакутую, спяваючы. Я ўзгадваю ўсе нашыя беды. Заўтра я буду ад гэтага хворая, але так трэба. Дазвольце мне гэта, браце. Уздумайце, у Аяча вы загадалі мне імправізаваць, каб забавіць гэтую англійскую панну, што насміхаецца з нашых старых звычаяў. Ці магу я не паспяваць сёння для гэтых бедных людзей, якія будуць мне ўдзячныя і якім гэта дапаможа перажыць гора?

— Добра, рабі як хочаш. Я ўпэўнены, што ты ўжо склала сваю *ballata* і не хочаш ад яе адмовіцца.

— Не, браце, я не магла б скласці яе загадзе. Я станаўлюся каля памерлага і думаю пра тых, што засталіся. Слёзы набягаюць мне на вочы, і тады я спяваю што ўздумаецца.

Усё гэта было сказана з такою шчырасцю, што немагчыма было западозрыць Каломбу ў нейкім творчым самалюбстве. Орса скарыўся і пайшоў з сястрою ў дом П'етры. Нябожчык з адкрытым тварам ляжаў на стале ў самым вялікім пакоі ў доме. Дзверы і вокны былі адчынены, а вакол стала гарэла безліч свечак. У галавах нябожчыка стаяла ўдава, а за ёю шмат жанчын. Яны займалі ўсю гэтую частку пакоя, з другога боку стаялі мужчыны з непакрытымі галавамі, яны пільна глядзелі на нябожчыка і маўчалі. Кожны новы наведнік падыходзіў да стала, цалаваў нябожчыка, ківаў галавою ўдаве і яе сыну і моўчкі станавіўся ў кола. Тым не меней час ад часу хто-небудзь з прысутных парушаў урачыстае маўчанне, прамаўляючы некалькі словаў да памерлага.

— А нашто ж ты сваю жонку пакінуў? — казала каторая з суседак.— Хіба яна цябе не даглядала? А чаго ж табе не ставала? А чаму ж ты не пажыў яшчэ месяц? Твая нявестка ўнука б табе нарадзіла.

Высокі дзяцюк, сын П'етры, сціснуў халодную бацькаву руку і голасна сказаў:

— О! Чаму ж ты не памёр *malemort*?[1] Мы б за цябе адпомсцілі.

Гэта былі першыя словы, якія пачуў Орса, увайшоўшы. На іхні прыход людзі расступіліся, і лёгкі цікаўны шэпт выдаў узрушаную ўвагу грамады да з'яўлення *voceratrice*. Каломба пацалавала ўдаву, узяла яе за руку і, апусціўшы вочы долу, засяродзілася на некалькі хвілін. Пасля яна адкінула сваю вуаль, нахілілася да нябожчыка, пільна гледзячы на ягоны твар і, збялеўшы амаль таксама, як і ён, пачала:

— Шарль-Батыст! Хрыстос прыме няхай душу тваю! — Жыццё — гэта пакуты. Ты ідзеш у мясціны,— дзе няма ні спёкі, ані холаду.— Не патрэбны ўжо табе ні серп твой,— ані цяжкая твая матыка.— Не трэба табе больш працаваць.— Цяпер табе ўсе дні — нядзелькі.— Шарль-Батыст! Хрыстос супакоіць душу тваю! — Твой сын гаспадарыць у хаце тваёй.— Бачыла я, як упаў дуб,— ссушаны ветрам паўднёвым.— Я думала, ён памёр.— Зноў прыйшла я ту-

[1] *La mala morte* — гвалтоўная смерць.

ды,— а корань яго пусціў парастак.— Парастак вырас у дуб — густы і разгалісты.— Пад магутным голлем яго адпачні, Мадэле,— і думай пра той дуб, якога ўжо болей няма.

Тут Мадлена загаласіла, а два-тры мужчыны, што пры нагодзе стралялі б па хрысціянах таксама спакойна, як па курапатках, пачалі сціраць буйныя слёзы з засівералых шчок.

Так Каломба спявала нейкі час, звяртаючыся то да памерлага, то да ягонае сям'і, часам, як гэта часта робіцца ў *ballata*, яна гаварыла ад асобы нябожчыка, суцяшаючы яго блізкіх альбо даючы ім парады. Падчас спеву аблічча яе набывала ўзнёслы выраз, твар рабіўся празрыста-ружовым, што яшчэ больш падкрэслівала бель яе зубоў і полымя ў расшыраных зрэнках. Гэта была ўжо вяшчуння каля зніча. За выключэннем рэдкіх уздыхаў, прыглушанага плачу з натоўпу, што тлуміўся вакол яе, не даносілася нават шэпту. Менш успрыімлівы, чым хто іншы да гэтае дзікае паэзіі, Орса ўсё адно адчуваў, што агульнае ўзнясенне захапіла і яго. Зацiснуты ў змрочным кутку, ён заплакаў па П'етры, нібы па родным бацьку.

Раптам натоўп злёгку зрушыўся, кола расступілася, і ўвайшлі нейкія незнаёмыя. Мяркуючы па павазе, з якою людзі расступіліся, каб прапусціць іх, то былі людзі шаноўныя, і прыход іхні рабіў дому гонар. І ўсё адно, шануючы *ballata*, ніхто не загаварыў з імі. Чалавеку, што ўвайшоў першы, было год сорак. Чорная вопратка, чырвоная ордэнская стужачка, уладны і ўпэўнены выраз твару выдавалі ў ім прэфекта. За ім ішоў сутулы стары з жаўтушным тварам; зялёныя акуляры не маглі схаваць яго баязлівы і занепакоены погляд. Ён быў у чорным зашырокім для яго постаці адзенні; хоць адзенне гэтае было яшчэ зусім новае, можна было вызначыць, што яно шмат гадоў праляжала ў шафе. Увесь час ён трымаўся побач з прэфектам, нібы хацеў схавацца ў яго цяні. Нарэшце за ім увайшлі два дзецюкі з загарэлымі тварамі, з пышнымі бáкамі, якія хавалі шчокі, з вачыма ганарлівымі і напышнымі, што выдавалі дзёрзкую цікаўнасць да падзеяў. Орса меў досыць часу, каб забыць твары людзей са свайго мястэчка, але выгляд старога ў зялёных акулярах адразу ж абудзіў старыя ўспаміны. Ужо таго, што ён прыйшоў разам з прэфектам, дастаткова было, каб здагадацца, хто ён такі. Гэта быў адвакат Барычыні, мэр П'етранэры. Ён і яго сыны запрасілі прэфекта паслухаць *ballata*. Цяжка было вызначыць,

што адбылося ў гэты момант у Орсавай душы, але прысутнасць бацькавага ворага выклікала ў ім нейкую злосць; больш чым калі ён адчуў, што яго апаноўваюць падазрэнні, якія ён так доўга гнаў ад сябе.

Калі Каломба ўбачыла чалавека, якога яна насмерць ненавідзела, яе рухавы твар адразу ж набыў змрочны выгляд. Яна збялела, голас яе зрабіўся сіпаты, пачаты верш захлынуўся на вуснах... Але хутка яна з новым імпэтам павяла сваю *ballata:*

«Калі ястраб гаруе — ля пустога гнязда,— шпакі носяцца навокал,— насміхаючыся з ягонага гора».

Тут пачуўся прыдушаны смяшок; смяяліся два маладыя чалавекі, што нядаўна прыйшлі. Відаць, яны палічылі параўнанне за занадта дзёрзкае.

«Ястраб абудзіцца, ён выпрастае свае крылы,— абмые ў крыві сваю дзюбу! — А табе, Шарль-Батыст, няхай сябры скажуць сваё апошняе «бывай».— Досыць пралілі яны слёз.— Адно бедная сіраціна не будзе аплакваць цябе.— Навошта ёй плакаць па табе? — Ты нямала пажыў,— заснуў ты ў сваёй хаце,— гатовы паўстаць перад Усемагутным.— Сіраціна плача па сваім бацьку,— забітым у спіну подлымі забойцамі.— Па сваім бацьку, чыя кроў чырванее — пад капцом зялёнай лістоты.— Але яна сабрала яго кроў — высакародную бязвінную кроў,— і акрапіла ёю П'етранэру,— каб яна стала смяротнаю атрутай.— І П'етранэра не змые гэтае крыві,— аж пакуль кроў вінаватага — не заліе сляды крыві бязвіннага».

Даспяваўшы гэтыя словы, Каломба знясілена апусцілася на крэсла, закрыла твар вуалькаю, і людзі пачулі, што яна плача. Заплаканыя жанчыны абступілі імправізатарку, шмат хто з мужчын кідаў злыя погляды на мэра і яго сыноў, старыя наракалі на іх прыход, які выклікаў гэты скандал. Сын памерлага праціснуўся скрозь натоўп, намерваючыся прасіць мэра пакінуць дом чым хутчэй, але той не стаў чакаць запрашэння. Ён рушыў да дзвярэй, сыны былі ўжо на двары. Прэфект выказаў свае спачуванні маладому П'етры і амаль адразу ж накіраваўся за адвакатам. Орса падышоў да сястры, узяў яе пад руку і вывеў з залы.

— Праводзьце іх,— сказаў П'етры сваім сябрам.— Глядзіце, каб нічога з імі не здарылася.

Два ці тры хлопцы хутка ўклалі свае стылеты ў левыя рукавы куртак і правялі Орса з сястрою да дзвярэй іхняга дома.

## XIII

Задыханая і зняможаная Каломба не магла вымавіць ні слова. Яна нахіліла галаву брату на плячук і сціснула яго руку пальцамі. І хаця ў душы Орса сердаваў на сястру за фінал *ballata*, але ён быў занадта ўстрывожаны, каб папракаць яе. Ён моўчкі чакаў заканчэння нервовага прыступу, калі ў дзверы пастукалі, у пакой увайшла разгубленая Саверыя і абвясціла: «Пан прэфект!» Пачуўшы гэтыя словы, Каломба ўзнялася, бы засаромеўшыся сваёй слабасці, і абаперлася рукою на спінку крэсла, якое заўважна дрыжала пад яе рукою.

Прэфект вымавіў некалькі банальных фраз, просячы прабачэння за неналежны час візіту, паспачуваў панне Каломбе, пагаварыў пра небяспеку моцных хваляванняў, асудзіў звычай пахавальных галашэнняў, якія праз талент імправізатаркі робяцца больш пакутлівымі для прысутных. Тут ён спрытна падпусціў лёгкі папрок за змест апошняе імправізацыі. Потым змяніў тон:

— Пане дэла Рэбія, я павінны перадаць вам масу прывітанняў ад вашых англійскіх сяброў; міс Нэвіл шчыра вітае вашу сястру. Ад яе маю для вас ліст.

— Ліст ад міс Нэвіл? — ускрыкнуў Орса.

— На жаль, ён не пры мне, але вам прынясуць яго праз пяць хвілін. Бацька міс Нэвіл хварэў. Быў момант, калі мы баяліся, што ён не адужае нашае жахлівае ліхаманкі. На шчасце, зараз ён акрыяў, і вы самі ў гэтым пераканаецеся, бо хутка, я думаю, яго ўбачыце.

— Пэўна, міс Нэвіл вельмі перажывае?

— На шчасце, яна даведалася пра небяспеку, калі тая ўжо адступіла. Пане дэла Рэбія, міс Нэвіл багата распавядала мне пра вас і пра вашу сястру.

Орса злёгку пакланіўся.

— Яна з вялікаю прыязнасцю ставіцца да вас абодвух. Пад такою далікатнаю знешнасцю, пад вонкаваю гарэзлівасцю ў ёй хаваецца сапраўды выдатны розум.

— Цудоўная дзяўчына,— сказаў Орса.

— Я прыйшоў сюды амаль што толькі з-за яе просьбы. Ніхто лепш за мяне не ведае гэтае фатальнае гісторыі, пра якую я не хацеў бы вам нагадваць. Як пан Барычыні яшчэ мэр П'етранэры, а я — прэфект дэпартамента, то мне не трэба казаць вам, як я стаўлюся да пэўных падазрэнняў, якія, калі мяне слушна інфармавалі, вам намаўляюць некаторыя неабачлівыя асобы і якія вы, як я ведаю, адкі-

даеце з абурэннем, як і належыць чалавеку вашага стану і характару.

— Каломба,— сказаў Орса, засоўгаўшыся ў сваім крэсле,— ты стамілася, можа б, ты пайшла спаць?

Каломба адмоўна хітнула галавою. Да яе зноў вярнулася яе звычайная спакайната, і яна не адводзіла ад прэфекта палымяных вачэй.

— Пан Барычыні,— гаварыў прэфект,— вельмі хацеў бы спыніць гэтую варажнечу... ці то гэтае няпэўнае становішча, у якім вы апынуліся... З свайго боку, я быў бы рады бачыць, што вы маеце адносіны, якіх павінны трымацца людзі, створаныя, каб паважаць адно аднаго...

— Васпане,— усхвалявана перапыніў яго Орса,— я ніколі не вінаваціў адваката Барычыні ў забойстве майго бацькі, але ён зрабіў учынак, які заўжды будзе перашкаджаць мне мець з ім нейкія адносіны. Ён падрабіў пагрозлівы ліст ад аднаго бандыта... прынамсі, ён пусціў чутку, што той спрыяў майму бацьку. Урэшце, васпане, гэты ліст, напэўна, і стаўся ўскоснай прычынай бацькавай смерці.

Прэфект на хвіліну задумаўся.

— Ну няхай ваш бацька паверыў у гэта і, паддаўшыся імпэтнасці свайго характару, пачаў судзіцца з панам Барычыні, гэта можна дараваць; але з вашага боку падобная слепата недапушчальная. Падумайце, дзеля чаго Барычыні меў падрабляць гэты ліст... Я не кажу ўжо пра ягоны характар... вы яго зусім не ведаеце, вы настроены супраць яго... але не дапускаеце ж вы, што чалавек, які ведае законы...

— Але, васпане,— сказаў Орса, падымаючыся,— падумайце: сказаць, што гэты ліст не падробка Барычыні, значыць, прыпісаць яго майму бацьку. Ягоны гонар, васпане, гэта мой гонар.

— Ніхто больш за мяне не перакананы ў сумленнасці палкоўніка дэла Рэбія...— гаварыў прэфект.— Але... аўтар гэтага ліста зараз ужо вядомы.

— Хто? — ускрыкнула Каломба, падаўшыся да прэфекта.

— Адзін мярзотнік, вінны ў шматлікіх злачынствах.., у такіх, якіх вы, карсіканцы, не даруеце, злодзей, нехта Тамаза Б'янчы, што зараз сядзіць у Бастыйскім астрозе, прызнаўся, што ён аўтар гэтага згубнага ліста.

— Я не ведаю гэтага чалавека,— сказаў Орса.— З якою мэтай ён мог гэта зрабіць?

— Гэта чалавек з нашых мясцін,— сказала Каломба.—

Брат былога наша млынара. Гэта зласлівец і хлус, не варты ніякага даверу.

— Зараз убачыце,— сказаў прэфект,— які інтарэс меў ён у гэтай справе. Млынар, пра якога гаворыць ваша сястра,— ён зваўся, здаецца, Тэадор,— арандаваў у палкоўніка млын на раўчуку, валоданне якім пан Барычыні аспрэчваў у вашага бацькі. Палкоўнік, чалавек велікадушны, не меў амаль ніякае выгоды ад гэтага млына. І вось Тамаза палічыў, што, калі пан Барычыні адсудзіць раўчук, ён змусіць яго плаціць значную арэндную плату, бо ўсе ведаюць, што пан Барычыні грошы любіць. Карацей, каб падтрымаць брата, Тамаза падрабіў ліст ад бандыта, вось і ўся справа. Вы ведаеце, што родавыя сувязі на Корсіцы такія моцныя, што часам вымушаюць ісці на злачынства... Калі ласка, пазнаёмцеся з лістом, які даслаў мне генеральны пракурор, ён пацвердзіць вам тое, што я толькі што сказаў.

Орса прабег вачыма ліст, у якім дэталёва апісваліся прызнанні Тамаза, Каломба чытала з ім разам, гледзячы цераз плячук.

Прачытаўшы, яна сказала:

— Арландуча Барычыні ездзіў у Бастыю месяц таму, калі стала вядома, што мой брат маецца вярнуцца. Ён, напэўна, бачыўся з Тамаза і заплаціў яму за гэтую хлусню.

— Васпанна,— сказаў прэфект нецярпліва,— вы ўсё тлумачыце нейкімі агіднымі махлярствамі; хіба гэта сродак знайсці праўду? Вы, пане дэла Рэбія, больш разважлівы, скажыце, што вы цяпер пра гэта думаеце? Няўжо вы, як і ваша сястра, верыце, што чалавек, на якім ляжыць усяго толькі досыць нязначнае абвінавачванне, з лёгкаю душою возьме на сябе віну за злачынную падробку, каб зрабіць ласку камусьці, каго ён не ведае?

Орса перачытаў ліст генеральнага пракурора, узважваючы кожнае слова з надзвычайнаю ўвагаю; бо з таго часу, як ён убачыў адваката Барычыні, ён адчуў, што пераканаць яго стала куды цяжэй, чым некалькі дзён таму. Нарэшце ён мусіў прызнаць, што тлумачэнне здаецца задавальняючым. Але Каломба закрычала:

— Тамаза Б'янчы хлус! Яго не будуць судзіць альбо ён уцячэ з астрога, я ўпэўнена.

Прэфект паціснуў плячыма.

— Я азнаёміў вас, пане, з атрыманымі звесткамі. Я развітваюся і пакідаю вас вашым развагам. Пачакаю, пакуль розум падкажа вам выйсце, і спадзяюся, што ён будзе мацнейшы за... здагадкі вашае сястры.

Орса прамовіў колькі словаў, каб апраўдаць Каломбу, і паўтарыў, што цяпер верыць, што Тамаза адзіны вінаваты.

Прэфект падняўся.

— Каб не было так позна, я б прапанаваў вам пайсці са мною па ліст міс Нэвіл... Заадно вы б мелі магчымасць паўтарыць пану Барычыні тое, што толькі што сказалі мне, і ўсё было б скончана.

— Ніколі Орса дэла Рэбія не ўвойдзе ў дом Барычыні! — імпэтна выкрыкнула Каломба.

— Здаецца, у вашай сям'і ролю *tintinajo*[1] адыгрывае панна Каломба,— насмешліва сказаў прэфект.

— Васпане,— сказала Каломба цвёрда,— вас ашукваюць. Вы не ведаеце адваката. Гэта самы хітры, самы хлуслівы з усіх людзей. Заклінаю вас, не вымушайце Орса рабіць учынак, які пакрые яго ганьбаю.

— Каломба,— закрычаў Орса,— ты не думаеш, што гаворыш.

— Орса! Орса! Скарбонкаю, што я дала вам, малю, паслухайцеся мяне. Між вамі і Барычыні кроў, вы не пойдзеце да іх!

— Сястра!

— Не, браце, вы не пойдзеце, альбо я пакіну гэты дом, і вы мяне больш не ўбачыце... Орса, пашкадуйце мяне.

І яна ўкленчыла.

— Шкада,— сказаў прэфект,— што панна дэла Рэбія, такая неразважлівая. Я ўпэўнены, што вы яе пераканаеце.

Ён прыадчыніў дзверы і спыніўся, нібы чакаючы, што Орса пойдзе за ім.

— Я не магу пакінуць яе зараз,— сказаў Орса.— Заўтра, калі...

— Я выязджаю рана,— сказаў прэфект.

— Браце,— закрычала Каломба,— пачакайце хаця б да заўтрашняе раніцы. Дайце мне пераглядзець бацькавы паперы... Вы не можаце мне адмовіць гэтага.

— Згода, глядзі іх сёння ўвечары, пранамсі, пасля ты не будзеш мне дакучаць гэтай шалёнаю нянавісцю... Даруйце, пане прэфект... Мне так няёмка... Лепш заўтра.

— Пераначуем — больш пачуем,— сказаў прэфект, выходзячы.— Спадзяюся, што заўтра вашы ваганні скончацца.

---

[1] Так завецца баран з бомкаю, што вядзе статак, па аналогіі такую ж назву даюць члену сям'і, які кіруе ёю ва ўсіх важных справах *(аўт.)*.

— Саверыя,— паклікала Каломба.— Вазьмі ліхтар і праводзь пана прэфекта. Ён дасць табе ліст да майго брата.

Яна дадала некалькі словаў, якія пачула адно Саверыя.

— Каломба,— сказаў Орса, калі прэфект пайшоў,— ты мяне змучыла. Ты ўсё яшчэ адмаўляешся верыць відавочнаму?

— Вы мне далі час да заўтра,— сказала яна.— Часу мала, але я яшчэ спадзяюся.

Яна ўзяла нізку ключоў і пабегла наверх. Адтуль было чуваць, як яна паспешліва адмыкае шуфляды і капаецца ў секрэтэры, дзе палкоўнік дэла Рэбія замыкаў калісьці важныя паперы.

## XIV

Саверыі доўга не было, і Орсава нецярплівасць дасягнула крайняе мяжы, калі яна нарэшце з'явілася, несучы ліст і ведучы маленькую Кіліну, якая церла вочы, бо адно яна паспела заснуць, як яе пабудзілі.

— Дзіця,— спытаўся Орса,— чаго ты прыйшла сюды ў такі час?

— Мяне паклікала панна,— адказала Кіліна.

«Якога д'ябла яна ад яе хоча?» — падумаў Орса, але ён спяшаўся раскрыць ліст міс Лідзіі. Пакуль ён чытаў, Кіліна пайшла да яго сястры.

«Мой бацька трошкі хварэў,— пісала міс Лідзія.— А апроч таго, ён так лянуецца пісаць, што я мусіла быць яму за сакратарку. Таго дня, замест таго каб разам з намі любавацца краявідам, ён намачыў ногі на беразе мора, а на вашым чароўным востраве гэтага дастаткова, каб схапіць ліхаманку. Уяўляю сабе выраз вашага твару; вы, напэўна, шукаеце свой стылет, але спадзяюся, што іншага ў вас няма. Такім чынам, мой бацька быў трохі хворы, а я моцна напалоханая; прэфект, якога я лічу за вельмі мілага чалавека, я ў гэтым пераканана, выправіў да нас доктара, таксама вельмі мілага, які за два дні пазбавіў нас клопату: прыступы больш не паўтараліся, і мой бацька хоча вярнуцца да палявання, але я пакуль што забараняю.

Як вы знайшлі ваш горны замак? Паўночная вежа на сваім месцы? Ці шмат там зданяў? Я пытаюся пра ўсё гэта, бо мой бацька не забыўся, што вы абяцалі яму ланяў,

дзікоў, муфлонаў... здаецца, так завецца гэты дзіўны звер? Едучы ў Бастыю, мы разлічваем прасіць вашае гасціннасці, і я спадзяюся, што замак дэла Рэбія, які вы ўважаеце за такі стары і занядбаны, не збурыцца на нашы галовы. Хоць прэфект такі мілы, што з ім заўжды ёсць пра што пагутарыць,— *by the bye*[1], хвалюся — я закруціла яму галаву,— мы гаварылі пра вашу асобу. Праўнікі з Бастыі даслалі яму прызнанні нейкага ліхадзея, які сядзіць у тамтэйшым астрозе, змест якіх павінны разбурыць апошнія вашы падазрэнні. Ваша варажнеча, што часам непакоіла мяне, павінна цяпер скончыцца. Вы не ўяўляеце, як гэта радуе мяне. Калі вы ад'ехалі разам з гожаю *voceratrice,* са стрэльбаю ў руцэ, з такім змрочным поглядам, вы здаліся мне карсіканцам больш, як звычайна... нават занадта карсіканцам.

*Basta*![2] Я пішу пра гэта так доўга, бо мне сумна. Прэфект, на жаль, збіраецца ад'язджаць. Мы паведамім вам, калі збяромся да вас у горы, і я наважуся напісаць панне Каломбе, каб яна прыгатавала мне *bruccio, ma solenne*[3]. А пакуль перадайце ёй мае найшчырэйшыя прывітанні. Я часта карыстаюся яе стылетам: я разрэзваю ім лісты рамана, што прывезла з сабою, але жахлівая гэтая зброя абураецца на такое выкарыстанне і дзярэ маю кніжку бязлітасна. Бывайце, васпане, мой бацька дасылае вам *his best love*[4]. Паслухайцеся прэфекта, ён умее парадзіць, і ён павернe са сваёй дарогі, я думаю, дзеля вас. Ён едзе на закладку першага каменя ў Корце, уяўляю, якая пышная павінна быць гэтая цырымонія, і шкадую, што не магу там прысутнічаць. Пан прэфект у расшытым адзенні, у шаўковых панчохах, з белым поясам і кельмаю ў руцэ!.. А прамова! І ўся цырымонія скончыцца тысячу разоў паўторанымі воклічамі: «Няхай жыве кароль!»

Вы павінны былі б вельмі ганарыцца тым, што прымусілі мяне напісаць вам ажно чатыры старонкі. Але паўтараю, васпане, мне сумна; з гэтае прычыны дазваляю і вам пісаць мне доўгія лісты. Дарэчы, я лічу за неверагодны той факт, што вы мне яшчэ не паведамілі пра ваш шчаслівы прыезд у П'етранэру.

*Лідзія.*

---

[1] Між іншым *(англ.).*
[2] Досыць, хопіць! *(італ.)*
[3] Сыр, што адпавядае ўсім патрабаванням (італ.).
[4] Найшчырэйшае прывітанне *(англ.).*

P. S. Прашу вас, паслухайцеся прэфекта і зрабіце так, як ён скажа. Мы разам вырашылі, што вы павінны дзейнічаць такім чынам, і гэта ўсцешыць мяне».

Тры ці чатыры разы перачытваў Орса гэты ліст і кожны раз даваў яму ў думках безліч каментарыяў. Пасля ён напісаў доўгі адказ і выправіў Саверыю занесці яго аднаму вяскоўцу, што тае ж ночы ад'язджаў у Аяча. Ён і не думаў ужо абмяркоўваць з сястрою справядлівасць прэтэнзіяў Барычыні; пасля ліста міс Нэвіл увесь свет бачыўся яму ў ружовым колеры, не было ў яго больш ні падазрэнняў, ані нянавісці. Счакаўшы нейкі час, што сястра спусціцца, і не дачакаўшыся яе, ён пайшоў спаць з лёгкім як ніколі сэрцам. Даслаўшы Кіліну выконваць нейкія патаемныя даручэнні, Каломба прабавіла большую частку ночы, перачытваючы старыя паперы. Яшчэ не заняўся дзень, як хтосьці кінуў некалькі каменьчыкаў ёй у акно; на гэты знак яна выйшла ў сад, адчыніла патаемную брамку і ўвяла ў дом двух мужчын вельмі няпэўнага выгляду. Першым яе клопатам было завесці іх на кухню і накарміць. Што гэта былі за людзі, вы хутка даведаецеся.

## XV

Уранку, гадзіне а шостай, прэфектаў чаляднік пастукаўся ў дзверы Орсавага дома. Ён сказаў Каломбе, што прэфект збіраецца ад'язджаць і чакае яе брата. Не вагаючыся, Каломба адказала, што брат упаў на сходах і падверадзіў нагу; не могучы ступіць ні кроку, ён моліць пана прэфекта дараваць яму і быў бы надзвычай удзячны, калі б прэфект зрабіў ласку прыйсці да яго. Неўзабаве спусціўся Орса і спытаўся ў сястры, ці не дасылаў па яго прэфект.

— Ён прасіў пачакаць яго тут,— адказала яна з самым упэўненым выглядам.

Мінула паўгадзіны, а з боку дома Барычыні не відаць было аніякага руху; тым часам Орса спытаўся ў Каломбы, ці знайшла яна што-небудзь. Яна адказала, што распавядзе ўсё, калі прыйдзе прэфект. Каломба здавалася спакойнаю, але колер твару і вочы выдавалі яе ліхаманкавую ўзрушанасць.

Нарэшце дзверы ў доме Барычыні адчыніліся. Прэфект у дарожнай вопратцы выйшаў першы, за ім ішоў мэр з сынамі. Як жа здзівіліся жыхары П'етранэры, што ад узыходу

сонца пільнавалі ад'езду найвышэйшага прадстаўніка ўлады ў дэпартаменце, калі ўбачылі, што ён з трыма Барычыні напрасткі перасякае плошчу і ўваходзіць у дом дэла Рэбія.

— Яны міраццаl — закрычалі вясковыя палітыкі.

— Я ж вам казаў,— дадаў адзін стары,— Орса Антоніа занадта доўга жыў на кантыненце, каб дзейнічаць як сапраўдны мужчына.

— Але ж заўважце,— адказаў нейкі рэбіяніст,— што Барычыні першыя ідуць да яго. Яны просяць літасці.

— Гэта прэфект іх усіх акруціў,— заўважыў стары.— Цяпер ужо няма даўнейшае мужнасці. Маладыя клапоцяцца пра бацькоўскую кроў так, нібы яны ўсе байструкі.

Прэфект быў вельмі здзіўлены, убачыўшы, што Орса на нагах і спакойна ходзіць. Каломба коратка расказала пра сваю ману і папрасіла прабачэння:

— Каб вы былі дзе ў іншым месцы, пане прэфект, мой брат яшчэ ўчора прыйшоў бы засведчыць вам сваю павагу.

Орса таксама пачаў прасіць прабачэння, упэўніваючы, што ён нічога не ведаў пра гэты благі хітрык, які й яго самога глыбока абражае. Здавалася, што прэфект і стары Барычыні паверылі ў шчырасць Орса, падмацаваную, дарэчы, яго збянтэжанасцю і папрокамі, што ён кідаў сястры; але сыноў мэра гэта, відаць, не задаволіла.

— З нас насміхаюццаl — сказаў Арландуча дастаткова голасна, каб яго ўсе пачулі.

— Каб мая сястра так штукарыла са мною,— сказаў Вінчэнтэла,— я б хутка адбіў у яе ахвоту да такіх фартэляў.

Гэтыя словы і тон, якім яны былі сказаны, не спадабаліся Орса і прыглушылі яго жаданне мірыцца. Ён абмяняўся з маладымі Барычыні поглядамі, у якіх не было ні драбінкі зычлівасці.

Тым часам усе селі, за выключэннем Каломбы, якая стаяла ля дзвярэй на кухню. Прэфект пачаў прамову і, сказаўшы некалькі агульных словаў пра мясцовыя забабоны, нагадаў, што большасць выпадкаў самае зацятае варажнечы мелі прычынаю ўсяго толькі непаразуменне. Пасля, звяртаючыся да мэра, сказаў, што пан дэла Рэбія ніколі не верыў, што род Барычыні мог браць непасрэдны ўдзел у гэтым прыкрым здарэнні, у выніку якога ён страціў бацьку; што на самой справе ў яго захавалася нейкае сумненне адносна аднае акалічнасці працэсу, які вёўся паміж дзвюма сем'ямі, што гэтае сумненне можна дараваць, улічваючы доўгую адсутнасць пана Орса і характар звестак, ім атрыманых; што зараз, пераканаы апошнімі фактамі,

ён жадае завязаць сяброўскія і добрасуседскія адносіны з панам Барычыні і ягонымі сынамі.

Орса вымушана пакланіўся, пан Барычыні прамармытаў некалькі словаў, якіх ніхто не разабраў, сыны разглядалі бэлькі на столі. Прэфект меўся звярнуцца да Орса з тымі самымі словамі, якія ён толькі што сказаў Барычыні, але тут Каломба выцягнула з-пад хусткі нейкія паперы і ўрачыста стала паміж двума дагаворнымі бакамі.

— З вялікаю радасцю сустрэла б я заканчэнне вайны паміж нашымі родамі. Але, каб замірэнне было шчырае, трэба высветліць усё да канца і не пакідаць ніякага сумнення. Пане прэфект, не дзіва, што заява Тамаза Б'янчы, чалавека з такою благою славай, здалася мне падазронаю. Я сказала, што сыны пана Барычыні, мабыць, бачыліся з гэтым чалавекам у Бастыйскім астрозе.

— Няпраўда,— перапыніў Арландуча.— Я з ім не бачыўся.

Каломба кінула на яго пагардлівы позірк і сказала з вельмі спакойным выглядам:

— Вы растлумачылі, што мэтаю, з якою Тамаза мог пагражаць пану Барычыні ад імя страшнага бандыта, было жаданне пакінуць за ягоным братам Тэадорам млын, які ён танна арандаваў у майго бацькі?..

— Гэта відавочна,— адказаў прэфект.

— Ад такога мярзотніка, як гэты Б'янчы, усяго можна чакаць,— сказаў Орса, падмануты спакойным выглядам сястры.

— Падроблены ліст,— працягвала Каломба, вочы якое пачалі ззяць,— датаваны адзінаццатым ліпеня. Тамаза быў тады ў свайго брата на млыне.

— Так,— трохі занепакоіўшыся, сказаў мэр.

— Дык якую ж выгоду меў Тамаза Б'янчы? — закрычала Каломба, трыумфуючы.— Тэрмін арэнды яго брата скончыўся; бацька адмовіў яму арэнду першага ліпеня. Вось бацькавы запісы, вось дакумент аб скасаванні арэнды, ліст ад аднаго чалавека з Аяча, што прапаноўваў нам новага арандатара.

Гаворачы гэта, яна аддала прэфекту паперы, што трымала ў руках. На хвіліну запанаваў агульны подзіў. Мэр увачавідкі збялеў, Орса звёў бровы і падсунуўся да прэфекта, каб азнаёміцца з паперамі, якія той чытаў з вялікаю ўвагай.

— З нас здзекуюцца! — гнеўна закрычаў Арландуча і падняўся.— Хадземце адсюль, бацька, нам не трэба было сюды прыходзіць!

Імгнення хапіла пану Барычыні, каб авалодаць сабою. Ён папрасіў паглядзець паперы, прэфект моўчкі падаў. Ён сунуў на лоб свае зялёныя акуляры і прагледзеў запісы з досыць абыякавым выглядам; Каломба сачыла за ім вачыма тыгрыцы, якая бачыць лань, што набліжаецца да логава з яе дзецьмі.

— Але,— сказаў пан Барычыні, апускаючы акуляры і вяртаючы паперы прэфекту,— ведаючы нязмерную дабрыню пана палкоўніка... Тамаза падумаў... ён напэўна падумаў... што пан палкоўнік вырашыць пакінуць арэнду за ім... Сапраўды, ён застаўся на млыне, значыць...

— Гэта я пакінула яго,— сказала Каломба пагардліва.— Мой бацька памёр, у такім становішчы я мусіла берагчы кліентаў сям'і.

— Але,— сказаў прэфект,— гэты Тамаза прызнае, што ліст напісаў ён .., гэта зразумела.

— А мне зразумела,— умяшаўся Орса,— што ва ўсёй гэтай справе хаваецца шмат подласці.

— І яшчэ маю што запярэчыць сцвярджэнням гэтых паноў,— сказала Каломба.

Яна адчыніла дзверы на кухню, і адразу ж у залу ўвайшлі Брандалача, студэнт-тэолаг і сабака Бруска. Бандыты былі бяззбройныя, прынамсі, так здавалася; на паясах у іх віселі ладаўніцы, але не было пісталетаў, абавязковага дадатку да іх. Увайшоўшы ў залу, яны адразу скінулі шапкі.

Можна ўявіць сабе ўражанне, якое ўчыніла іхняе раптоўнае з'яўленне. Мэр ледзьве не ўплыў, сыны адважна закрылі яго сабою, сунуўшы рукі ў кішэні па стылеты. Прэфект быў рушыў да дзвярэй, а Орса схапіў Брандалача за каўнер і закрычаў:

— Што ты тут робіш, плюгавец?

— Гэта пастка! — закрычаў мэр, намагаючыся адчыніць дзверы, але Саверыя замкнула іх звонку, як пасля даведаліся, так ёй загадалі бандыты.

— Людзі добрыя! — сказаў Брандалача.— Не бойцеся мяне. Не такі я страшны, як пра мяне гавораць. І не маем мы ніякіх благіх намераў. Пане прэфект, я да вашых паслуг. Пане лейтэнант, асцеражней, вы мяне задушыце. Мы прыйшлі сюды за сведкаў. Давай, кюрэ, гавары, у цябе язык добра падвешаны.

— Пане прэфект,— сказаў тэолаг,— не маю гонару быць з вамі знаёмым. Я завуся Джаканта Кастрыконі, больш вядомы як кюрэ... Ну вось, цяпер вы мяне пазналі! Панна, якую я таксама не меў шчасця ведаць, прасіла

мяне даць ёй звесткі пра нейкага Тамаза Б'янчы, разам з якім тры тыдні таму я сядзеў у Бастыйскім астрозе. І вось што я маю вам сказаць...

— Не варта турбавацца,— сказаў прэфект.— Нічога не хачу чуць ад такога чалавека, як вы... Пане дэла Рэбія, хацелася б верыць, што вы ні пры чым у гэтай непрыстойнай змове. Але вы гаспадар у сваёй хаце ці не? Загадайце адчыніць дзверы. Трэба, мабыць, дапытаць вашу сястру пра дзіўныя сувязі, якія яна падтрымлівае з бандытамі.

— Пане прэфект,— сказала Каломба,— зрабіце ласку выслухаць, што вам скажа гэты чалавек. Вы тут, каб усталяваць справядлівасць для ўсіх, шукаць праўду — ваш абавязак. Гаварыце, Джаканта Кастрыконі.

— Не слухайце яго! — закрычалі Барычыні ўсе разам.

— Калі ўсе гавораць адначасова,— сказаў бандыт, усміхаючыся,— мы ніколі не дамовімся. У астрозе гэты Тамаза сядзеў са мною разам, але сябрам мне не быў. Да яго часта наведваўся пан Арландуча...

— Хлусня! — разам выкрыкнулі абодва браты.

— Два адмаўленні варты аднаго сцвярджэння. Тамаза меў грошы, ён еў і піў сабе ў ахвоту. Я заўжды любіў смачна паесці (гэта найменшая з маіх заганаў), і, нягледзячы на гідлівасць да кампаніі гэтага дурня, я часта паддаваўся на ягоныя ўгаворы павячэраць з ім. З удзячнасці я прапанаваў яму ўцякаць са мною разам. Адна ягадка... да якой я быў вельмі добры... дала мне патрэбныя сродкі. Але нікога не хачу кампраметаваць. Тамаза адмовіўся, сказаў, што ўпэўнены ў сваёй справе, што адвакат Барычыні прасіў за яго ўсіх суддзяў і што ён выйдзе з суда чысты, як снег, і з грашыма ў кішэні. Што да мяне, то я лічыў, што павінен ляцець на волю. Dixi.

— Усё, што сказаў гэты чалавек,— хлусня,— рашуча паўтарыў Арландуча.— Каб мы былі ў чыстым полі, кожны са стрэльбаю, ён бы казаў іншае.

— Што за глупства! — сказаў Брандалача.— Не заводзьцеся з кюрэ, Арландуча.

— Ці выпусціце вы мяне нарэшце, пане дэла Рэбія? — сказаў прэфект, нецярпліва тупаючы нагою.

— Саверыя! Саверыя! — крыкнуў Орса.— Адамкніце дзверы, каб вас ліха!

— Хвілінку,— сказаў Брандалача.— Спачатку выйдзем мы. Пане прэфект, звычайна падчас сустрэчы ў агульных сяброў кожны мае свае паўгадзіны міру пасля развітання.

Прэфект кінуў на яго пагардлівы позірк.

— Рады паслужыць усёй грамадзе,— сказаў Брандалача, пасля выцягнуў руку і дадаў: — Давай, Бруска, скокні дзеля пана прэфекта.

Сабака скокнуў, бандыты паспешліва схапілі на кухні зброю і выскачылі праз сад. Данёсся рэзкі свіст, і дзверы ў залу адчыніліся, бы зачараваныя.

— Пане Барычыні,— сказаў Орса, стрымліваючы шаленства,— сёння ж я дашлю каралеўскаму пракурору скаргу на вас за махлярства і за супольніцтва з Б'янчы. Можа, я буду вымушаны абвінаваціць вас і ў нечым страшнейшым.

— А я, пане дэла Рэбія,— адказаў мэр,— дашлю на вас скаргу за засаду і супольніцтва з бандытамі. А тым часам пан прэфект загадае жандарам арыштаваць вас.

— Прэфект выканае свой абавязак,— сказаў прэфект сурова.— Ён прасочыць, каб у П'етранэры быў парадак, ён паклапоціцца, каб тут панаваў закон. Я кажу да ўсіх, панове.

Мэр і Вінчэнтэла ўжо выйшлі з залы, Арландуча адступаў за імі. Орса ціха сказаў яму:

— Ваш бацька стары, я забіў бы яго адзінаю поўхаю, дык прыміце ж яе вы, вы і ваш брат.

Замест адказу Арландуча выхапіў стылет і, нібы вар'ят, кінуўся на Орса. Але не паспеў ён замахнуцца, як Каломба ўхапіла ягоную руку і з сілаю выкруціла яе; Орса так стукнуў яму ў твар, што Арландуча адляцеў на некалькі крокаў і моцна выцяўся аб вушак. Стылет выпаў у яго з рук, але Вінчэнтэла выхапіў свой і скочыў у пакой. Тут Каломба схапіла стрэльбу і тым пераканала яго, што бойка будзе няроўная. Адначасова прэфект стаў паміж супраціўнікамі.

— Да хуткай сустрэчы, Орс Антон,— крыкнуў Арландуча, моцна ляснуў дзвярыма і замкнуў іх на ключ, каб мець час на ўцёкі.

Чвэрць гадзіны Орса і прэфект моўчкі сядзелі ў розных кутах залы. Каломба, твар якое свяціўся гонарам, паглядала то на аднаго, то на другога, абапершыся на стрэльбу, што забяспечыла перамогу.

— Што за краіна! Што за краіна! — нарэшце сказаў прэфект, імкліва падымаючыся.— Пане дэла Рэбія, вы не мелі рацыі. Дайце мне слова гонару, што ўстрымаецеся ад усялякага гвалту і будзеце чакаць, пакуль суд не вырашыць гэтую клятую справу.

— Так, пане прэфект, я вінаваты, што стукнуў гэтага мярзотніка. Але я такі стукнуў яго і не магу адмовіць яму ў сатысфакцыі, якую ён запатрабаваў.

— О не! Ён не захоча біцца з вамі!.. Але, калі ён заб'е вас... Што ж, вы зрабілі дзеля гэтага ўсё, што было трэба.

— Мы будзем сцерагчыся,— сказала Каломба.

— Арландуча здаецца мне адважным хлопцам,— сказаў Орса.— І я думаю пра яго лепш, пане прэфект. Ён безразважна схапіўся за стылет, але на ягоным месцы я, можа, зрабіў бы гэтаксама. І я рады, што рука ў маёй сястры мае не жаночую сілу.

— Вы не будзеце біцца! — закрычаў прэфект.— Я забараняю вам!

— Дазвольце сказаць вам, васпане, што ў справах гонару я не прызнаю іншага аўтарытэту, апроч свайго сумлення.

— Кажу вам, што вы не будзеце біцца!

— Вы можаце арыштаваць мяне, васпане... калі я дамся. Але калі так здарыцца, то вы адно адпозніце справу, што зараз ужо непазбежная. Вы чалавек гонару, пане прэфект, і вы добра ведаеце, што інакш быць не можа.

— Калі вы арыштуеце брата,— дадала Каломба,— палова сяла стане на ягоны бок і будзе ладная страляніна.

— Папярэджваю вас, пане прэфект,— сказаў Орса.— І прашу вас не лічыць, што я выхваляюся. Папярэджваю вас, што, калі Барычыні пачне злоўжываць сваёй уладаю мэра, каб арыштаваць мяне, я буду абараняцца.

— З сённяшняга дня,— сказаў прэфект,— я вызваляю яго ад абавязкаў мэра... Ён апраўдаецца, я спадзяюся... Дык вось, васпане, я спачуваю вам. І патрабую ад вас зусім мала: спакойна сядзіце дома, пакуль я не вярнуся з Корты. Я прабуду там усяго тры дні. Я вярнуся з каралеўскім пракурорам, і мы разблытаем да канца гэтую сумную справу. Ці абяцаеце вы да таго часу ўстрымацца ад усялякіх учынкаў?

— Я не магу абяцаць гэтага, васпане; Арландуча, я думаю, запатрабуе дуэлі.

— Як! Пане дэла Рэбія, вы, французскі вайсковец, хочаце біцца на дуэлі з чалавекам, якога падазраеце ў махлярстве?

— Я ўдарыў яго, васпане.

— Але калі б вы ўдарылі галерніка, а ён выклікаў вас на дуэль, вы б сталі біцца з ім? Хіба так, пане Орса? Добра, я патрабую яшчэ менш: не шукайце сустрэчы з Арландуча... Я дазваляю вам біцца, калі ён запатрабуе дуэлі.

— Ён запатрабуе яе, я не сумняваюся, але абяцаю вам, што не буду больш даваць яму поўхаў, каб выклікаць на бойку.

— Што за краіна! — паўтараў прэфект, шырокімі крокамі мераючы залу.— І калі ж гэта я вярнуся ў Францыю?

— Пане прэфект,— сказала Каломба найпяшчотнейшым голасам,— ужо позна, зрабіце ласку — паснедайце з намі.

Прэфект не ўтрымаўся ад смеху.

— Я й так ужо задоўга баўлюся ў вас, гэта ўжо нагадвае небесстароннасць... І гэты кляты першы камень... Я мушу ісці... Панна дэла Рэбія... колькі бедаў вы, можа, выклікалі сягоння!

— Прынамсі, пане прэфект, вы павінны прызнаць, што яе доказы дастаткова глыбокія, і зараз я ўпэўнены ў гэтым, вы й самі лічыце, што яны добра абгрунтаваныя.

— Бывайце, васпане,— сказаў прэфект, робячы развітальны жэст.— Папярэджваю вас, што загадаю начальніку жандармерыі сачыць за кожным вашым крокам.

Калі прэфект выйшаў, Каломба сказала:

— Орса, тут вам не кантынент. Арландуча нічога не цяміць у вашых дуэлях, дарэчы, гэты мярзотнік і не павінны памерці смерцю сапраўднага мужчыны.

— Каломба, мілая, ты моцная жанчына. Я шмат абавязаны табе за ўратаванне ад добрага ўдару нажом. Дай пацалую тваю ручку. Але ведаеш, не ўмешвайся. Ёсць рэчы, якіх ты не разумееш. Дай мне паснедаць і адразу ж па ад'ездзе прэфекта дашлі мне малую Кіліну, здаецца, яна цудоўна спраўляецца з даручэннямі. Мне трэба будзе, каб яна занесла ліст.

Пакуль Каломба сачыла за гатоўкаю снедання, Орса падняўся ў свой пакой і напісаў наступную цыдулку:

«Вы, мабыць, спяшаецеся сустрэцца са мною, я хачу гэтага не менш. Заўтра ўранку мы зможам сустрэцца а шостай гадзіне ў даліне Аквавіва. Я трапна страляю з пісталета і не прапаную вам гэтае зброі. Кажуць, вы добра б'яце са стрэльбы: возьмем дубальтоўкі. Я прыйду з кім-небудзь з нашага сяла. Калі ваш брат захоча пайсці з вамі, вазьміце другога сведку і папярэдзьце мяне. Адно ў такім выпадку я вазьму двух сведкаў.

*Орса Антоніа дэла Рэбія».*

Прэфект прасядзеў гадзіну з намеснікам мэра, завітаў на некалькі хвілін да Барычыні і потым з адным толькі жандарам паехаў у Корту. Праз чвэрць гадзіны Кіліна панесла ліст, які мы толькі што прачыталі, і аддала яго Арландуча ў рукі.

Адказу доўга не было, Орса атрымаў яго адно ўвечары. Ён быў падпісаны Барычыні-бацькам, ён пісаў, што перадасць каралеўскаму пракурору гэты ліст з пагрозамі ягонаму сыну Арландуча. «З чыстым сумленнем,— дадаваў ён на заканчэнне,— я чакаю, што скажа закон наконт вашых абмоваў».

Тым часам пяць ці шэсць пастухоў, якіх паклікала Каломба, прыйшлі вартаваць вежу дэла Рэбія. Нягледзячы на Орсавы пратэсты, у вокнах, што выходзілі на плошчу, зрабілі *archere*, а сам Орса ўвесь вечар прымаў жыхароў мястэчка, што прапаноўвалі свае паслугі. Прынеслі нават ліст ад бандыта-тэолага, у якім ён ад свайго імя і ад імя Брандалача абяцаў прыйсці на дапамогу, калі мэр выкліча жандараў. Ліст заканчваўся такім пастскрыптумам: «Ці не магу я даведацца ад вас, што думае пан прэфект пра цудоўную адукацыю, якую мой сябра дае сабаку Бруску? Апроч Кіліны, я не ведаю больш здольных і кемлівых вучняў».

## XVI

Наступны дзень прайшоў спакойна. Абодва бакі трымалі абарону. Орса не выходзіў з дому, дзверы ў дом Барычыні ўвесь час былі зачыненыя. Пяць жандараў, якіх пакінулі гарнізонам у П'етранэры, прагульваліся па плошчы альбо паблізу сяла, з імі разам быў сельскі паліцыянт, адзіны прадстаўнік мясцовае ўлады. Намеснік мэра не здымаў трохколернае перавязі. Толькі *archere* ў вокнах варожых дамоў нагадвалі пра вайну. Адно карсіканец звярнуў бы ўвагу, што на плошчы вакол зялёнага дуба былі толькі жанчыны.

Падчас позняе вячэры ўзрадаваная Каломба падала брату наступны ліст, які яна толькі што атрымала ад міс Нэвіл:

«Мілая панна Каломба, з ліста ад вашага брата я з вялікаю радасцю даведалася, што ваша варажнеча скончылася. Прыміце мае віншаванні. Пасля ад'езду вашага брата мой бацька не можа болей выносіць Аяча: яму няма з кім гутарыць пра вайну і хадзіць на паляванне. Мы выязджаем сёння і заначуем у вашае сваячкі, да якой маем ліст. Пaслязаўтра, гадзіне а адзінаццатай, я прыеду пакаштаваць вашага горскага *bruccio*, што, як вы кажаце, куды смачнейшы за гарадскі.

Да пабачэння, мілая Каломба.

Ваша сяброўка

*Лідзія Нэвіл*».

— Дык яна не атрымала другога майго ліста? — занепакоіўся Орса.

— Мяркуючы па даце, панна Лідзія была ўжо ў дарозе, калі ваш ліст прыйшоў у Аяча. А вы ёй пісалі, каб не ехала?

— Я пісаў, што мы ў аблозе. Мне здаецца, гэта не тое становішча, калі добра прымаць гасцей.

— Ха, гэтыя англічане такія незвычайныя. У апошнюю ноч, якую я правяла ў пакоі міс Лідзіі, яна мне казала, што была б страшэнна расчараваная, калі б пакінула Корсіку, не пабачыўшы добрае вендэты. Калі б вы захацелі, Орса, мы б маглі ім паказаць відовішча прыступу на дом нашых ворагаў.

— Ведаеш, Каломба,— сказаў Орса,— прырода памылілася, стварыўшы цябе жанчынаю. З цябе б выйшаў выдатны вайсковец.

— Можа быць. Ва ўсялякім разе я пайду рабіць *bruccio.*

— Не варта. Трэба даслаць некага, каб папярэдзіў і затрымаў іх, пакуль яны не выправяцца ў дарогу.

— Так? Вы хочаце выправіць чалавека такім дажджом, каб недзе струмень знёс яго разам з вашым лістом? Як шкада мне бедных бандытаў у такую навальніцу! На шчасце, яны маюць добрыя *piloni*[1]. Ведаеце, Орса, што трэба рабіць? Калі навальніца сціхне, выязджайце заўтра на досвітку, каб паспець да нашае сваячкі раней, чым яны выедуць. Вам гэта будзе няцяжка, міс Лідзія заўжды падымаецца позна. Вы раскажаце ім, што ў нас адбылося, а калі яны захочуць прыехаць,—сустрэнем іх з радасцю.

Орса паспяшаўся згадзіцца з сястрою, а Каломба, трохі пачакаўшы, дадала:

— Можа быць, вы думаеце, Орса, што я жартавала, гаворачы вам пра прыступ на дом Барычыні? Ці ведаеце вы, што сіла на нашым баку, нашых людзей, прынамсі, двох на аднаго іхняга? З таго часу, як прэфект вызваліў мэра ад абавязкаў, усе тутэйшыя мужчыны за нас. Мы б маглі іх размалаціць. Зачапіць іх было б вельмі лёгка. Калі б вы захацелі, я б пайшла да фантана, пачала б насміхацца з іхніх жанчын, яны б выйшлі... Можа быць... яны ж такія мярзотнікі... яны б сталі страляць па мне з *archere;* яны б не пацэлілі. Тады б усё было зразумела: напалі яны. Тым горш пераможаным: хіба ў бойцы разбярэш, чый стрэл трапнейшы? Паверце сястры, Орса; прыедуць гэтыя

---

[1] Бурка з тоўстага сукна з капюшонам *(аўт.).*

чорныя сурдуты, перапэцкаюць гару паперы, нагавораць безліч пустых словаў. З гэтага нічога не атрымаецца. Гэты стары ліс здолее давесці ім, што чорнае — гэта белае. От каб прэфект не закрыў сабою Вінчэнтэла, зараз было б на аднаго меней.

Усё гэта было сказана з такім самым спакоем, з якім хвіліну таму Каломба гаварыла пра гатаванне сыру.

Ашаломлены Орса глядзеў на сястру са здзіўленнем, да якога дамешваўся страх.

— Мая далікатная Каломба,— сказаў ён, падымаючыся з-за стала,—ды ты, я баюся, сам д'ябал. Але будзь спакойная: калі я не дамагуся, каб Барычыні павесілі, я знайду сродак дасягнуць свайго іншым шляхам. Гарачая куля ці халодная сталь! Бачыш, я яшчэ не забыў карсіканскую мову.

— Чым хутчэй, тым лепей,— сказала Каломба, уздыхаючы.— На якім кані паедзеце вы заўтра, Орс Антон?

— На вараным. А чаму ты пытаешся?

— Каб даць яму ячменю.

Калі Орса пайшоў у свой пакой, Каломба выправіла спаць Кіліну і пастухоў, а сама засталася на кухні, дзе гатаваўся *bruccio.* Раз-пораз яна прыслухоўвалася, нібы чакала, пакуль брат ляжа. Палічыўшы, што ён нарэшце заснуў, яна ўзяла нож, праверыла, ці ён востры, нацягнула на свае маленькія ножкі цяжкія чаравікі і без шуму выйшла ў сад.

Агароджаны сцяною сад даходзіў да досыць вялікага загона, куды ставілі коней, бо карсіканскія коні непрывычныя да стайні. Звычайна іх выганяюць на пашу, спадзеючыся, што яны самі здолеюць знайсці сабе ежу і схавішча ад холаду і дажджу.

Таксама ціхутка Каломба адчыніла брамку з саду і ўвайшла ў загон: коні, якім яна часта прыносіла хлеб і соль, сышліся да яе, адно пачуўшы ціхі свіст. Калі вараны наблізіўся да яе, яна моцна ўхапіла яго за грыву і разанула нажом па вуху. Конь імкліва рвануўся, пабег, пранізліва загігатаў, як часам гігочуць коні ад рэзкага болю. Задаволеная Каломба ўжо выйшла ў сад, калі Орса адчыніў акно і крыкнуў:

— Хто там ёсць?

І яна пачула, што ён набівае стрэльбу. На яе шчасце, брамка ў сад хавалася ў суцэльнай цемры, а часткова яе захіляла фігавае дрэва. Хутка ў Орсавым пакоі замігацела святло, і Каломба зразумела, што ён хоча запаліць газніцу. Яна паспешліва зачыніла брамку і праслізнула ўздоўж

сцяны, чорны ўбор яе быў незаўважны ў змрочнай лістоце прысадаў. Яна заскочыла ў кухню за некалькі хвілін да таго, як з'явіўся Орса.

— Што здарылася? — спыталася яна.

— Мне здалося, што нехта адчыняў брамку ў сад,— сказаў Орса.

— Немагчыма, сабака б забрахаў. Зрэшты, хадзем паглядзім.

Орса абышоў сад, пераканаўся, што брамка добра замкнутая, і, трохі засаромеўшыся гэтае дарэмнае трывогі, вырашыў вярнуцца ў свой пакой.

— Я рада, браце,— сказала Каломба,— што вы робіцеся асцярожны, як то й належыць у вашым становішчы.

— З тваёю дапамогай,— адказаў Орса.— Дабранач.

Назаўтра Орса падняўся на досвітку, гатовы ехаць. У ягоным уборы спалучаліся элегантнасць мужчыны, што збіраецца з'явіцца перад жанчынаю, якой ён хоча спадабацца, і абачлівасць карсіканца, што сцеражэцца помсты. Паўзверх пріталенага сіняга сурдута ён павесіў на плячук бляшаную скрыначку з набоямі на зялёным шаўковым паску, стылет ён паклаў у бакавую кішэню, а ў руку ўзяў добрую мэнтанаўскую стрэльбу, набітую кулямі. Пакуль ён паспешліва піў каву, што наліла Каломба, адзін пастух пайшоў сядлаць каня. Орса з сястрою выйшлі амаль адразу ж за ім і ўвайшлі ў загон. Пастух злавіў каня, але ўпусціў сядло і аброць, здавалася, яго апанаваў жах; конь, які яшчэ не забыўся пра падзеі мінулае ночы і баяўся за другое вуха, уставаў на дыбкі, брыкаўся, гігатаў, выробляў немаведама што.

— Давай хутчэй! — закрычаў яму Орса.

— Авой, Орс Антон! Авой, Орс Антон! — крычаў пастух.— На пакуты Прачыстае! і г. д.

Праклёны сыпаліся без ліку і супыну, большасць з іх не паддаліся б ніякаму перакладу.

— Што там здарылася? — спыталася Каломба.

Усе падышлі да каня і, убачыўшы яго скрываўленага, з разрэзаным вухам, дружна ўскрыкнулі ад подзіву і абурэння. Трэба ведаць, што скалечыць варожага каня,— для карсіканца ёсць адначасова і помста, і выклік, і смяротная пагроза. «Толькі куляю можна заплаціць за падобнае злачынства». Хоць Орса, які доўга пражыў на кантыненце, менш за каго іншага адчуваў глыбіню абразы, усё адно, каб зараз з'явіўся хтосьці з барычыністаў, ён напэўна тут жа прымусіў бы яго заплаціць за абразу, што, як ён лічыў, нанеслі яму ворагі.

— Трусы паганыя! — закрычаў ён.— Помсцяцца на няшчаснай жывёліне і не наважваюцца выйсці са мною сам-насам!

— Чаго мы чакаем! — шалёна закрычала Каломба.— Яны правакуюць нас, калечаць нашых коней, а мы маўчым! Ці мужчыны вы?

— Помста! — закрычалі пастухі.— Правядзём каня па ўсім сяле і нападзём на іхні дом.

— Да іхняе вежы падыходзіць гумно, крытае саломаю,— сказаў стары Пола Грыфа.— Я запалю яго адным махам.

Хтосьці прапанаваў пайсці па драбіны з царкоўнае званіцы, нехта яшчэ — выбіць дзверы ў доме Барычыні, скарыстаўшы бервяно, што ляжала на плошчы і прызначалася некаму на будаўніцтва. Сярод гэтых загневаных галасоў чуўся голас Каломбы, якая абяцала сваім прыхільнікам па чарцы анісавае гарэлкі перад тым, як брацца за справу.

На жаль ці, хутчэй, на шчасце, яе жорсткасць да беднага каня не зрабіла на Орса чаканага эфекту. Ён не сумняваўся, што гэтае дзікае калецтва было справаю кагосьці з ягоных ворагаў, асабліва ён падазраваў Арландуча, але ён не верыў, што гэты дзяцюк, якога ён ударыў і выклікаў на дуэль, вырашыў бы змыць ганьбу, разрэзаўшы вуха нейкаму каню. Наадварот, гэтая нізкая і смеху вартая помста павялічыла Орсаву пагарду да ворагаў, і зараз ён быў згодны з прэфектам: падобныя людзі не роўня яму. Як толькі ён здолеў перакрычаць натоўп, ён абвясціў сваім збянтэжаным прыхільнікам, што яны павінны адмовіцца ад ваяўнічых намераў і што судоўцы, якія маюцца прыехаць, адпомсцяць належным чынам за разрэзанае вуха ягонага каня.

— Я тут гаспадар,— дадаў ён сурова.— І я патрабую, каб мяне слухаліся. Першага ж, хто наважыцца гаварыць пра забойства ці падпал, я спалю самога. Ану, асядлайце мне сівога каня!

— Як, Орса,— сказала Каломба, адвёўшы яго ўбок,— вы будзеце цярпець такія абразы! Пакуль наш бацька быў жывы, Барычыні ніколі не наважваліся калечыць нашу жывёлу.

— Абяцаю табе, што яны яшчэ пакаюцца. Караць мярзотнікаў, адвагі якіх хапае адно на жывёлу — справа жандараў і астрожнікаў. Я сказаў табе, судоўцы пакараюць іх... а не... то табе не трэба будзе нагадваць, чый я сын...

— Трэба цярпець,— сказала Каломба, уздыхаючы.

— Запомні добра, сястра,— працягваў Орса,— калі я вярнуся і ўбачу, што вы ўчынілі нешта супроць Барычыні, я ніколі табе гэтага не дарую.

Пасля трошкі мякчэй дадаў:

— Вельмі магчыма, нават цалкам верагодна, што я вярнуся з палкоўнікам і ягонаю дачкой; дагледзь, каб пакоі іхнія былі ў парадку, каб вячэра была добрая, ну і каб гасцям нашым было як мага лепей. Канечне, Каломба, добра быць адважнаю, але жанчына павінна яшчэ ўмець трымаць гаспадарку ў парадку. Ну, пацалуй мяне і будзь разумніца; вось, каня ўжо асядлалі.

— Орса,— сказала Каломба,— вы не паедзеце адзін.

— Мне ніхто не патрэбны,— сказаў Орса.— Можаш быць упэўнена, я не дазволю, каб мне рэзалі вушы.

— О, я ніколі не дазволю вам ехаць аднаму падчас вайны! Гэй, Пола Грыфа! Джан Франча! Мэма! Вазьміце стрэльбы, вы паедзеце з маім братам!

Пасля досыць гарачае спрэчкі Орса згадзіўся ехаць з эскортам. Ён выбраў самых зацятых пастухоў, тых, што мацней за ўсіх крычалі за вайну. Потым, паўтарыўшы загады сястры і астатнім пастухам, выправіўся ў дарогу, павярнуўшы гэтым разам у завулак, каб аб'ехаць дом Барычыні.

Яны ехалі хутка і былі ўжо далёка ад П'етранэры, калі, пераязджаючы ручаінку, што гублялася дзесьці ў балоце, стары Пола Грыфа заўважыў цэлы статак свіней, якія зручна ўлегліся ў гразі, цешачыся адначасова сонцам і прахалодаю вады. Адразу ж агледзеўшы найбольшую, стары стрэліў ёй у галаву і забіў на месцы. Сяброўкі забітае надзіва спрытна паўскоквалі і ўцяклі; хоць яшчэ адзін пастух страляў па іх, яны незайманыя дабеглі да гушчару і зніклі ў ім.

— Ёлупы! — закрычаў Орса.— Вы зблыталі свойскіх свінняў з дзікамі!

— Якраз не, Орс Антон,— адказаў Пола Грыфа.— Гэта адвакатавы свінні, мы яго адвучым калечыць нашых коней.

— Як, лайдакі! — закрычаў Орса, апанаваны гневам.— Вы чыніце такое самае мярзоцце, як і нашы ворагі! Прэч ад мяне, нягоднікі! Вы мне не патрэбныя. Вы здатныя адно на бойкі са свіннямі. Богам клянуся, калі вы за мною рушыце,— галовы паразбіваю!

Пастухі збянтэжана пераглянуліся. Орса тыкнуў каня астрогамі і паімчаўся галопам.

— Ну вось табе! — сказаў Пола Грыфа.— Як ты будзеш любіць людзей, калі яны так з табою абыходзяцца. Палкоўнік, ягоны бацька, загневаўся на цябе, бо ты ўзняў стрэльбу на адваката... От і дурны, трэба было страляць!.. А сынок... Сам бачыш, што я зрабіў дзеля яго... А ён кажа, што разаб'е мне галаву, бы нейкі збан, у якім няма болей віна. Вось, Мэма, чаму навучаюцца на кантыненце!

— Так, а калі даведаюцца, што ты забіў свінню, цябе будуць судзіць, а Орс Антон не захоча закінуць за цябе слоўца перад суддзямі, ані наняць адваката. На шчасце, цябе зусім ніхто не бачыў, і ратуе цябе няхай святая Нэга!

Пасля кароткага абмеркавання пастухі вырашылі, што самае разумнае будзе скінуць свінню ў яму. Гэта яны і зрабілі, спачатку, зразумела, выразаўшы сабе па кавалку мяса з гэтае бязвіннае ахвяры ўзаемнае нянавісці родаў дэла Рэбія і Барычыні.

## XVII

Вызваліўшыся ад свайго недысцыплінаванага эскорту, Орса рушыў далей, больш думаючы пра радасць спаткання з міс Нэвіл, чым пра небяспеку сустрэчы з ворагамі. «Працэс, што пачнецца з гэтымі мярзотнікамі Барычыні,— думаў ён,— прымусіць мяне паехаць у Бастыю. Чаму б мне не паехаць туды з міс Нэвіл? І чаму б адтуль не паехаць разам на воды ў Арэца?» І раптам дзяцінныя ўспаміны выразна нагадалі яму гэтую маляўнічую мясціну. У думках ён перанёсся на зялёную лугавіну пад шаты старадаўніх каштанаў. На кіліме роснага мурагу, усеянага блакітнымі кветкамі, што нагадвалі вочы, якія яму ўсміхаліся, ён бачыў побач з сабою міс Лідзію. Яна скінула капялюшык, і яе бялявыя валасы, танчэйшыя і мякчэйшыя за шоўк, золатам ззялі ў промнях сонца, што прабіваліся скрозь лістоту. Вочы яе, такія чыста-блакітныя, здаваліся яму сінейшымі за нябёсы. Паклаўшы шчаку на далонь, яна задуменна слухала словы кахання, якія ён шаптаў ёй дрыготкім голасам. На ёй была муслінавая сукня, у якой ён бачыў яе ў апошні дзень у Аяча. Пад складкамі сукні хавалася маленькая ножка ў чорным атласным чаравічку. Орса казаў сабе, што быў бы шчаслівы, каб мог пацалаваць гэтую ножку; на адной руцэ міс Лідзіі не было пальчаткі, яна трымала рамонак. Орса ўзяў кветку, а рука міс Нэвіл сціснула ягоную; і ён цалаваў рамонак, а потым ручку, і на яго не засердзіліся... Гэтыя думкі пера-

шкаджалі яму сачыць за дарогаю, але ўсё адно ён увесь час ехаў бегам. У думках ён ужо другі раз меўся пацалаваць ручку міс Лідзіі, калі ўяве ён ледзьве не пацалаваў грыву свайго каня, які раптоўна спыніўся. Малая Кіліна заступіла яму дарогу і схапіла каня за аброць.

— Куды вы так ляціце, Орс Антон? — спыталася яна.— Хіба вы не ведаеце, што вораг блізка?

— Вораг!— закрычаў Орса, узлаваны, што яго перапынілі на такім цікавым моманце.— Дзе ён?

— Арландуча тут побач. Ён чакае вас. Вяртайцеся, вяртайцеся!

— А, дык ён чакае мяне! Ты яго бачыла?

— Так, Орс Антон. Я ляжала ў папараці, калі ён праехаў. Ён глядзеў ва ўсе бакі ў сваю падзорную трубу.

— З якога боку ён ехаў?

— Ён спусціўся вунь там, адтуль, куды вы едзеце.

— Дзякуй табе.

— Орс Антон, ці не лепей вам пачакаць майго дзядзьку? Ён не забавіцца, з ім вам будзе бяспечна.

— Не бойся, Кілі, я ўпраўлюся без твайго дзядзькі.

— Калі хочаце, я пабягу ўперад вас.

— Дзякуй, дзякуй.

І Орса хутка пагнаў каня, накіроўваючыся ў той бок, куды паказала дзяўчынка.

Спачатку сляпое шаленства апанавала яго, і ён падумаў, што лёс дае яму цудоўную магчымасць пакараць мярзотніка, што калечыць каня, помсцячыся за поўху. Але дарогаю абяцанне, што ён даў прэфекту, і асабліва боязь размінуцца з міс Нэвіл, змянілі ягоныя намеры і прымусілі амаль жадаць, каб сустрэча з Арландуча не адбылася. Неўзабаве ўспаміны пра бацьку, калецтва, учыненае каню, пагрозы Барычыні распалілі ягоны гнеў і натхнілі знайсці ворага, дадзець яго і прымусіць біцца. Так, усхваляваны супярэчлівымі імкненнямі, ён ехаў наперад, але цяпер ужо з перасцярогаю, аглядаючы хмызы і прысады, а часам нават спыняючыся, каб услухацца ў невыразны шум, што даносіўся з усіх бакоў. Праз дзесяць хвілін пасля сустрэчы з малою Кілінай (было ўжо гадзін дзевяць раніцы) ён апынуўся перад вельмі стромым пагоркам. Дарога ці, хутчэй, ледзь вызначаная сцяжынка, якою ён ехаў, цягнулася праз нядаўна спаленыя макі. У гэтым месцы зямля была прысыпана сіваватым попелам, а сям-там усё яшчэ ўзносіліся ўгору дрэўцы і нават вялікія дрэвы, ужо нежывыя, счарнелыя ад полымя, зусім голыя. Калі бачыш спаленыя макі, здаецца, што пераносішся

кудысьці на поўнач, у сярэдзіну зімы, а кантраст паміж ссохлымі мясцінамі, па якіх прайшлося полымя, і буянаю зялянінаю наваколля робіць іх яшчэ больш сумотнымі і пустэльнымі. Але ва ўсім гэтым краявідзе Орса на той час зважаў на адзіную рэч, што праўда, важную ў ягоным становішчы: выгаленая зямля не дазваляла зладзіць засаду, а той, хто кожную хвіліну чакае, што з гушчару высунецца стрэльба, накіраваная яму ў грудзі, як аазіса ў пустыні, прагне голае зямлі, дзе нічога не схаваецца з вачэй. За выпаленымі макі ляжалі ўзараныя палеткі, абгароджаныя паводле мясцовага звычаю каменнымі сценкамі вышынёю да грудзей чалавеку. Сцяжынка вілася паміж гэтых мураванак; вялізныя каштаны, што раслі без аніякага парадку, здалёк нагадвалі густы лес.

З-за круцізны схілу Орса мусіў злезці з каня і кінуць павады; ён спускаўся пеша, часам слізгаючы на попеле. Яму ўжо заставалася крокаў дваццаць пяць да каменнай агароджы справа ад сцежкі, калі проста перад сабою ён заўважыў спачатку рулю стрэльбы, а пасля чыюсьці галаву, што высунулася з-за грэбеня сцяны. Стрэльба апусцілася, і ён пазнаў Арландуча, гатовага страляць. Орса падрыхтаваўся да абароны імгненна. Абодва яны зладзіліся і некалькі хвілін пазіралі адзін на аднаго, ахопленыя тым вострым пачуццём, што адчувае і самы адважны ў хвіліну, калі ён павінны забіць ці прыняць смерць.

— Гнюсны мярзотнік!— закрычаў Орса.

Не паспеў ён скончыць, як убачыў полымя са стрэльбы Арландуча, і амаль у тую самую хвіліну злева, з другога боку сцежкі, данёсся другі стрэл. Страляў чалавек, якога Орса не бачыў, які хаваўся за іншаю сценкаю. Абедзве кулі паранілі яго: Арландучава прабіла яму левую руку, якую ён выставіў, падняўшы стрэльбу, другая трапіла яму ў грудзі, прабіла вопратку, але, на шчасце, натыкнулася на лязо стылета, зрыкашэціла і адно лёгка кантузіла яго. Орсава левая рука зняможна павісла ўздоўж цела, стрэльба на момант апусцілася, але ён адразу ж узняў яе і, трымаючы адною рукой, стрэліў па Арландуча. Галава ворага, што высунулася з-за сцяны напалову, адразу ж знікла. Орса павярнуўся налева і стрэліў другі раз па чалавеку, якога з-за дыму было ледзьве відаць. І гэтая постаць знікла. Чатыры стрэлы прагучалі адзін за адным з неверагоднаю хуткасцю, спрактыкаваныя салдаты ніколі не стралялі хутчэй. Пасля апошняга Орсавага стрэлу ўсё сціхла. Дым, што ішоў з руляў ягонае стрэльбы, павольна віўся ў неба, ніякага руху, ані шуму не даносілася з-за сцяны. Каб не боль у руцэ, можна было б падумаць, што людзі,

па якіх ён толькі што страляў, былі зданямі, плёнам ягонае фантазіі.

Чакаючы новага стрэлу, Орса адступіў некалькі крокаў і стаў за абгарэлае дрэва, што засталося стаяць сярод макі. За гэтым сховішчам ён зацісну каленямі стрэльбу і паспешліва набіў яе. Аднак ягоная левая рука балела нясцерпна, здавалася, што ён трымае ў ёй вялізны цяжар. Што здарылася з яго супраціўнікамі? Ён не мог зразумець. Калі б яны ўцяклі ці былі параненыя, ён бы напэўна пачуў хоць нейкі шум, хоць нейкі рух у лістоце. То што ж яны, забітыя ці, можа, хутчэй хаваюцца за сценамі і чакаюць выпадку, каб зноў стрэліць па ім? У такім няпэўным стане, адчуваючы, што сілы пакідаюць яго, ён апусціўся на правае калена, на другое паклаў параненую руку, а стрэльбу абапёр на галіну, што адыходзіла ад абгарэлага дрэва. Паклаўшы палец на курок, прыслухоўваючыся да найменшага шуму, ён знерухомеў на некалькі хвілін, што здаліся яму бясконцымі. Нарэшце аднекуль далёка ззаду данёсся крык, і нейкі сабака маланкаю скаціўся з гары і спыніўся ля яго, матляючы хвастом. Гэта быў Бруска, вучань і сябра бандытаў, за якім напэўна павінны быў прыйсці гаспадар, і ніколі нават сумленнага чалавека не чакалі з большаю нецярплівасцю. Сабака задзёр пысу ўгару і павярнуўся убок бліжняе агароджы, занепакоена нюхаючы паветра. Раптам ён глуха забурчаў, пераскочыў цераз сцяну, амаль адразу ж з'явіўся на ёй і зверху пільна паглядзеў на Орса, так зразумела выказваючы вачыма здзіўленне, як толькі гэта можа сабака; потым ён зноў наставіў нос на вецер, гэтым разам у кірунку другое агароджы, і зноў пераскочыў цераз сцяну. Праз хвіліну ён з'явіўся на сцяне, маючы такі самы здзіўлены і занепакоены выгляд. Потым саскочыў у макі, падціснуўшы хвост між лапаў, увесь час паглядаючы на Орса, і павольна, бокам, аддаляючыся ад яго, пакуль не адышоўся досыць далёка. Тады ён пабег і амаль з тою самаю хуткасцю, што і спускаўся, узбег на гару, насустрач чалавеку, што шпарка сыходзіў уніз, неўзіраючы на строму.

— Сюды, Бранда! — закрычаў Орса, адно ўбачыў, што той можа пачуць яго.

— О! Орс Антон! Вас паранілі?— спытаўся Брандалача, калі падбег, зусім засопшыся.— У цела ці ў руку?

— У руку.

— У руку! Гэта нішто. А той?

— Здаецца, я яго зачапіў.

Брандалача пабег за сабакам да бліжняе агароджы і

нахіліўся паглядзець на той бок сцяны. Там, скінуўшы каптур, сказаў:

— Прывітанне сеньёру Арландуча.

Потым павярнуўся да Орса і ўрачыста павітаў яго:

— Вось што значыць чалавек добра ўладкаваны!

— Ці ён яшчэ жывы?— спытаўся Орса, ледзьве дыхаючы.

— Якраз! Будзеш тут жыць, калі вы ўклеілі яму кулю проста ў вока! Матка боска, якая дзірка! Дальбог, ладная стрэльба! Але ж і калібр! З такім спакойна развернеш галамоўзу! Чуеце, Орс Антон, калі я пачуў спачатку: бах! бах!, то сказаў сабе: «О ліха! Гамон майму лейтэнанту». Пасля чую: бум! бум! Ага, думаю, вось англійская стрэльба загаварыла: ён адказвае... Ат, Бруска, што ты яшчэ хочаш?

Сабака павёў яго да другое агароджы.

— Нішто сабе!— ашаломлена закрычаў Брандалача.— Двайны стрэл! Халера! Відаць, порах вам дарагі: вы яго ашчаджаеце.

— Ну што там, на ласку божую?— спытаўся Орса.

— Ат, яшчэ смешкі строіце, пане лейтэнант. Б'еце дзічыну самі, а каму іншаму за вамі яе падбірай... Каму сёння благі пачастунак будзе, дык гэта адвакату Барычыні. Хочаш свежага мяса — вось табе! Якому ж д'яблу цяпер застанецца спадчына?

— Як! І Вінчэнтэла забіты?

— Зусім забіты. Будзьма здаровы![1] Добра, што вы не прымусілі іх пакутаваць. Зірніце на Вінчэнтэла: стаіць, укленчыўшы, а галавою абапёрся аб мур. Нібы спіць. Вось калі дарэчы будзе сказаць: спіць як забіты. Бедны!

Орса з жахам адвярнуў галаву.

— Ты ўпэўнены, што ён мёртвы?

— Вы як Самп'ера Корса, што рабіў заўжды толькі адзін стрэл. Бачыце, там... на грудзях, злева? Вось так і Вінчылеоне пацэлілі пад Ватэрлоа. Гатовы спрачацца, што куля недалёка ад сэрца. Двайны стрэл! Ого! Дзе ўжо мне так страляць. Двох за два стрэлы!.. Па кулі кожнаму!.. Абодвух братоў!.. Стрэліў бы трэці раз, забіў бы і татку... Ну, ды іншым разам... Але ж і стрэл, Орс Антон!.. Скажы ты, а вось такому малойцу, як я, ніколі не выпадала стрэліць дублетам па жандарах!

Гаворачы такім чынам, бандыт аглядаў Орсаву руку і разрэзваў сваім стылетам рукаў.

[1] Salute à noi! — выраз, што вымаўляюць звычайна, ужыўшы слова «смерць» *(аўт.)*.

— Нішто... Праз гэты сурдут будзе працы панне Каломбе... О, а гэта яшчэ што? Што гэта за дзірка на грудзях?.. Праз яе нічога не заляцела? Не, бо не былі б вы такі жвавы. Так, паспрабуйце паварушыць пальцамі... Адчуваеце, як я кусаю ваш малы палец?.. Не надта?.. Нішто, такое бяды. Дайце я дастану вашу насоўку і гальштук... Гамон вашаму сурдуту... І наліха было так прыбірацца? Ці вы да шлюбу ішлі? Наце, глыніце віна... А вы чаму не носіце баклагі? Хіба карсіканец калі выходзіць без баклагі?

Не скончыўшы бінтаваць, ён спыніўся і закрычаў:

— Двайны стрэл! І абодвух напавал!.. От наш кюрэ пасмяецца... Двайны стрэл! А вось нарэшце і гэтая чарапашка Кіліна.

Орса не адказваў. Ён збялеў, як мёртвы, і кожная жылачка ягоная калацілася.

— Кілі,— крыкнуў Брандалача,— паглядзі на сцяну. Ну як?

Дзіця, памагаючы сабе рукамі і нагамі, ускараскалася на сцяну і перахрысцілася, адно ўбачыўшы труп Арландуча.

— Гэта яшчэ нішто,— працягваў бандыт.— Ты зірні далей, вунь там.

Дзяўчынка зноў перахрысцілася.

— Гэта вы іх, дзядзечка?— спыталася яна сціпла.

— Я! Я ўжо дзед нічога не варты. Кілі, гэта работа вось гэтага пана. Павіншуй яго.

— Панна будзе вельмі рада,— сказала Кіліна.— Але яна вельмі засердзіцца, калі даведаецца, што вы паранены, Орс Антон.

— Давайце, Орс Антон,— сказаў бандыт, скончыўшы перавязку.— Кіліна вунь злавіла вашага каня. Сядайце і едзьма са мною ў Стадзонскі макі. Вельмі хітраму трэба быць, каб вас там знайсці. А мы вас даглядаць будзем як найлепш. Даедзем да крыжа Святое Хрысціны, а там злезеце з каня. Аддасце яго Кіліне, яна папярэдзіць панну, а дарогаю раскажаце ёй, што і як рабіць. Гэтай малой можаце ўсё казаць, Орс Антон, яна хутчэй дасць сябе на жылачкі растачыць, чым здрадзіць.

Потым пяшчотна дадаў: «Ідзі, шэльма, каб цябе ад царквы адвялі, каб цябе праклялі, махлярка!» Брандалача, забабонны, як і большасць бандытаў, баяўся сурочыць дзяцей, блаславіляючы ці хвалячы іх, бо ўсе ведаюць, што патаемныя сілы з *Annocchiatura*[1] маюць благую звычку чыніць насуперак нашым зычэнням.

[1] Мімавольныя чары вачыма ці словамі *(аўт.)*.

— Куды ты мяне вязеш, Бранда? — спытаўся Орса згаслым голасам.

— Д'ябал! Маеце выбар: у астрог альбо ў макі. Але дэла Рэбія не можа стаць на дарогу ў астрог. У макі, Орс Антон!

— Дык бывайце ж, надзеі мае!— з болем вымавіў паранены.

— Вашы надзеі! А на якога д'ябла вы спадзяваліся, маючы дубальтоўку?.. А, гэта! І як гэта яны вас зачапілі? Відаць, гэтыя малойцы жывучыя, як кошкі.

— Яны стралялі першыя,— сказаў Орса.

— Так, я й забыўся... Бах! Бах! Бум! Бум!.. Двайны стрэл адною рукой[1]. Ну вось вы і селі, давайце спачатку зірнём на вашу работу. Няветліва пакідаць грамаду, не развітаўшыся.

Орса пагнаў каня; ні за што на свеце ён не хацеў бы бачыць няшчасных, у якіх толькі што адабраў жыццё.

— Ведаеце, Орс Антон,— сказаў бандыт, беручы каня за павады,— хочаце, я вам шчыра скажу? Дык вось: не хачу вас крыўдзіць, але мне шкада гэтых бедных хлапцоў. Даруйце, калі ласка... такія дужыя... такія маладыя!.. Арландуча, з якім я столькі разоў паляваў... Чатыры дні таму ён даў мне пачак цыгараў... Вінчэнтэла, што заўжды быў у такім гуморы!.. Што праўда, вы зрабілі тое, што мусілі зрабіць... і, дарэчы, стрэл занадта добры, каб пра яго шкадаваць... Але што мне за справа да вашае помсты... Я ведаю, што вы маеце рацыю: калі маеш ворага, трэба яго пазбыцца. Але Барычыні, гэта быў старажытны род... І вось ён выгас!.. і праз двайны стрэл. Гэта цудоўна!

Так, гаворачы пахавальную прамову Барычыні, Брандалача паспешліва вёў Орса, Кіліну і сабаку Бруска да Стадзонскага макі.

## XVIII

Між тым хутка па ад'ездзе Орса Каломба праз сваіх шпіёнаў даведалася, што Барычыні выйшлі ў поле, і адразу яе апанаваў пякучы неспакой. Яна бегала па ўсім доме, совалася ад кухні да пакояў, падрыхтаваных гасцям, яна не рабіла

---

[1] Калі нейкі недаверлівы паляўнічы не дасць веры двайному стрэлу пана дэла Рэбія, прапаную яму схадзіць у Сартэн, дзе яму раскажуць, як адзін з найпрыстойнейшых і шаноўных жыхароў гэтага горада адстраляўся адзін з перабітаю леваю рукой, быўшы ў такім самым небяспечным становішчы *(аўт.)*.

нічога, але была ўвесь час занятая, бясспынна паглядала, ці не відаць у сяле якога незвычайнага руху. Каля адзінаццаці гадзін досыць шматлікі поезд уехаў у П'етранэру: палкоўнік, яго дачка, іхняя чэлядзь і праваднік. Сустрэўшы іх, Каломба перш за ўсё спыталася:

— Ці бачылі вы майго брата?

Потым яна распытала правадніка, якою дарогай яны ехалі, а каторай гадзіне выехалі, і з адказаў не магла зразумець, чаму яны не сустрэліся.

— Можа быць, ваш брат паехаў верхняю дарогай,— сказаў праваднік.— Бо мы ехалі ніжняю.

Але Каломба пахітала галавою, распытваючы далей. Нягледзячы на прыродную стрыманасць, да якой дадалося яшчэ ганарлівае імкненне схаваць сваю слабасць ад чужых, яна не здолела ўтаіць страх, што хутка перадаўся палкоўніку, а асабліва міс Лідзіі, калі яна распавяла пра спробу замірыцца, якая скончылася так нешчасліва. Міс Нэвіл хвалявалася, прапаноўвала даслаць людзей ва ўсе бакі, а яе бацька хацеў зноў сесці на каня і ехаць з праваднікам на пошукі Орса. Неспакой гасцей нагадаў Каломбе пра абавязкі гаспадыні. Яна пастаралася ўсміхнуцца, прымусіла палкоўніка сесці за стол і, каб растлумачыць братава спазненне, знаходзіла дваццаць верагодных прычынаў, якія сама ж праз хвіліну разбурала. Лічачы, што супакоіць жанчын — гэта яго мужчынскі абавязак, палкоўнік таксама прапанаваў сваё тлумачэнне:

— Гатовы спрачацца, што дэла Рэбія напаткаў дзічыну; ён не здолеў утрымацца і неўзабаве вернецца з поўнымі саквамі. Д'ябал! Мы ж чулі дарогаю чатыры стрэлы. Два былі мацнейшыя за іншыя, я сказаў дачцэ: іду ў заклад, што гэта дэла Рэбія палюе. Адно мая стрэльба можа нарабіць такога шуму.

Каломба збялела, і міс Лідзія, што пільна назірала за ёю, лёгка зразумела, якія падазрэнні абудзіла ў яе палкоўнікава здагадка. Памаўчаўшы некалькі хвілін, Каломба раптам спыталася, цішэйшыя ці мацнейшыя стрэлы пачуліся першыя. Але ні палкоўнік, ні ягоная дачка, ані праваднік не звярнулі вялікае ўвагі на такі важны факт.

Ніхто з людзей, дасланых Каломбаю на пошукі, не вярнуўся, і каля першае гадзіны яна сабрала ўсю сваю мужнасць і прымусіла гасцей сесці за стол; але, апроч палкоўніка, ніхто не мог есці. На любы шум з плошчы Каломба бегла да акна, вярталася сумная і зусім сумна намагалася працягваць з сябрамі нейкую нязначную размову, якая нікога не

цікавіла і якая часам перапынялася доўгім маўчаннем.

Раптам усе пачулі тупат каня.

— О! Цяпер гэта ўжо мой брат,— сказала Каломба, падымаючыся.

Але, убачыўшы Кіліну на Орсавым кані, яна страшна закрычала:

— Мой брат забіты!

У палкоўніка шклянка выпала з рук, міс Нэвіл ускрыкнула, усе кінуліся да дзвярэй. Не паспела Кіліна саскочыць з каня, як Каломба схапіла яе, як пёрка, і сціснула так, што ледзьве не задушыла. Дзяўчынка зразумела яе дзікі погляд, і першае, што яна сказала, былі пачатковыя словы хора з «Атэла»:«Ён жывы!» Каломбіны рукі аслаблі, і Кіліна скочыла на зямлю спрытна, як кацяня.

— А тыя? — спыталася Каломба сіпата.

Кіліна перахрысцілася ўказальным і сярэднім пальцамі. І адразу на Каломбіным твары густая чырвань заступіла смяротную бледнасць. Яна кінула палымяны позірк на дом Барычыні і, усміхаючыся, сказала гасцям:

— Хадзеце пап'ём кавы.

Ірыда бандытаў мусіла доўга пра ўсё распавядаць. Гаворка яе, якую Каломба сяк-так перакладала на італьянскую, а потым міс Нэвіл на англійскую, выклікала не адзін праклён у палкоўніка, не адзін уздых у міс Лідзіі, але Каломба слухала абыякава, аднак яна так турзала сваю карункавую сурвэтку, нібы хацела парваць як на шматкі. Разоў пяць ці шэсць яна перапыняла дзяўчынку, прымушаючы паўтарыць словы Брандалача, што рана не страшная, што ён бачыў яшчэ і горшыя. Скончыўшы, Кіліна дадала, што Орса настойліва прасіў прынесці паперы і хацеў, каб сястра ўгаварыла пані, якая, можа быць, прыехала да іх, не ад'язджаць, не атрымаўшы ягонага ліста. «Гэта хвалявала яго найбольш,— сказала дзяўчынка.— Я ўжо рушыла, ■ ён яшчэ раз паклікаў мяне і нагадаў пра гэтае даручэнне. Гэта ён мне ўжо трэці раз паўтарыў». На гэтыя словы Каломба злёгку ўсміхнулася і моцна сціснула англічанцы руку. Тая залілася слязьмі і вырашыла не перакладаць бацьку гэтае часткі паведамлення.

— Так, вы застанецеся са мною, мілая сяброўка,— закрычала Каломба, абдымаючы міс Нэвіл.— І дапаможаце нам.

Потым яна выцягнула з шафы стос старое бялізны і пачала рваць яе на бінты і на корпію. Пабачыўшы яе бліскучыя вочы, зачырванелы твар, на якім адбіваліся то заклапоча-

насць, то рашучасць, цяжка было б сказаць, ці яе засмуціла братава рана, ці ўсцешыла смерць ворагаў. Яна то далівала палкоўніку кавы і хвалілася сваім умельствам варыць яе, то давала бялізну міс Нэвіл і Кіліне і навучала іх сшываць і скручваць бінты; разоў дваццаць яна пыталася, ці Орсава рана не прымушала яго моцна пакутаваць. Увесь час яна адкладала работу і казала палкоўніку:

— Двое мужчын, такіх спрытных, такіх страшных!.. А сам паранены, з адною рукой... і забіў абодвух! Ах, міс Нэвіл, якое шчасце жыць у такой спакойнай краіне, як ваша!.. Я ўпэўнена, што вы яшчэ не ведаеце майго брата!.. Я ж казала: сокал выпрастае крылы!.. Вас падмануў ягоны рахманы выгляд... Бо ля вас, міс Нэвіл... Ах, каб ён бачыў, як вы працуеце дзеля яго... Бедны Орса!

Міс Лідзія амаль не працавала і не магла вымавіць ні слова. Яе бацька пытаўся, чаму дагэтуль ніхто не панёс скаргу суддзі. Ён гаварыў пра следства коранэра і пра ўсялякія іншыя рэчы, невядомыя на Корсіцы. Нарэшце ён захацеў даведацца, ці далёка ад П'етранэры да сядзібы гэтага ласкавага пана Брандалача, што даглядае параненага, і ці не мог бы ён сам пайсці наведаць сябра.

Каломба са сваім звычайным спакоем адказвала, што Орса ў макі, што даглядае яго бандыт, што яму было б вельмі рызыкоўна з'яўляцца, пакуль не высветляцца намеры прэфекта і суддзяў. Нарэшце яна сказала, што пастараецца патаемна выправіць да яго спрактыкаванага хірурга.

— Асабліва, пане палкоўнік,— казала яна,— добра запомніце, што вы чулі чатыры стрэлы і вы мне казалі, што Орса страляў другі.

Палкоўнік нічога не цяміў, а ягоная дачка адно ўздыхала і ўцірала слёзы.

Быў ужо дзень, калі ў сяло ўвайшла сумная працэсія. Адвакату Барычыні везлі трупы ягоных сыноў, яны ўпоперак ляжалі на мулах, якіх вялі сяляне. За жалобным шэсцем ішоў натоўп адвакатавых кліентаў і цікаўных. З імі былі жандары, што, як заўжды, з'явіліся запозна, і намеснік мэра, што ўздымаў рукі ў неба, бясконца паўтараючы: «Што скажа пан прэфект!» Некалькі жанчын, сярод якіх была і карміліца Арландуча, ірвалі на сабе валасы і нема крычалі. Але іхняе шумнае гора ўражвала менш, чым маўклівая роспач чалавека, які прыцягваў да сябе ўсе погляды. Гэта быў няшчасны бацька, ён пераходзіў ад аднаго трупа да другога, прыўздымаў іхнія галовы, запэцканыя зямлёю, цалаваў ссінелыя вусны, падтрымліваў ужо акалелыя рукі і ногі, нібы баяўся,

што іх растрасе дарогаю. Часам ён адкрываў рот, каб нешта вымавіць але не чуваць было ні слова, ані крыку. Ён не адводзіў вачэй ад трупаў і натыкаўся на камяні, на дрэвы, на ўсе перашкоды, што трапляліся яму на шляху.

Лямант жанчын і праклёны мужчын узмацніліся, калі шэсце наблізілася да Орсавага дома. Некалькі пастухоў-рэбіяністаў пераможна закрычалі, чым выклікалі нястрыманае абурэнне супраціўнікаў. Пачуліся выкрыкі: «Помста! Помста!» Паляцелі камяні, прагучалі два стрэлы. Кулі прабілі аканіцы ў той зале, дзе сядзела Каломба з гасцямі, пашчапалі дрэва і адкінулі трэскі аж да стала, ля якога сядзелі жанчыны. Міс Лідзія страшна закрычала, палкоўнік схапіў стрэльбу, а Каломба кінулася да дзвярэй, і не паспеў палкоўнік яе затрымаць, як яна імкліва іх адчыніла. Там яна стала на высокім ганку, выцягнула рукі, праклінаючы ворагаў, і закрычала:

— Мярзотнікі! Страляеце па жанчынах і іншаземцах! Ці карсіканцы вы? Ці вы мужчыны? Гнюсліўцы, вы ўмееце адно забіваць са спіны! Хадзіце, я вас не баюся! Я адна, мой брат далёка. Забіце мяне, забіце маіх гасцей, больш вы ні на што не здольныя... Вы баіцеся, плюгаўцы! Вы ведаеце, што мы адпомсцім! То плачце ж, як бабы, і дзякуйце, што мы не патрабуем больш вашае крыві!

У голасе і ў постаці Каломбы было нешта велічнае і жахлівае. Убачыўшы яе, натоўп у жаху падаўся назад, нібы сустрэўшы злую чараўніцу, пра якіх на Корсіцы распавядаюць нямала гісторый доўгімі зімовымі вечарамі. Намеснік мэра, жандары, нейкія жанчыны скарысталі гэты рух натоўпу і сталі паміж двума бакамі, бо пастухі-рэбіяністы ўжо схапіліся за зброю, і кожную хвіліну на плошчы магла пачацца агульная бойка. Але абедзве партыі засталіся без сваіх правадыроў, а карсіканцы, дысцыплінаваныя ў сваім шаленстве, рэдка паддаюцца яму ў адсутнасці галоўных завадатараў міжусобных войнаў. Дарэчы, і Каломба, якой поспех вярнуў абачлівасць, стрымала свой маленькі гарнізон:

— Дайце выплакацца гэтым няшчасным, дайце старому забраць сваіх сыноў. Нашто забіваць гэтага старога ліса, ён не мае больш зубоў, каб кусацца. Джудзіча Барычыні! Узгадай другога жніўня! Узгадай скрываўлены нататнік, у якім ты пісаў сваёй махлярскаю рукой! Мой бацька запісаў там тваю пазыку, твае сыны сплацілі яе. Даю табе распіску, стары Барычыні! Склаўшы рукі на грудзях, пагардліва ўсміхаючыся, Каломба глядзела, як трупы ўнеслі ў дом яе во-

рагаў, як потым павольна разышоўся натоўп. Яна зачыніла дзверы, вярнулася ў залу і сказала палкоўніку:

— Прашу вас дараваць маім землякам, васпане. Ніколі б не падумала, што карсіканцы могуць страляць па доме, дзе ёсць іншаземцы; мне сорамна за маю краіну.

Увечары, калі міс Лідзія пайшла ў свой пакой, палкоўнік рушыў за ёю і спытаўся, ці не лепей было б заўтра ж пакінуць гэтае сяло, дзе кожную хвіліну можна чакаць кулі ў лоб, і як мага хутчэй выехаць з гэтае краіны, дзе толькі і ёсць што забойствы ды здрады.

Міс Нэвіл трохі памаўчала, было відаць, што бацькава прапанова паставіла яе ў няёмкае становішча. Нарэшце яна сказала:

— Хіба можна пакінуць гэтую бедную дзяўчыну ў той час, калі ёй так патрэбна падтрымка? Ці не лічыце вы, бацька, што з нашага боку гэта было б жорстка?

— Я гавару так толькі з-за вас, дзіця маё,— сказаў палкоўнік.— І каб я ведаў, што вы ў бяспецы ў гатэлі Аяча, я б нізашто не захацеў пакінуць гэты кляты востраў, не паціснуўшы рукі нашаму адважнаму дэла Рэбія.

— Што ж, бацька, пачакаем яшчэ. А паедзем тады, калі пераканаемся, што больш дапамагчы ім мы не можам.

— Добрае сэрца!— сказаў палкоўнік, цалуючы дачку ў лоб.— Я рады, што ты ахвяруеш сабою, каб падтрымаць у няшчасці іншых. Застанемся, ніхто яшчэ не каяўся за добрыя справы.

Міс Лідзія не магла заснуць і варочалася ў ложку. То нейкі вагкі шум здаваўся ёй падрыхтоўкаю да нападу на дом; то, супакоіўшыся за сябе, яна пачынала думаць пра беднага параненага, што, можа быць, ляжаў гэтым часам на халоднай зямлі і не меў іншага догляду, апроч таго, якога можна чакаць ад ласкі нейкага бандыта. Ёй уяўлялася, што ён увесь заліты крывёю, б'ецца ў жахлівых пакутах; але цікава, што кожны раз, як постаць Орса паўставала ў яе ўяўленні, яна бачыла яго такога, як у хвіліну ад'езду, калі ён прыціскаў да вуснаў талісман, што яна яму падаравала... Потым яна пачала думаць пра ягоную адвагу. Яна казала сабе, што страшнай небяспецы, якое ён нядаўна ўнікнуў, ён падлягаў праз яе, жадаючы ўбачыць яе трошкі раней. Яна амаль пераканала сябе, што Орса быў паранены, абараняючы яе. Яна папракала сябе за гэта, але тым больш ім захаплялася; і хоць у яе вачах славуты двайны стрэл не меў тае вартасці, як у вачах Брандалача ці Каломбы, яна ўсё ж такі лічыла, што няшмат хто з герояў раманаў здолеў бы

выявіць такую адвагу, такую цвёрдасць у такой вялікай небяспецы.

Яна займала пакой Каломбы. Над дубоваю малітоўнаю лавачкай, побач са свянцонай вярбою на сцяне вісеў маленькі партрэт Орса ў форме малодшага лейтэнанта. Міс Нэвіл зняла партрэт, доуга разглядала яго і нарэшце, замест таго каб павесіць на месца, паклала яго каля ложка. Заснула яна адно на досвітку, а калі прачнулася, сонца было ўжо высока. Побач з ложкам яна ўбачыла Каломбу, што нерухома чакала, калі яна расплюшчыць вочы.

— Ну што, ці не надта кепска вам у нашым бедным доме?— спыталася Каломба.— Баюся, што вы і не спалі.

— Ці ёсць якія навіны ад яго, дарагая мая?— спыталася міс Нэвіл, сядаючы на ложку.

Яна заўважыла Орсаў партрэт і, каб прыкрыць яго, хуценька ўпусціла на яго насовачку.

— Так, ёсць навіны,— сказала Каломба, усміхаючыся. Пасля ўзяла партрэт і спыталася:— Як вам здаецца, ён тут падобны? На самой справе ён прыгажэйшы.

— Божухна!..— сказала міс Нэвіл, засаромеўшыся.— Я зняла... гэты партрэт... і забылася... Гэта мой недахоп... усё чапаць і не класці на месца... Як там ваш брат?

— Нішто сабе. Джаканта прыходзіў сёння рана, яшчэ чатырох не было. Ён прынёс мне ліст... для вас, міс Лідзія; мне Орса не напісаў. Тут, праўда, напісана Каломбе, але ніжэй — для міс Н... Сёстры не раўнівыя. Джаканта сказаў, што ён зусім змучыўся, пакуль напісаў. Джаканта, які мае цудоўны почырк, прапаноўваў яму напісаць пад дыктоўку, але ён не захацеў. Ён пісаў алоўкам, лежачы на спіне. Брандалача трымаў паперу. Мой брат увесь час хацеў падняцца, але любы рух выклікаў страшэнны боль у руцэ. Так шкада яго было, казаў Джаканта. Вось ліст.

Міс Нэвіл прачытала ліст, што быў напісаны па-англійску, напэўна, для перасцярогі. Вось што ў ім было:

«Васпанна.

Нешчаслівы лёс напаткаў мяне. Не ведаю, што будуць казаць пра мяне ворагі, якія плёткі распусцяць яны пра мяне. Усё гэта не важна, калі толькі вы, панна, не дасце ім веры. З тае хвіліны, як я ўбачыў вас, няздзейсныя мары калыхалі мяне. Патрэбна была гэтая катастрофа, каб выявілася ўсё маё вар'яцтва; зараз я ўжо магу разважаць спакойна. Я ведаю, якая будучыня мяне чакае, і я скарыўся ёй. Я не наважваюся захаваць гэты пярсцёнак, што вы падаравалі мне

і які я лічу за талісман дабрыні. Я баюся, міс Нэвіл, каб вы не пашкадавалі, што далі яго чалавеку нявартаму, але яшчэ больш я баюся, што ён будзе нагадваць мне часы майго вар'яцтва. Каломба аддасць яго вам... Бывайце, васпанна, вы хутка пакінеце Корсіку, і я не ўбачу вас болей; але скажыце маёй сястры, што я яшчэ карыстаюся вашаю павагай, упэўніваю вас, я яе ўсё яшчэ варты.

*O. d. P.».*

Міс Лідзія, адвярнуўшыся, чытала ліст, а Каломба, што пільна сачыла за ёю, падала ёй егіпецкі пярсцёнак, позіркам пытаючыся, што гэта азначае. Але міс Лідзія не наважвалася падняць галавы і сумна разглядала пярсцёнак, які яна то надзявала, то здымала з пальца.

— Мілая міс Нэвіл,— сказала Каломба,— ці магу я даведацца, што вам піша мой брат? Ці піша ён пра свой стан?

— Але...— сказала міс Лідзія, чырванеючы.— Ён пра гэта не піша... Гэты ліст на англійскай... Ён просіць мяне сказаць бацьку... Ён спадзяецца, што прэфект здолее ўлагодзіць...

Каломба, хітра ўсміхаючыся, села на ложак, узяла абедзве далоні міс Нэвіл і, гледзячы на яе сваімі разумнымі вачыма, загаварыла:

— Вы будзеце добрая? Вы ж напішаце майму брату? Вы так зарадуеце яго! Спачатку я хацела пабудзіць вас адразу, як прынеслі ліст, але потым я не наважылася.

— А дарма,— сказала міс Нэвіл.— Калі б адно маё слова магло яго...

— Зараз я не магу даслаць яму ліст. Прыехаў прэфект, і ў П'етранэры ўсюды яго людзі. Потым пабачым. Ах, каб вы толькі ведалі майго брата, міс Нэвіл, вы б палюбілі яго так, як я люблю... Ён такі добры, такі адважны! Адзін, паранены, супраць двух!

Прэфект вярнуўся. Атрымаўшы паведамленне ад намесніка мэра, ён прыехаў з жандарамі і стралкамі, апроч таго, з ім явіліся каралеўскі пракурор, судовы сакратар і іншыя службоўцы, каб даследаваць новае страшнае здарэнне, што ўскладняла, ці, дакладней, завяршала варажнечу двух родаў у П'етранэры. Неўзабаве па прыездзе ён сустрэўся з палкоўнікам і яго дачкой і не стаў хаваць ад іх, што баіцца, каб справа не павярнулася кепска.

— Вы ведаеце,— сказаў ён,— у гэтай бойцы не было сведкаў. Усе ведаюць спрыт і адвагу гэтых няшчасных хлопцаў, неверагодна, каб пан дэла Рэбія мог іх забіць без дапамогі бандытаў, у якіх, як кажуць, ён зараз хаваецца.

— Гэта не магчыма,— узрушыўся палкоўнік.— Орса дэла Рэбія годны хлопец, я адказваю за яго.

— Веру вам,— сказаў прэфект.— Але каралеўскі пракурор (гэтыя паны заўжды падазраюць кагосьці), здаецца мне, настроены супраць яго. Ён мае доказ страшны для вашага сябра. Гэта ліст з пагрозамі, адрасаваны Арландуча, у якім дэла Рэбія прызначае сустрэчу... і гэтая сустрэча здаецца пракурору засадаю.

— Гэты Арландуча адмовіўся біцца на дуэлі з прыстойным чалавекам,— сказаў палкоўнік.

— Тут гэтага звычаю не разумеюць. Тут ладзяць засады і забіваюць у спіну, такая завядзёнка ў гэтай краіне. Але ёсць адно спрыяльнае паказанне: адна дзяўчынка сцвярджае, што чула чатыры стрэлы і два апошнія былі мацнейшыя, нібы стралялі са стрэльбы буйнага калібру, як у стрэльбы пана дэла Рэбія. На жаль, дзяўчынка гэтая пляменніца бандыта, якога падазраюць у саўдзеле, і яе, відаць, так навучылі.

— Васпане,— перапыніла яго міс Лідзія, пачырванеўшы да вушэй,— мы былі на дарозе, калі ўсчалася страляніна, і мы чулі тое самае.

— Праўда? Вось гэта важна. А вы, палкоўнік, вы, пэўна, таксама гэта заўважылі?

— Так,— жвава сказала міс Нэвіл.— Бацька прывычны да зброі, гэта ён мне сказаў: «Вось пан дэла Рэбія страляе з маёй стрэльбы».

— А тыя стрэлы, што вы пазналі, былі апошнія?

— Два апошнія, праўда, тата?

Памяць у палкоўніка была не надта моцная, але ўва ўсялякім выпадку ён асцярогся пярэчыць дачцэ.

— Трэба зараз жа расказаць гэта каралеўскаму пракурору, палкоўнік. Зрэшты, мы чакаем сягоння ўвечары хірурга, ён даследуе трупы і высветліць, ці раны былі ад гэтае зброі.

— Яе даў Орсу я,— сказаў палкоўнік.— Лепш бы я кінуў яе ў мора... Але ж... Добра, што яна была ў руках у гэтага малойца, бо не ведаю, як бы ён адбіўся без майго Мэнтана.

## XIX

Хірург трохі запазніўся. Дарогаю ён меў адну прыгоду. Яго перастрэў Джаканта Кастрыконі і з найвялікшаю гжэчнасцю змусіў даць дапамогу аднаму параненаму. Яго прывялі да Орса, і ён перавязаў яму рану. Пасля бандыт пра-

вёў яго досыць далёка і шмат расказаў пра найвядомейшых прафесараў з Пізанскага універсітэта, якія, калі яму верыць, усе былі яго блізкія сябры.

— Доктар,— сказаў тэолаг, развітваючыся,— вы выклікаеце ў мяне зашмат павагі да вас, каб я лічыў за патрэбнае нагадваць, што доктар павінны быць такі самы сціплы, як і ксёндз-спавядальнік. (І ён пабразгаў замком стрэльбы.) Вы забыліся месца, дзе мы мелі гонар вас сустрэць. Бывайце, рады быў пазнаёміцца.

Каломба ўгаварыла палкоўніка прысутнічаць на ўскрыцці трупаў.

— Вы лепш за каго іншага ведаеце стрэльбу майго брата,— сказала яна.— І ваша прысутнасць будзе вельмі карысная. Дарэчы, тут столькі ліхадзеяў, што нас лёгка змогуць падмануць, калі там не будзе каму абараніць нашы інтарэсы.

Застаўшыся з міс Лідзіяй, яна пачала скардзіцца на боль у галаве і прапанавала прагуляцца каля сяла.

— Вольнае паветра мне дапаможа,— сказала яна.— Я так даўно не гуляла.

Дарогаю яна ўвесь час гаварыла пра свайго брата, і міс Лідзія, якую гэтая тэма надзвычай цікавіла, не заўважыла, як яны адышліся далёка ад П'етранэры. Калі сонца схавалася, яна заўважыла гэта і прапанавала Каломбе вярнуцца. Каломба сказала, што ведае сцяжыначку напрасткі, якая моцна скарачае шлях. І, пакінуўшы сцяжыначку, якою яны ішлі, яна павярнула на другую, куды менш убітую. Неўзабаве яна пачала караскацца на пагорак, такі стромы, што адною рукой яна мусіла чапляцца за галіны дрэваў, а другою цягнула за сабой сваю спадарожніцу. Праз чвэрць гадзіны гэтага цяжкага пад'ёму яны апынуліся на маленькай пляцоўцы, парослай міртамі і сунічнікам, сярод вялікіх гранітных валуноў, што сям і там вытыркалі з зямлі. Міс Лідзія вельмі стамілася, сяла было не відаць, і ўжо амаль сцямнела.

— Ведаеце, мілая Каломба,— сказала яна,— я баюся, што мы заблудзіліся.

— Не бойцеся,— адказала Каломба.— Ідзіце за мною.

— Але я ўпэўнена, што вы памыляецеся. Сяло не можа быць у тым баку, я гатова спрачацца, што яно ў нас за спіною. Гляньце, вунь там далёка агеньчыкі, відаць, гэта і ёсць П'етранэра.

— Мілая мая,— сказала Каломба ўсхвалявана.— Вы маеце рацыю, але за дзвесце крокаў адсюль... у макі...

— Што там?

— Там мой брат. Я магла б убачыцца з ім і абняць яго, калі б вы захацелі.

Міс Нэвіл здзіўлена зірнула на яе.

— Я выйшла з П'етранэры незаўважна,— працягвала яна.— Бо была з вамі... інакш бы за мною пачалі сачыць... Быць зусім побач з ім і не ўбачыць яго!.. А чаму б і вам не пайсці да майго беднага брата? Ён бы так узрадаваўся!

— Але, Каломба... Гэта было б непрыстойна з майго боку.

— Я разумею. Вы, гараджанкі, заўжды клапоціцеся, каб было прыстойна; а мы, сялянкі, думаем адно пра тое, што добра.

— Але ўжо позна!.. І што падумае пра мяне ваш брат?

— Ён падумае, што сябры не кінулі яго, і гэта надасць яму сілы, дапаможа пераносіць пакуты.

— А мой бацька, ён будзе так непакоіцца...

— Ён ведае, што вы са мною... Дык рашайцеся... Вы ж глядзелі на ягоны партрэт сёння раніцаю,— дадала яна з хітраю ўсмешкай.

— Не... сапраўды, Каломба, я баюся... там жа бандыты...

— Што з таго! Гэтыя бандыты вас не ведаюць, што вам да іх? Вы ж хацелі б яго бачыць!

— Божухна!

— Вось што, панна, рашайце. Я не магу пакінуць вас тут адну, невядома што можа здарыцца. Хадземце да Орса альбо вернемся дадому разам... А я ўбачу свайго брата... богведама калі... можа, ніколі...

— Што вы кажаце, Каломба?.. Добра, хадземце! Але адно на хвілінку і адразу ж вернемся.

Каломба сціснула яе руку і, не адказваючы, пайшла так хутка, што міс Лідзія ледзьве паспявала за ёю. На шчасце, Каломба неўзабаве спынілася і сказала:

— Далей не пойдзем, трэба спачатку іх папярэдзіць, бо інакш можна нарвацца на кулю.

Тут яна ўклала пальцы ў рот і свіснула, у адказ забрахаў сабака, і хутка гэты пільны вартавы бандытаў падбег да іх. Гэта быў наш стары знаёмы, Бруска, ён пазнаў Каломбу і павёў яе за сабою. Яны доўга падымаліся вузкаю лясною сцяжынкаю і нарэшце сустрэлі двух узброеных да зубоў мужчын.

— Гэта вы, Брандалача? — спыталася Каломба.— А дзе мой брат?

— Там,— адказаў бандыт.— Але ідзіце асцярожна: ён

заснуў, першы раз пасля гэтае прыгоды. Дзякуй Богу! Відаць, праўду кажуць: дзе д'ябал прайшоў, там пройдзе і жанчына.

Жанчыны асцярожна падышлі, і ля вогнішча, полымя якога бандыты ўдала схавалі, склаўшы вакол сценачку з камянёў, яны заўважылі Орса, што ляжаў на кучы папараці, прыкрыты буркаю. Ён быў моцна збялелы і дыхаў няроўна. Каломба села пры ім і моўчкі пачала на яго глядзець, склаўшы рукі, нібы яна ў думках малілася. Міс Лідзія закрыла твар хустачкаю і прытулілася да яе, але раз-пораз яна падымала галаву і цераз Каломбін плячук пазірала на параненага. Чвэрць гадзіны ўсе маўчалі. На знак кюрэ Брандалача схаваўся з ім у макі, на вялікую радасць міс Лідзіі, якая ўпершыню знайшла, што ў доўгіх барадах і ўбранні бандытаў зашмат мясцовага каларыту.

Нарэшце Орса зварухнуўся. Каломба адразу нахілілася да яго і пачала цалаваць, засыпаючы яго пытаннямі пра рану, пра пакуты, пра патрэбы. Адказаўшы, што яму добра, як гэта толькі магчыма ў ягоным становішчы, Орса спытаўся, ці міс Лідзія яшчэ ў П'етранэры і ці напісала яна яму. Нахіліўшыся да брата, Каломба цалкам закрывала ад яго сваю спадарожніцу, якую ён, дарэчы, наўрад ці разгледзеў бы ў цемры. У адной руцэ Каломба трымала руку міс Нэвіл, другою злёгку прыўзняла галаву параненага.

— Не, браце, яна не дала мне ліста да вас... Але вы ўвесь час думаеце пра міс Нэвіл. Дык, пэўна, вы яе кахаеце?

— Ці я кахаю яе, Каломба!.. Але яна, мабыць, пагарджае мною цяпер!

У гэтую хвіліну міс Нэвіл паспрабавала выцягнуць сваю руку, але нялёгка было вырваць у Каломбы захопленае; яе ручка, маленькая і зграбная, мела сілу, у якой мы ўжо пераканаліся.

— Пагарджаць вамі! — сказала Каломба.— Пасля таго, што вы зрабілі... Наадварот, яна гаворыць пра вас так добра... Ах, Орса, ■ магла б вам столькі пра яе распавесці.

Міс Лідзія ўвесь час старалася вызваліць сваю руку, а Каломба ўвесь час прыцягвала яе бліжэй да Орса.

— Але ўсё ж,— сказаў паранены,— чаму яна не адказвае мне? Адзіны радок — і я быў бы задаволены.

Каломба так цягнула руку міс Лідзіі, што нарэшце ўклала яе ў руку свайго брата. Тады яна раптам адхілілася і са смехам сказала:

— Орса, сцеражыцеся гаварыць кепска пра міс Лідзію, яна цудоўна разумее па-карсіканску!

Міс Лідзія вырвала сваю руку і прамармытала некалькі неразборлівых словаў. Орса здавалася, што ён сніць.

— Вы тут, міс Нэвіл! Божухна! Як вы наважыліся? Ах, які я шчаслівы!

І, з цяжкасцю прыўзняўшыся, ён паспрабаваў падсунуцца да яе.

— Я пайшла з вашаю сястрой,— сказала міс Лідзія,— каб ніхто не здагадаўся, куды яна ідзе... і апроч таго... я таксама хацела пераканацца... О, як вам тут кепска!

Каломба сядзела ў Орса ўгалавах. Яна асцярожна прыўзняла яго і паклала ягоную галаву сабе на калені. Потым абняла яго за шыю і зрабіла міс Лідзіі знак наблізіцца.

— Бліжэй, бліжэй! — казала яна.— Не трэба прымушаць хворага гаварыць занадта голасна.

А як міс Лідзія вагалася, то яна прыцягнула яе за руку і змусіла сесці так блізка, што яе сукенка кранался Орса, руку англічанкі яна паклала на плячук параненаму.

— Вось так добра,— сказала Каломба весела.— Праўда, Орса, добра сядзець ля вогнішча ў макі ў такую ноч, як сёння?

— Так, сёння дзівосная ноч! — сказаў Орса.— Я не забуду яе ніколі.

— Вы, пэўна, так пакутуеце! — сказала міс Нэвіл.

— Я ўжо не пакутую,— адказаў Орса.— Я хацеў бы памерці тут.

І ягоная правая рука пацягнулася да ручкі міс Лідзіі, якую Каломба ўсё яшчэ не адпускала.

— Вас, пане дэла Рэбія, абавязкова трэба перавезці куды-небудзь, дзе вас можна было б добра даглядаць,— сказала міс Нэвіл.— Я не здолею заснуць цяпер, калі ўбачыла, як вы ляжыце тут... пад адкрытым небам...

— Калі б я не баяўся сустрэць вас, міс Нэвіл, я б паспрабаваў вярнуцца ў П'етранэру і здацца ўладам.

— А чаму вы баяліся сустрэць яе, Орса? — спыталася Каломба.

— Я не паслухаўся вас, міс Нэвіл... і не наважыўся б сустрэцца з вамі цяпер.

— Ці ведаеце, вы, міс Лідзія, што можаце прымусіць майго брата рабіць усё, што вам захочацца? — спыталася Каломба, смеючыся.— Я не дазволю вам бачыцца з ім.

— Спадзяюся,— сказала міс Нэвіл,— што ў гэтай няшчаснай справе ўсё будзе высветлена і хутка вам не будзе

чаго баяцца... Ад'язджаючы, я была б вельмі рада ведаць, што справядлівасць узяла верх і што вашу бязвіннасць прызналі гэтаксама, як і вашу адвагу.

— Вы ад'язджаеце, міс Нэвіл! Не вымаўляйце гэтае слова зараз.

— Што ж вы хочаце... Мой бацька не можа ўвесь час паляваць... Ён хоча ехаць.

Орса пусціў руку, якою трымаў руку міс Лідзіі, і на хвіліну запанавала ціша.

— Ба,— сказала Каломба.— Мы не адпусцім вас так хутка. Мы маем яшчэ шмат што паказаць вам у П'етранэры... Дарэчы, вы абяцалі намаляваць мой партрэт, а вы яшчэ й не браліся... І апроч таго, я абяцала вам скласці *serenata* на семдзесят пяць куплетаў... І яшчэ... Але захваляваўся Бруска?.. І Брандалача пабег за ім... Пайду зірну, што там.

Яна паднялася і, без цырымоніяў паклаўшы Орсаву галаву на калені міс Нэвіл, пабегла да бандытаў.

Трохі здзіўленая тым, што сядзіць у макі сам-насам з прыгожым маладым чалавекам і трымае ягоную галаву ў сябе на каленях, міс Нэвіл не ведала, што рабіць, бо баялася рэзкім рухам пашкодзіць параненаму. Але Орса сам пакінуў далікатную апору, на якую сястра паклала ягоную галаву, прыўзняўся на правы локаць і сказаў:

— Дык вы хутка паедзеце, міс Лідзія? Канечне, я і не думаў, што вы можаце застацца ў гэтай беднай краіне... і ўсё ж такі... з тае хвіліны, як вы прыйшлі сюды, я пакутую ў сто разоў болей, калі думаю, што трэба будзе развітвацца з вамі... Я бедны лейтэнант... без будучыні... а цяпер і выгнаннік... Міс Лідзія, зараз не адпаведны час, каб казаць вам, што я вас кахаю... але гэта, напэўна, адзіны выпадак, калі я магу вам гэта сказаць, і мне здаецца, што цяпер я не такі няшчасны, што я даў палёгку свайму сэрцу.

Міс Лідзія адвярнула галаву, нібы змроку не хапала, каб схаваць яе чырвань.

— Пане дэла Рэбія, хіба я б прыйшла сюды, каб...— сказала яна дрыготкім голасам і ўклала ў Орсаву руку егіпецкі талісман.

Потым, зрабіўшы вялізнае намаганне, вярнулася да свайго звычайнага жартаўлівага тону:

— Зусім кепска, пане Орса, так гаварыць... Вы самі ведаеце, што тут, у макі, сярод вашых бандытаў, я ніколі б не наважылася засердзіцца на вас.

Орса зварухнуўся, каб пацалаваць руку, што вяртала яму талісман, але міс Лідзія адвяла яе занадта хутка, і ён не

ўтрымаўся і ўпаў на параненую руку. Ён не здолеў стрымаць пакутлівы стогн.

— Вам баліць, дружа мой? — закрычала яна, падымаючы яго.— Гэта праз мяне! Даруйце...

Яшчэ нейкі час яны ціха размаўлялі, седзячы зусім блізка адно пры адным. Калі Каломба прыбегла назад, яна застала іх у той самай паставе, у якой і пакінула.

— Вальтыжоры! — закрычала яна.— Орса, паспрабуйце падняцца і ісці, я дапамагу вам.

— Пакіньце мяне,— сказаў Орса.— Скажы бандытам, няхай уцякаюць.., няхай мяне арыштуюць, усё адно, але забяры адсюль міс Лідзію, дзеля бога, абы яе не бачылі тут.

— Я не пакіну вас,— сказаў Брандалача, які прыйшоў за Каломбаю.— Сяржант вальтыжораў — хроснік адваката, замест таго каб арыштаваць, ён вас заб'е, а потым скажа, што зрабіў гэта ненаўмысна.

Орса паспрабаваў падняцца і нават зрабіў некалькі крокаў, але неўзабаве спыніўся і сказаў:

— Я не магу ісці. Уцякайце вы. Бывайце, міс Нэвіл. Дайце вашу руку і бывайце!

— Мы не пакінем вас,— закрычалі абедзве жанчыны.

— Калі вы не можаце ісці,— сказаў Брандалача,— я вас панясу. Ну, пане лейтэнант, не бойцеся, мы паспеем праскочыць ярам, вунь там. Пан кюрэ тым часам дасць ім клопату.

— Не, пакіньце мяне,— сказаў Орса, кладучыся на зямлю.— Дзеля бога, Каломба, забяры міс Нэвіл!

— Панна Каломба, вы дужая,— сказаў Брандалача.— Бярыце яго за плечы, я вазьму за ногі. Добра! Наперад, гайда!

І, нягледзячы на Орсавы пратэсты, яны хутка панеслі яго, страшна напалоханая міс Лідзія бегла за імі. Тут яны пачулі стрэл, на які адразу ж адказалі пяць-шэсць іншых. Міс Лідзія закрычала, Брандалача вылаяўся, але пабег удвая хутчэй, на ягоны прыклад і Каломба палящела праз хмызы, не звяртаючы ўвагі на галіны, якія хвасталі яе па твары і чапляліся за сукенку.

— Прыгінайцеся, прыгінайцеся, даражэнькая,— казала яна сваёй сяброўцы,— бо яшчэ нарвяцеся на кулю.

Такім чынам яны прайшлі ці, хутчэй, прабеглі з паўкіламетра, калі Брандалача абвясціў, што больш не можа, і асеў на зямлю, нягледзячы на просьбы і папрокі Каломбы.

— Дзе міс Нэвіл? — спытаўся Орса.

Міс Нэвіл, палохаючыся стрэлаў, спынялася штохвіліны

ў гушчары, хутка згубіла след уцекачоў і засталася адна, апанаваная пранізлівым страхам.

— Яна засталася ззаду,— сказаў Брандалача.— Але яна не прападзе, жанчыны заўжды знаходзяцца. Вось паслухайце, Орс Антон, як кюрэ паліць з вашае стрэльбы. Шкада, што цёмна, хоць мышэй лаві; ад начное перастрэлкі мала карысці.

— Ціха! — сказала Каломба.— Я чую тупат каня, мы ўратаваныя!

І сапраўды, нейкі конь, што пасвіўся ў макі, напалоханы стралянінаю, ішоў у іхні бок.

— Мы ўратаваныя! — паўтарыў Брандалача.

Падбегчы да каня, злавіць яго за грыву, усунуць яму ў рот вяроўку замест цугляў — усё гэта бандыт з Каломбінаю дапамогай зрабіў за хвіліну.

— А зараз папярэдзім кюрэ,— сказаў ён і свіснуў два разы.

У адказ пачуўся далёкі свіст, і грымотны голас мэнтанаўскае стрэльбы сціх. Брандалача скочыў на каня. Каломба пасадзіла брата перад бандытам, той абхапіў яго адною рукой, а ў другой сціснуў павады. Нягледзячы на падвойны груз, конь, заахвочаны двума моцнымі ўдарамі пяткамі па баках, рушыў жвава і галопам спусціўся са стромага схілу, на якім любы іншы конь, апроч карсіканскага, сто разоў скруціў бы сабе шыю.

Каломба вярнулася назад, клічучы міс Нэвіл, але ніхто ёй не адказаў... Пэўны час яна ішла наўздагад, шукаючы сцяжынку, якою яны рухаліся, і раптам сустрэла двух вальтыжораў. Яны закрычалі:

— Хто ідзе?

— Але ж і ладны быў вэрхал, панове,— сказала Каломба насмешліва.— Колькі забітых?

— Вы былі з бандытамі,— сказаў адзін салдат.— Пойдзеце з намі.

— З ахвотаю,— адказала яна.— Але недзе тут мая сяброўка, трэба спачатку знайсці яе.

— Вашу сяброўку ўжо знайшлі, сёння вы з ёю будзеце начаваць у астрозе.

— У астрозе? Гэта мы яшчэ пабачым, але пакуль што вядзіце мяне да яе.

Вальтыжоры адвялі яе на стаянку бандытаў, дзе яны збіралі трафеі сваёй экспедыцыі, а менавіта: бурку, якою накрываўся Орса, стары чыгунок і збан з вадою. Там сама была і міс Нэвіл. Салдаты знайшлі яе ледзьве жывую ад

страху, і яна праз слёзы адказала ім на ўсе пытанні пра колькасць бандытаў і пра кірунак, у якім яны ўцяклі. Каломба кінулася да яе ў абдымкі і шапнула: «Яны ўцяклі».

Потым звярнулася да сяржанта вальтыжораў:

— Васпане, вы ж бачыце, што панна не разумее нічога з таго, што вы ў яе пытаецеся. Адпусціце нас у сяло, там нас чакаюць.

— Вас, любачка, туды завядуць, і хутчэй, чым вы б хацелі,— сказаў сяржант.— Там вы і растлумачыце, што вы рабілі ў макі такою парой, ды яшчэ з бандытамі, якія толькі што ўцяклі. Не ведаю, якія чары ўжываюць гэтыя лайдакі, але, напэўна, яны прыварожваюць дзяўчат, бо скрозь, дзе ёсць бандыты, знойдзеш і красунь.

— Вы вельмі ветлівы, пане сяржант,— сказала Каломба.— Але лепш бы вы выбіралі словы. Гэтая панна — сваячка прэфекта, не варта жартаваць з ёю.

— Сваячка прэфекта! — прамармытаў адзін вальтыжор начальніку.— І сапраўды, яна ў капялюшыку.

— Капялюшык нічога не значыць,— сказаў сяржант.— Абедзве яны былі з кюрэ, а ён найслаўнейшы спакуснік на востраве; мой абавязак — затрымаць іх. Да таго ж, і нам няма чаго больш тут рабіць. Каб не гэты пракляты капрал Тапэн... гэты французскі п'янюга высунуўся раней, чым я паспеў атачыць макі... Каб не ён, мы б загарнулі іх, як невадам.

— Вас сямёра? — спыталася Каломба.— Ведаеце, панове, калі б выпадкова тры браты Гамбіні, Сарокі і Тэадор Полі былі з Брандалача і кюрэ каля крыжа Святое Хрысціны, далі б яны вам чосу. А каб вам давялося мець справу з *Commandant de la campagne*[1], я б пастаралася быць адтуль як мага далей. Уночы кулі не разбіраюць.

Магчымасць сустрэцца з грознымі бандытамі, якіх толькі што назвала Каломба, здавалася, зрабіла ўражанне на вальтыжораў. Увесь час кленучы капрала Тапэна, гэтага французскага пса, сяржант загадаў адступаць, і маленькае войска накіравалася да П'етранэры, забраўшы бурку і чыгунок. Што да збанка, дык з ім расправіліся ўдарам нагі. Адзін вальтыжор хацеў узяць міс Лідзію пад руку, але Каломба адпіхнула яго:

— Не руш яе! Вы што, думаеце, што мы збіраемся ўцячы? Лідзія, мілая, абапрыцеся на мяне і не плачце, як

[1] Начальнік наваколля — такі тытул узяў сабе Тэадор Полі.

дзіцёнак. Гэта ў нас прыгода, але яна скончыцца не кепска; праз паўгадзіны мы будзем вячэраць. Я ўжо паміраю з голаду.

— Што пра мяне падумаюць? — зусім ціха спыталася міс Нэвіл.

— Падумаюць, што вы заблукалі ў лесе, вось і ўсё.

— Што скажа прэфект?.. А што скажа мой бацька?

— Прэфект?.. Скажаце яму, каб займаўся сваёй прэфектурай. А ваш бацька?.. Мяркуючы па тым, як вы гутарылі з Орса, вам будзе што расказаць вашаму бацьку.

Замест адказу міс Нэвіл сціснула ёй руку.

— Хіба мой брат не варты, каб яго кахалі? — прашаптала Каломба ёй на вуха.— Хіба вы не кахаеце яго трошкі?

— Ах, Каломба,— сказала міс Нэвіл, усміхаючыся, нягледзячы на збянтэжанасць,— вы мне здрадзілі, а я так верыла вам!

Каломба абняла яе за талію і пацалавала ў лоб.

— Сястрычка мая,— сказала яна ціхенька,— вы мне даруеце?

— Мушу дараваць, мая жахлівая сястра,— адказала Лідзія, у сваю чаргу цалуючы яе.

Прэфект і каралеўскі пракурор жылі ў намесніка мэра. Палкоўнік, моцна хвалюючыся за дачку, ужо дваццаты раз прыйшоў да іх спытацца навінаў, калі з'явіўся вальтыжор, якога выправіў сяржант, і распавёў ім пра жахлівую бітву з бандытамі, у якой, што праўда, не было ні забітых, ані параненых, але ў якой захапілі чыгунок, бурку і дзвюх дзяўчат, якія, паводле ягоных словаў, былі каханкі ці шпіёнкі бандытаў. Абвешчаныя такім чынам, з узброеным эскортам з'явіліся дзве паланянкі. Можна ўявіць сабе радасць Каломбы, збянтэжанасць міс Лідзіі, здзіўленне прэфекта, радасць і здзіўленне палкоўніка. Каралеўскі пракурор не мог адмовіцца ад падступнага задавальнення ўчыніць беднай міс Лідзіі нешта накшталт допыту, які спыніў адно тады, калі яна канчаткова збянтэжылася.

— Здаецца мне,— сказаў прэфект,— што мы можам усіх вызваліць. Гэтыя панны хадзілі прагуляцца, што цалкам натуральна такім цудоўным надвор'ем; выпадкова яны сустрэліся з прыемным маладым параненым, і гэта таксама цалкам натуральна.

Потым адвёў Каломбу ўбок і сказаў:

— Панна, вы можаце перадаць свайму брату, што справы ягоныя паварочваюцца лепей, чым я спадзяваўся. Даследаванне трупаў і палкоўнікава паказанне сведчаць, што

ён усяго толькі абараняўся і што падчас бою ён быў адзін. Усё ўладкуецца, але няхай ён найхутчэй выйдзе з макі і здасца ўладам.

Было ўжо каля адзінаццаці, калі палкоўнік, ягоная дачка і Каломба селі за астылую вячэру. Каломба ела ўсмак, насміхаючыся з прэфекта, каралеўскага пракурора і вальтыжораў. Палкоўнік еў моўчкі, паглядаючы на дачку, што не падымала вачэй ад талеркі. Нарэшце мякка, але сур'ёзна спытаўся па-англійску:

— Лідзія, ты дала згоду дэла Рэбія?

— Так, тата, сёння,— адказала яна, зачырванеўшыся, але цвёрда.

Пасля падняла вочы і, не заўважыўшы на бацькавым твары гневу, кінулася да яго ў абдымкі і пацалавала, як робяць у такім выпадку выхаваныя панначкі.

— У добры час! — сказаў палкоўнік.— Ён добры хлопец. Але бачыць бог, мы не застанемся ў гэтай д'яблавай краіне! Альбо я не дам згоды.

— Я не ведаю англійскай,— сказала Каломба, што паглядала на іх з надзвычайнаю цікаўнасцю,— але іду ў заклад, што здагадалася, пра што вы гаворыце.

— Мы гаворым,— сказаў палкоўнік,— што павязём вас у падарожжа ў Ірландыю.

— Згода, і я буду *surella Colomba*[1]. Дамовіліся, палкоўнік? Ударым па руках?

— У такім выпадку цалуюцца,— сказаў палкоўнік.

## XX

Праз некалькі месяцаў пасля двайнога стрэлу, ад якога сумелася (так напісалі газеты) уся камуна П'етранэры, нейкі малады чалавек, левая рука якога вісела на подвязцы, апоўдні конна выехаў з Бастыі і накіраваўся да сяла Кардо, слыннага праз фантан, з якога ўлетку бяруць цудоўную ваду разбэшчаныя гараджане. З ім была дзяўчына, высокая і надзвычай прыгожая. Яна сядзела на невысокім вараным коніку, жвавасцю і зграбнасцю якога залюбаваўся б любы знаўца, але, на жаль, левае вуха ў яго было неяк дзіўна рассечана. У сяле дзяўчына спрытна саскочыла на зямлю, дапамагла хлопцу злезці з каня і адвязала ад лукі сядла досыць цяжкія саквы. Коней паставілі ў кагосьці з сялян, жанчына ўзяла саквы, якія яна прыкрыла вуалькай,

[1] Сястрычка Каломба *(карс.)*.

мужчына дубальтоўку, і яны рушылі ў горы вельмі крутою сцежкай. Не падобна было, каб яна вяла да нейкага жытла. Падняўшыся на адзін з выступаў гары Квэрча, яны спыніліся і селі на траву. Здавалася, яны кагосьці чакалі, бо ўвесь час пазіралі на гару, а жанчына раз-пораз глядзела на прыгожы залаты гадзіннічак, відаць, больш дзеля таго, каб палюбавацца нядаўна падараванаю аздобаю, чым дзеля таго, каб даведацца, ці не надышоў час сустрэчы. Чакалі яны нядоўга. З лесу выскачыў сабака; пачуўшы ад жанчыны мянушку Бруска, ён скочыў да іх лашчыцца. Неўзабаве з'явіліся двое барадатых мужчын, у руках у іх былі стрэльбы, на паясах — ладаўніцы, пры боку віселі пісталеты. Іхняя парваная і залапленая вопратка кантраставала з цудоўнаю зброяй вырабуаднае знакамітае на кантыненце фабрыкі. Неўзіраючы на відавочную няроўнасць становішча, усе чатыры персанажы гэтае сцэны сустрэліся дружна, як старыя сябры.

— Ну што, Орс Антон,— сказаў старэйшы бандыт маладому чалавеку.— Вось ваша справа і скончылася за адсутнасцю складу злачынства. Віншую вас. Шкада, што адваката няма больш на востраве, паглядзець бы, як ён злуецца. Як ваша рука?

— Кажуць, што праз два тыдні я змагу зняць павязку,— адказаў малады чалавек.— Бранда, дружа, заўтра я ад'язджаю ў Італію і хацеў развітацца з табою, а таксама з панам кюрэ. Таму я і прасіў вас прыйсці сюды.

— Вы надта спяшаецеся,— сказаў Брандалача.— Адно ўчора вас апраўдалі, і заўтра вы ўжо ад'язджаеце?

— Бо маем справы,— вясёла адказала дзяўчына.— Панове, я прывезла вам павячэраць: ежце і не забывайцеся пра майго сябра Бруска.

— Вы песціце Бруска, панна Каломба, але ён не забываецца ласкі. Зараз пабачыце,— сказаў ён і гарызантальна падняў стрэльбу.— Давай, Бруска, скокні для Барычыні.

Сабака не рухаўся, аблізваючыся і паглядваючы на гаспадара.

— Скокні для дэла Рэбія!

І сабака скочыў на два футы вышэй, чым было трэба.

— Паслухайце, сябры,— сказаў Орса,— вы займаецеся благою справай. Калі вы не скончыце свае дні на плошчы, што віднеецца вунь там[1], найлепшае, што вам можа выпасці, гэта палегчы ў макі ад жандарскае кулі.

---

[1] Плошча ў Бастыі, дзе адбываюцца пакаранні *(аўт.)*.

— Што з таго! —сказаў Кастрыконі.—Гэтая смерць, як і любая іншая, яшчэ й лепшая за ліхаманку, якая даканае вас у ложку пад больш ці менш шчырае галашэнне вашых спадкаемцаў. Калі нехта прывычны, як мы, да вольнага ветру, ён не баіцца памерці на нагах, як кажуць нашы сяляне.

— Мне б хацелася,— сказаў Орса,— каб вы пакінулі гэты край... і вялі спакайнейшае жыццё. Напрыклад, чаму б вам не перасяліцца ў Сардынію, як робяць шмат хто з вашых сяброў. Я б мог дапамагчы вам.

— У Сардынію! — закрычаў Брандалача.— Istos Sardos![1] Д'яблы няхай іх дзяруць, разам з іхняю гаворкаю. Для нас гэта кепская кампанія.

— У Сардыніі няма з чаго жыць,— дадаў кюрэ.— А я дык увогуле пагарджаю сардамі. Бандытаў у іх ловіць конная міліцыя, з гэтага насміхаюцца і бандыты, і жыхары краіны[2]. Цьху на гэтую Сардынію! Што мяне дзівіць, пане дэла Рэбія, дык гэта тое, што вы, чалавек з такімі ведамі і густам, не засталіся з намі, паспытаўшы нашага жыцця ў макі.

— Але,— усміхнуўся Орса.— Калі я меў шчасце быць вашым хаўруснікам, я не мог ацаніць прываблівасць вашага становішча, да таго мне і зараз рэбры баляць, як узгадаю тую начную ганітву, калі я ляжаў, як мех, папярок неаседланага каня, якім кіраваў мой сябра Брандалача.

— А радасць унікнуць пагоні! — зноў пачаў Кастрыконі.— Яе вы не ўлічваеце? І як вы можаце ўстояць перад чарамі суцэльнае волі ў краіне з такім кліматам, як наш? З гэтым носьбітам павагі (і ён паказаў стрэльбу) вы кароль скрозь, дзе далятае ваша куля. Гэта, васпане, забава высокамаральная і прыемная, ад якое мы нізашто не адмовімся. Хіба ёсць што лепшае за жыццё вандроўнага рыцара, калі ён лепш узброены і больш разважлівы, чым Дон Кіхот? Вось слухайце: неяк я даведаўся, што дзядзька маленькае Лілы Луіджы, гэты шматок старога сала, не хоча даць за ёю пасагу. Я напісаў яму ліст, без пагрозаў, бо гэта не мой звычай. Што вы думаеце, я пераканаў яго за хвіліну, і ён аддаў яе замуж. Я зрабіў шчаслівымі двух чалавек. Паверце, пане Орса, нішто не параўнаецца з жыццём бандыта. Ба! Можа б,

[1] Ух, гэтыя сарды!
[2] Гэтую крытычную заўвагу пра Сардынію я запазычыў у аднаго майго прыяцеля, былога бандыта, і ўся адказнасць спадае на яго. Ён хацеў сказаць, што толькі дурань не здолее ўцячы ад конніка і што міліцыі, якая ловіць бандытаў конна, рэдка шанцуе *(аўт.)*.

вы і прыйшлі да нас, каб не гэтая англічанка, якую я бачыў толькі мімаходзь, але пра якую ўсе ў Бастыі гавораць з захапленнем.

— Мая будучая швагерка не любіць макі,— сказала Каломба, смеючыся.— Яна занадта яго баіцца.

— Значыць, вы хочаце застацца тут? — сказаў Орса.— Згода. Ці магу я што зрабіць для вас?

— Нічога,— адказаў Брандалача.— Хіба што ўзгадаеце часам пра нас. Вы і так нас шчодра дарылі. Кіліна мае пасаг, і, каб яе ўладкаваць, майму сябру кюрэ варта будзе толькі напісаць ліст без пагрозаў. Мы ведаем, што ваш арандатар будзе даваць нам хлеб і порах, калі спатрэбіцца. Ну дык да пабачэння. Спадзяюся ў хуткім часе зноў убачыць вас на Корсіцы.

— У цяжкую прыгоду пару залатовак могуць прыдасца вам,— сказаў Орса.— Цяпер мы ўжо старыя знаёмыя, і вы не адмовіцеся прыняць ад мяне гэтую каліту, яна вам дапаможа.

— Ніякіх грошай, лейтэнант,— рашуча сказаў Брандалача.

— У гарадах грошы робяць усё,— сказаў Кастрыконі.— А ў макі вам дапамогуць толькі адважнае сэрца і стрэльба, што не дае асечкі.

— Я б не хацеў пакідаць вас,— зноў сказаў Орса,— не пакінуўшы што-колечы на памяць. Што б я мог пакінуць табе, Брандалача?

Бандыт паскроб галаву і скоса зірнуў на Орсаву стрэльбу:

— Ат, пане лейтэнант... каб я адно наважыўся... але ж не, вам яна дарагая.

— Што ты хочаш?

— Нічога... сама рэч нічога не значыць... Трэба яшчэ ўмець карыстацца ёю. Я ўсё думаю пра гэты чортаў двайны стрэл адною рукой... О, другі раз так не зробіш.

— Дык ты хочаш маю стрэльбу!.. Я яе табе і вёз; але карыстайся ёю як мага радзей.

— О! Я не абяцаю карыстацца ёю, як вы, але будзьце спакойны, калі яна трапіць да каго іншага, вы зможаце напэўна сказаць, што Бранда Савэлі яна ўжо не патрэбная.

— А вам, Кастрыконі, што падараваць?

— Калі вы канечне хочаце пакінуць мне матэрыяльны ўспамін пра сябе, то я без цырымоній папрашу даслаць мне кніжку Гарацыя як мага меншага фармату. Гэта мяне забавіць і не дасць забыць лаціну. У Бастыі, у порце, ёсць ад-

на сяброўка, што прадае цыгары, аддайце ёй, яна мне яе перадасць.

— У вас будзе Эльзевір, пане навуковец; якраз такі ёсць сярод кніг, што я хачу забраць з сабою. Што ж, сябры, час развітвацца. Дайце мне вашы рукі. Калі вы неяк надумаеце пра Сардынію, напішыце мне. Адвакат дасць вам мой адрас на кантыненце.

— Пане лейтэнант,— сказаў Бранда,— заўтра, як будзеце выходзіць з порта, пaглядзіце на гэтае месца на гары, мы будзем тут і памахаем вам хустачкамі.

І яны разлучыліся: Орса з сястрою рушылі ў Кардо, а бандыты накіраваліся ў горы.

## XXI

Гожым красавіцкім ранкам палкоўнік сір Томас Нэвіл, ягоная дачка, што нядаўна выйшла замуж, Орса і Каломба выехалі на калясцы з Пізы, каб наведаць нядаўна знойдзенае этрускае сутарэнне, на якое ездзілі паглядзець усе чужаземцы. Спусціўшыся ўсярэдзіну, Орса з жонкаю палічылі, што абавязкова павінны замаляваць роспісы, і дасталі алоўкі. Палкоўнік з Каломбаю, абыякавыя да археалогіі, пакінулі іх адных і выправіліся прагуляцца ў наваколлі.

— Мая мілая Каломба,— сказаў палкоўнік,— мы не паспеем вярнуцца ў Пізу да *luncheon*[1]. Вам не хочацца есці? Орса з жонкаю заняліся старажытнасцямі, калі яны пачынаюць маляваць разам, гэта можа доўжыцца да бясконцасці.

— Так,— сказала Каломба.— Аднак яны не прыносяць ніякіх малюнкаў.

— На маю думку,— сказаў палкоўнік,— варта было б схадзіць вунь на тую маленькую ферму. Мы знойдзем там хлеба і, хто ведае, можа быць, *aleatico*[2], а таксама смятаны і трускавак і спакойна пачакаем там нашых мастакоў.

— Маеце рацыю, палкоўнік. У нашай сям'і толькі вы ды я разважлівыя людзі. Было б памылкаю пакутаваць з-за гэтых закаханых, што жывяцца адною паэзіяй. Давайце вашу руку. Праўда, я ўжо навучаюся? Я хаджу пад ручку, нашу капялюшыкі і модныя сукенкі, маю аздобы, ведаю безліч прыгожых штучак, ■ ўжо зусім не дзікунка. Гляньце адно, як грацыёзна я нашу гэты шаль... Той бландзін, афі-

---

[1] Снеданне.
[2] Сорт віна.

цэр з вашага палка, што быў на вяселлі... божухна, ніяк не магу запомніць ягонае імя, такі высокі і кучаравы, я б звалі-ла яго з ног адным ударам...

— Чэртворт? — спытаўся палкоўнік.

— Можа быць, і так, але я ніколі так не вымаўлю. Дык вось, ён закаханы ў мяне насмерць.

— О Каломба! Вы робіцеся какеткаю. Хутка ў нас будзе яшчэ адно вяселле.

— Мне — замуж?! А хто ж будзе гадаваць майго пляменніка.., калі Орса мяне ім узрадуе? Хто навучыць яго гаварыць па-карсіканску?.. Так, ён будзе гаварыць па-карсіканску, і ■ зраблю яму вастраверхі каптур, каб вас пазлаваць.

— Няхай спачатку ў вас з'явіцца пляменнік, а потым вучыце яго гуляць стылетам, калі вам так захочацца.

— Бывайце, стылеты,— весела адказала Каломба.— Цяпер я маю веер, каб біць вас па пальцах, калі вы будзеце гаварыць кепскае пра маю радзіму.

Гутарачы такім чынам, яны зайшлі на ферму і знайшлі там віна, трускавак і смятаны. Пакуль палкоўнік піў віно, Каломба дапамагала гаспадыні збіраць трускаўкі. На павароце алеі яна заўважыла нейкага старога, што сядзеў на сонейку ў саламяным крэсле. Здавалася, ён быў хворы, бо ягоныя шчокі запалі, вочы ўваліліся, ён быў страшэнна худы, а ягоная нерухомасць, бледнасць, бессэнсоўны пагляд рабілі яго больш падобным да нябожчыка, чым да жывое істоты. Каломба доўга пазірала на яго з такою цікаўнасцю, што прыцягнула ўвагу гаспадыні.

— Гэта няшчасны стары,— сказала яна,— з вашых краёў, бо з вашае гаворкі я адразу зразумела, што вы з Корсікі. На радзіме з ім здарылася няшчасце, ягоныя дзеці памерлі страшнаю смерцю. Кажуць, даруйце мне, панна, што вашы землякі не надта літасцівыя да сваіх ворагаў. Застаўшыся адзінокі, гэты няшчасны пан выехаў у Пізу да сваёй далёкай сваячкі, якой належыць гэтая ферма. З гора і скрухі гэты гаротнік зрабіўся трохі ненармальны... Гэта замінала пані, у яе бывае шмат народу, дык яна выправіла яго сюды. Ён добры, нікому не замінае, за дзень і тры словы не скажа. Доктар прыязджае штотыдзень і гаворыць, што ён доўга не працягне.

— А, дык ён хутка памрэ? — сказала Каломба.— У ягоным становішчы гэта шчасце.

— Пагаварыце з ім трохі па-карсіканску, панна. Можа, яму будзе прыемна пачуць мову сваёй радзімы.

— Трэба паспрабаваць,— сказала Каломба, іранічна ўсміхаючыся.

Яна стала ля яго так, што закрыла яму сонца. Тады бедны вар'ят падняў галаву і пільна паглядзеў на Каломбу, якая глядзела на яго таксама і ўсміхалася. Праз хвіліну стары правёў рукою па твары і заплюшчыў вочы, бы хацеў унікнуць погляду Каломбы. Пасля расплюшчыў іх, але надзвычай шырока, ягоныя вусны дрыжалі, ён хацеў выцягнуць рукі, але, зачараваны Каломбаю, сядзеў, прыкуты да крэсла, не могучы загаварыць, ані варухнуцца. Нарэшце буйныя слёзы пакаціліся па шчоках і некалькі ўсхліпаў вырвалася з грудзей.

— Першы раз бачу яго такога,— сказала садоўніца і звярнулася да старога: — Панна — ваша зямлячка, яна прыехала вас наведаць.

— Злітуйся! — закрычаў стары сіпата.— Злітуйся! Хіба ты не здаволілася? Гэты лісток... Я спаліў яго... Як ты здолела яго прачытаць?.. Але чаму абодвух? Арландуча... Ты не магла нічога прачытаць пра яго... Хай бы ты мне пакінула аднаго... Арландуча... Ты не прачытала ягонага імя...

— Мне патрэбны былі абодва,— ціха сказала яму Каломба карсіканскаю гаворкай.— Галіны абсечаныя, а калі б камель не згніў, я б і яго вырвала. Не скардзіся, табе не доўга пакутаваць. А я пакутавала два гады!

Стары закрычаў, ягоная галава ўпала на грудзі. Каломба адвярнулася ад яго і павольна рушыла да дому, напяваючы незразумелыя словы нейкае baeata: «Мне трэба рука, што страляла, вока, што цэліла, сэрца, што задумала...»

Садоўніца кінулася дапамагаць старому, а Каломба, заружавеўшыся, з агнём у вачах, села за стол побач з палкоўнікам.

— Што гэта з вамі? — спытаўся ён.— Вы зноў выглядаеце як у П'етранэры, калі падчас абеду па нас пачалі страляць.

— Мне ўзгадалася Корсіка. Але зараз усё скончылася. Я буду хросная, праўда? О, якія прыгожыя імёны я яму дам: Гільфуча — Тамаза — Орса — Монэ.

У гэтую хвіліну падышла садоўніца.

— Ну што,— спыталася Каломба з самым непарушным выглядам,— ён памёр ці адно знепрытомнеў?

— Усё добра, панна, але дзіўна, як яго ўразіла ваша з'яўленне.

— І доктар казаў, што яму нядоўга засталося?

— Можа быць, не больш за два месяцы.

— Невялікая страта,— заўважыла Каломба.

— Пра каго гэта вы гаворыце? — спытаўся палкоўнік.

— Пра аднаго вар'ята з нашых краёў,— абыякава сказала Каломба.— Ён жыве тут. Я часам буду пісаць сюды, каб даведацца пра яго. Але, палкоўнік, пакіньце ж трускаўкі майму брату і Лідзіі!

Калі Каломба выйшла з фермы і накіравалася да каляскі, фермерыха паназірала за ёю нейкі час, а потым сказала дачцэ:

— Бачыш гэтую прыгожую панну? Я ўпэўнена, што ў яе злое вока.

КАЛОМБА

Аповесць упершыню надрукавана ў «Revue des Deux Mondes» 1 ліпеня 1840 года. У 1841 годзе выйшла асобнаю кнігай разам з «Венерай Ільскаю» і «Душамі чыстца».

С. 128. *Пан Журдэн* — персанаж камедыі Мальера «Мешчанін-шляхціц».

С. 131. *Буй-абэс* — правансальскі суп з рыбаю, варанай у вадзе або белым віне з вострымі прыправамі.

*Канэб'ер* — вуліца ў Марсэлі.

С. 135. *...у бойцы пры Вікторыі...*— У гэтай бітве ў Паўночнай Іспаніі аб'яднаныя англа-іспанскія войскі, узначаленыя Велінгтонам, разбілі французаў (1813).

С. 136. *Кампа-Санта* (даслоўна: Святое поле).— Так у Італіі і Іспаніі называюцца аздобленыя надгробкамі і помнікамі гарадскія могілкі.

*Арканья*, Андрэа ды Чыёнэ Арканьёла (каля 1308—1368) — мастак і скульптар з Фларэнцыі.

С. 137. *Велінгтан*, Артур (1769—1852), герцаг — англійскі ваявода, удзельнік войнаў з Напалеонам, камандаваў войскамі саюзнікаў у бітве пры Ватэрлоа (1815).

*Блюхер*, Гетгард (1742—1819) — нямецкі генерал; падыход яго корпуса падчас бітвы пры Ватэрлоа канчаткова вырашыў зыход яе на карысць саюзнікаў.

С. 138. *Філіпіні*, Антоніо-П'етро (каля 1529—1594) — французскі гістарыёграф карсіканскага паходжання; аўтар пяцітамовай «Гісторыі Корсікі», якою ў якасці крыніцы карыстаўся Мерымэ.

*Самп'ера Корса* д'Арнана (1498—1567) — карсіканскі ваявода і патрыёт, праслаўлены сваёю барацьбой з Генуяй.

С. 141. *Ф'еска*, Джан Луіджы, граф Лаванья (1522—1547) — завадатар змовы супраць генуэзскага кандацьера Андрэа Дорыя.

С. 145. *Маркіз дэ Маскарый.*— Гэтае імя і тытул прысвоіў сабе слуга ў камедыі Мальера «Цырымонлівыя паненкі», які на загад свайго пана выстаўляў сябе арыстакратам і гаварыў блытана і мудрагеліста.

С. 148. *Мэнтан* — горад у Англіі, дзе выраблялася пальная зброя высокай якасці.

С. 149. *Франчэска да Рыміні.*— У «Пекле» Дантэ (песня V) апавядаецца пра каханне Франчэскі Рыміні і Паола Малатэста, яе дзевера. Яны адкрылі адно аднаму сваё каханне, чытаючы рыцарскі раман пра любоўныя прыгода Ланселота.

С. 152. *Фідый* (каля 490—430 да н. э.) — старажытнагрэчаскі скульптар.

*Згодна з правілам Гарацыя...*— Мерымэ падае далей словы з «Паэтычнага мастацтва» Гарацыя (верш 148), сказаныя ім пра Гамера.

С. 154. *...як Панург, «ад прыроды баяўся бойкі»...*— маецца на ўвазе адна з рыс героя рамана Рабле «Гарганцюа і Пантагруэль» (кн. II, раздз. 21).

С. 160. *Кампанія.*— Маецца на ўвазе Ост-Індская кампанія, якая трымала ў сваіх руках увесь англійскі гандаль з Індыяй і нажывала на гэтым вялізныя грошы. Кампанія няшчадна эксплуатавала індусаў.

С. 164. *Конрад* — герой паэмы Байрана «Карсар» (1814).

С. 167. *Марбёф,* Луі-Шарль-Рэнэ (1712—1786) — губернатар Корсікі.

С. 170. *...пры Катр-Бра...*— Гэтая бітва на тэрыторыі Бельгіі адбылася 16 чэрвеня 1815 года; французскія войскі пад кіраўніцтвам маршала Нэя перамаглі англічанаў.

С. 174. *Амбігю Камік* — парыжскі тэатр, заснаваны ў 1869 годзе. На сцэне гэтага тэатра з поспехам ставіліся меладрамы.

С. 176. *Шэндзі* — галоўны герой рамана Лорэнса Стэрна «Жыццё і меркаванні Трыстрама Шэндзі, джэнтльмена».

С. 181. *...вершы Віргілія...*— Далей падаецца цытата з «Энеіды» Вергілія (II. IX).

С. 203. *Мая далікатная Каломба...*— «Каломба» па-італьянску і па-карсіканску — галубка.

С. 215. *«Атэла»* — опера Расіні, напісаная ў 1816 годзе на сюжэт аднайменнай трагедыі Шэкспіра.

*Ірыда* — у грэчаскай міфалогіі крылатая пасланка багоў, сямі-колерная перавязь якой атаясамліваецца з вясёлкай.

С. 216. *Коранэр* — у Англіі следчы, што вядзе справы аб гвалтоўнай ці раптоўнай смерці.

С. 235. *Эльзевір.*— Кнігі, надрукаваныя галандскімі выдаўцамі Эльзевірамі (XVI—XVII стст.), вызначаюцца дробным друкарскім шрыфтам.